Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# ЛіМ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ISSN 0024-4686

№ 18 (4562) 7 мая 2010 г.


## У нумары:




ІДЗЕ ПАДПІСКА
на I паўгоддзе 2010 года

| Для індывідуальных падпісчыкаў: | Ведамасная падпіска: |
| --- | --- |
| 1 месяц — 8150 руб. Падпісны індэкс — 63856 | 1 месяц — 11070 руб. Падпісны індэкс — 638562 |

Індывідуальная льготная падпіска для настаўнікаў: на 1 месяц — 5460 руб. Падпісны індэкс — 63815

Льготная падпіска для ўстаноў культуры і адукацыі: 1 месяц — 8660 руб. Падпісны індэкс — 63880

Каб год для вас быў неблагім — падпішыцеся на «ЛіМ»!


Шэсцьдзесят пяць пасляваенных гадоў... Гэта значыць, што тры пакаленні нашых суайчыннікаў узгадаваны пад мірным небам; што равеснікі Перамогі ўжо дачакаліся ўнукаў, і што з кожным годам адыходзяць ад нас апошнія сведкі і непасрэдныя ўдзельнікі трагічных падзей 1941 — 1945-га. Гісторыя ніколі не праходзіць бясследна, асабліва, калі гэта яшчэ не забытая вайна. Нават калі ты сам не перажыў яе, а ведаеш пра той мужны і суровы час толькі з кніжак, кінафільмаў, успамінаў, дакументаў, якія нясуць у сабе подых эпохі, Вялікай Перамогі. Гэтымі днямі ўсе ўстановы культуры, адукацыі нашай краіны з'яўляюцца арганізатарамі мерапрыемстваў, прымеркаваных да гэтай вялікай даты.




# Адна ты на ўсіх, Перамога!




Паслязаўтра наша краіна адзначыць вельмі значную дату — 65-годдзе Вялікай Перамогі. У гэты дзень усенароднай радасці заўсёды блішчаць слёзы на вачах, а сэрцы сціскаюцца ад горычы страт. Але ён быў і застаецца светлым, бо гэта дзень надзеі і веры ў сілы народа, у шчасце мірнага жыцця. З нагоды гэтай падзеі Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь сумесна з Нацыянальнай бібліятэкай і Беларускім дзяржаўным музеем гісторыі Вялікай Айчыннай вайны наладзілі рэспубліканскую выстаўку плакатаў вядомых майстроў савецкай плакатнай графікі "Шлях да Перамогі". Менавіта пра гэтыя шляхі выпрабаванняў, мужнасці і адвагі, пра галоўныя падзеі таго часу праз бясцэнныя выданні, арыгінальныя друкаваныя плакаты франтавой, тылавой, акупацыйнай і партызанскай тэматыкі расказвае экспазіцыя дадзенай выстаўкі. Тут ажылі старонкі слаўнага мінулага, з наведвальнікамі гаворыць сама гісторыя, подзвіг, памяць.

Распачынаючы мерапрыемства, дырэктар НББ Раман Матульскі зазначыў, што за Вялікую Перамогу наш народ заплаціў вельмі дарагой цаной. І чым далей гэта дата, тым больш велічнай яна выглядае. На жаль, штогод адыходзяць ад нас удзельнікі вайны, тыя, хто памятае кожны яе дзень. Часам у кагосьці з'яўляецца спакуса паказаць гэту вайну інакш, перакруціць факты. А калі няма жывых сведкаў, то сапраўды, няма каму сказаць важкае слова супраць. Але застаюцца дакументы, матэрыялы, рукапісы, напісаныя рукой удзельнікаў тых жудасных падзей. На думку Рамана Сцяпанавіча, адна рукапісная лістоўка, адна насценгазета, якія прэзентуюцца на выстаўцы, па сваім уздзеянні і аргументах пераважаць, можа, і шматлікія навуковыя тамы.

Нацыянальная бібліятэка сумесна з музеем гісторыі Вялікай Айчыннай вайны даўно праводзіць сумесную працу па выяўленні тых дакументаў, якія не вядомыя шырокаму колу наведвальнікаў, якія могуць дапамагчы нашым сучасным даследчыкам, навукоўцам высветліць некаторыя маловядомыя старонкі вайны.

Старшы выкладчык кафедры ідэалагічнай работы Ваеннай акадэміі Рэспублікі Беларусь падпалкоўнік Сяргей Раўтовіч падкрэсліў, што невыпадкова напярэдадні Вялікай Перамогі ў НББ адкрываецца выстаўка ваеннага плаката. Для ветэранаў, якія прысутнічаюць на мерапрыемстве, гэта напамін пра маладосць, пра таварышаў, якія загінулі на франтах, але адстаялі незалежнасць нашай радзімы. Намеснік дырэктара Беларускага дзяржаўнага музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны Вячаслаў Казачонак адзначыў, што музей, захоўваючы памяць пра Вялікую Перамогу, штодзённа знаходзіць і новыя сведчанні той вайны, разнастайныя дакументы. Калекцыю музея пачалі збіраць яго супрацоўнікі яшчэ за год да Перамогі, у 1944-м. Адной з першых экспазіцый была менавіта выстаўка ваенных плакатаў. Тады яшчэ не было плаката, што дайшлі да Берліна, тая падзея была яшчэ наперадзе.

У гістарычным дакуменце закладзена вялікая сіла. Засвоенае плакатнай спецыфікі таго часу, усведамленне яе функцыянальнай прыроды дазволілі мастакам ваеннага перыяду выпрацаваць асаблівы плакатны стыль, які адрозніваецца патрыятычнай выразнасцю, дасціпам выдумкі і нават вялікім пачуццём гумару.

Ветэран Вялікай Айчыннай вайны, партызан брыгады "Беларусь", воін I Беларускага фронту, які браў удзел у штурме Берліна, Уладзімір Пархімчык, стрымліваючы слёзы, падкрэсліў: мерапрыемства важнае, але і цяжкае. Уладзімір Васільевіч падзяліўся ўспамінамі пра сваё партызанскае жыццё, ваенныя дзеянні. Пісьменнік-ветэран Алесь Савіцкі параўнаў плакаты з сапраўднай зброяй і таксама ўзгадаў эпізоды свайго ваеннага шляху.

Старшы навуковы супрацоўнік аддзела навукова-фондавай работы музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны Галіна Паўлоўская паведаміла прысутным, што ўжо ў першы дзень вайны перад Саюзам мастакоў СССР была пастаўлена задача: усе свае мастацкія сілы скіраваць у часопісна-сатырычную графіку і плакат. Першы ж плакат Вялікай Айчыннай вайны быў створаны ўжо да вечара 22 чэрвеня 1941 года, які, дарэчы, прадстаўлены ў экспазіцыі. Яго аўтары — мастакі Кукрыніксы.


**(Заканчэнне на стар. 16)**

## Пункцірам

•Сёння завяршыўся II Усебеларускі Хросны ход "Царква і Армія", які праходзіў з нагоды святкавання 65-годдзя Вялікай Перамогі па благаславенні Мітрапаліта Мінскага і Слуцкага Філарэта, Патрыяршага Экзарха ўсяе Беларусі. Маршрут праходзіў па месцах пахавання воінаў — абаронцаў Айчыны. На брацкіх магілах былі здзейснены памінальныя службы з удзелам ветэранаў вайны, ваеннаслужачых, моладзі і прадстаўнікоў мясцовых улад. Беларускаму дзяржаўнаму музею гісторыі Вялікай Айчыннай вайны была перададзена на захоўванне памятная капсула з зямлёй з месцаў пахавання воінаў.

•Заўтра ў Нацыянальным гістарычным музеі адбудзецца адкрыццё выстаўкі "Водблiскі ваеннай славы" (еўрапейская зброя і вайсковае абмундзіраванне XIX — першай паловы XX ст. са збору НГМ Беларусі). Экспазіцыя адлюстроўвае развіццё вайсковай справы за 150-гадовы перыяд, з часу напалеонаўскіх войнаў і да канца Другой сусветнай вайны. Прадстаўлена каля 100 адзінак халоднай і 60 адзінак агнястрэльнай зброі, рарытэтныя ўзоры вайсковага абмундзіравання і рыштунку. Большая частка прадметаў экспануецца ўпершыню. Асобны раздзел выстаўкі — мемарыяльныя комплексы, прысвечаныя выдатным савецкім военачальнікам перыяду Вялікай Айчыннай вайны (Г. Жукаву, Н. Чыбісаву), у тым ліку ўраджэнцам Беларусі (А. Антонаву, А. Дземяшкевічу, Б. Пігарэвічу, Л. Грынвальд-Мухо).

•Да 1000-гадовага юбілею Брэста, які будзе адзначацца ў 2019 годзе, плануецца стварыць мінікопію старога горада, які спыніў сваё існаванне ў 1830-м, бо на яго месцы пабудавалі Брэсцкую крэпасць, паведамляе БелТА. Новы ж горад узвялі ў дзвюх вярстах на ўсход ад цытадэлі. Цяпер плануецца аднавіць старадаўняе Бярэсце ў маштабе 1:10 з брукаванымі вуліцамі, замкам, ратушай, калегіумам... Побач размесцяцца турыстычныя аб'екты: гасцініцы, кафэ, музеі, галерэі. Магчыма, міні-копію ўзвядуць на тэрыторыі крэпасці, якая не ўваходзіць у склад мемарыяльнага комплексу "Брэсцкая крэпасць-герой".

•Сёлета плануецца завяршыць рэстаўрацыю Мірскага замка. Пра гэта паведаміў начальнік упраўлення па ахове гісторыка-культурнай спадчыны і рэстаўрацыі Міністэрства культуры Ігар Чарняўскі. Аб'ект з 2000 года ўнесены ў Сусветны спіс прыроднай і культурнай спадчыны ЮНЕСКА. У гэтым годзе пачнецца аднаўленне і яшчэ аднаго помніка архітэктуры з гэтага спісу – касцёла Божага цела ў Нясвіжы (святыня ўваходзіць у спіс разам з палацава-паркавым ансамблем).

•На Гродзеншчыне падведзены вынікі абласнога конкурсу "Лепшы кіраўнік года-2009", вызначаны пераможцы ў дзесяці намінацыях. Лепшым кіраўніком установы культуры прызнана дырэктар Лідскага гісторыка-мастацкага музея Ганна Драб, павядамілі ва ўпраўленні ідэалагічнай работы аблвыканкама.

• У Малдове з'явіцца першы ў краіне помнік, прысвечаны кнізе, паведамляе БелТА. Манумент сімвала святла, веры і мудрасці ўяўляе сабой раскрытую кнігу, выкананую з бела-шэрага мармуру. У яе будуць упісаны радкі з класічных і біблейскіх твораў. Помнік плануецца ўстанавіць у Кішынёве перад будынкам Цэнтральнай навуковай бібліятэкі Акадэміі навук Малдовы імя Андрэя Лупана і адкрыць у чэрвені гэтага года ў дзень заснавання самой Акадэміі.

Падрыхтавалі Бажэна СТРОК і Віктар ЗАЯЦ

## У Саюзе пісьменнікаў Беларусі

# З пашанай да ветэранаў

Адбылося чарговае пасяджэнне прэзідыума Саюза пісьменнікаў Беларусі. Разгледжаны наступныя пытанні: "Аб падрыхтоўцы ГА "СПБ" да святкавання 65-годдзя Вялікай Перамогі", "Аб ходзе выканання Пастановы Пленума Саюза пісьменнікаў Беларусі "Подзвіг народа ў Вялікай Айчыннай вайне на старонках нашай літаратуры". З дакладамі выступілі старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі Мікалай Чаргінец і першы сакратар СПБ Генадзь Пашкоў.

Адзначалася, што да ўсенароднага свята выйшаў шэраг кніг пісьменнікаў-ветэранаў у серыі "Бібліятэка Саюза пісьменнікаў Беларусі".

У перадсвяточныя месяцы літаратары былі частымі гасцямі ў працоўных, студэнцкіх калектывах, наведвалі воінскія падраздзяленні. Творчыя дэсанты былі накіраваны ў 50-ю ордэна Чырвонай Зоркі авіяцыйную базу, вучэбны цэнтр "Печы", Ваенную акадэмію Рэспублікі Беларусь. Шырокі грамадскі рэзананс мелі ўрокі мужнасці, якія правялі пісьменнікі ў падшэфным ліцэі № 7 г. Мінска.

Мінскае абласное аддзяленне СПБ разам з Беларускім саюзам журналістаў і таварыствам "Веды" з вялікім поспехам завяршыла патрыятычную акцыю "Салют табе, Вялікая Перамога", якая праходзіла амаль два гады і ахапіла большасць раённых цэнтраў вобласці, дзе вяліся найбольш значныя баі як рэгулярных войск Чырвонай Арміі, так і партызанскіх фарміраванняў. Гэта акцыя шырока асвятлялася ў абласным і мясцовым друку.

Пісьменнікі прымалі самы актыўны ўдзел у правядзенні літаратурных конкурсаў сярод студэнтаў і школьнікаў, якія прысвячаліся Вялікай Перамозе.

Разам з тым на прэзідыуме падкрэслівалася, што з'яўляюцца публікацыі, якія фальсіфіцыруюць гераічныя падзеі мінулага, называліся канкрэтныя творы. "Гэта не павінна нікога пакідаць раўнадушным і ўсялякія спробы фальсіфікацыі павінны мець належны адпор", — зазначылі члены прэзідыума.

Прынята рашэнне аб правядзенні 12 мая ў вялікай зале Дома літаратара ўрачыстасцей з нагоды 65-годдзя Вялікай Перамогі. У час мерапрыемства будуць ушанаваны пісьменнікі-ветэраны вайны. Ім уручаць каштоўныя падарункі, сіламі артыстаў Белдзяржфілармоніі з удзелам пісьменнікаў будзе дадзены канцэрт.

Напярэдадні Дня Перамогі да Мемарыяльнай дошкі з імёнамі пісьменнікаў, якія загінулі ў баях за Радзіму, літаратары ўскладуць кветкі, выступяць са словамі ўдзячнасці героям.

На прэзідыуме адбыўся прыём у члены СПБ групы літаратараў.

Прэзідыум зацвердзіў аргкамітэт па арганізацыі ўдзелу СПБ у святкаванні Дня беларускага пісьменства, які адбудзецца ў верасні ў г. Хойнікі. Да гэтага свята Саюз пісьменнікаў Беларусі збірае бібліятэку твораў з аўтографамі аўтараў, якая будзе перададзена Хойніцкаму краязнаўчаму музею.

Прынята таксама рашэнне аб увекавечанні памяці пісьменнікаў Міколы Лобана і Сяргея Грахоўскага.

Людміла КАЛЕНДА

## Знакавая падзея



# Мэта — творчае ўдасканальванне

Сёння — апошні дзень працы XIV Міжнароднай спецыялізаванай выстаўкі "СМІ ў Беларусі" і Міжнароднага спецыялізаванага салона "Кантэнт і тэлекамунікацыі" ў Нацыянальным выставачным цэнтры "БелЭКСПА". Сёлетні форум прысвечаны 65-годдзю Вялікай Перамогі. Арганізатарамі выстаўкі выступілі міністэрствы інфармацыі, замежных спраў Рэспублікі Беларусь, Нацыянальная дзяржаўная тэлерадыёкампанія, Мінскі гарадскі выканаўчы камітэт, Беларускі саюз журналістаў, Саюз выдаўцоў і распаўсюджвальнікаў друку, РУП "Дом прэсы", НВЦ "БелЭКСПА".

З кожным годам выстаўка пашырае кола сваіх удзельнікаў. На гэты раз больш як 600 СМІ з розных краін свету прадставілі ўвазе публікі 80 экспазіцый. Тут сабраліся прадстаўнікі сродкаў масавай інфармацыі Беларусі, Расіі, Саюзнай дзяржавы, Украіны, Кітая, Індыі, Польшчы, Літвы, Латвіі, Ірана, Кубы. Як заўважыў аташэ Пасольства Індыі ў Беларусі Р.К. Шарма, беларусы цікавяцца індыйскай культурай, асабліва танцамі. Выстаўка ж дае магчымасць паказаць Індыю з іншага боку — праз прызму бачання сродкаў масавай інфармацыі. Да таго ж на выстаўцы былі прадстаўлены і СМІ беларускай дыяспары ў Расіі, Латвіі, Польшчы, Украіне, Аргенціне.

У цырымоніі адкрыцця выстаўкі прымалі ўдзел прадстаўнікі органаў дзяржаўнага кіравання, грамадскіх арганізацый краіны, дыпламатычных місій замежных краін у Рэспубліцы Беларусь.

Міністр інфармацыі Беларусі Алег Пралясоўскі заўважыў: "Мы рады, што да гэтага часу з намі застаюцца ветэраны вайны, ветэраны журналістыкі. Яны перадаюць свой вопыт і мудрасць маладым пакаленням". З прывітальным словам да ветэранаў і гасцей выстаўкі ад імя Кіраўніка дзяржавы звярнуўся памочнік Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь — начальнік галоўнага ідэалагічнага ўпраўлення Адміністрацыі Прэзідэнта Усевалад Янчэўскі. У прывітанні было, у прыватнасці, адзначана: штогадовая дэманстрацыя магчымасцей рэспубліканскіх і рэгіянальных СМІ, дзелавыя кантакты, абмен вопытам, канструктыўныя дыскусіі сведчаць пра зацікаўленасць грамадства ў далейшым развіцці СМІ. Міжнародны статус выстаўкі пацвярджае, што гэта маштабная падзея выклікае цікавасць не толькі ў Беларусі, але і за яе межамі.

Алесь Савіцкі, пісьменнік, франтавік, журналіст са шматгадовым вопытам працы, які ў гады вайны прымаў удзел у стварэнні рукапісных газет і часопісаў, на цырымонію адкрыцця выставы прынёс ксеракопіі газеты, якая выйшла 7 лістапада 1943 года. Ён заўважыў, што цяпер гэтыя выданні выглядаюць не зусім прадстаўніча, але ў час ваенных дзеянняў яны здольны былі аказаць надзвычай вялікае ўздзеянне на чытача, дапамагалі ў змаганні супраць ворага.

Наведвальнікі выставы мелі магчымасць пазнаёміцца з выданнямі РВУ "Літаратура і Мастацтва". Былі прадстаўлены часопісы "Полымя", "Маладосць", "Нёман", "Бярозка", альманах "Вожык", газета "Літаратура і мастацтва", кніжныя навінкі. Тут жа можна было аформіць падпіску на перыядычныя выданні рэдакцыйна-выдавецкай установы, а патэнцыяльныя і пастаянныя чытачы "Вожыка" за падпіску маглі атрымаць бонус — партрэт-шарж ад мастака Алеся Каршакевіча. Варта адзначыць, што часопіс "Нёман" быў прадстаўлены і як СМІ Саюзнай дзяржавы.

Адным з найважнейшых мерапрыемстваў форуму з'явіўся "круглы стол" "Вялікая Айчынная вайна ў нацыянальнай свядомасці беларускага народа. Гістарычная праўда як залог развіцця ў будучыні". Дзелавая ж праграма выстаўкі была арыентавана на абмеркаванне шырокага кола праблем арганізацыйна-прававой і эканамічнай дзейнасці СМІ, абмен творчым вопытам, прафесійнае развіццё. У ліку значных мерапрыемстваў — семінар-практыкум "Выкарыстанне сучасных інфармацыйных тэхналогій у рэдакцыйна-выдавецкіх працэсах", семінар "Уплывы сучасных тэхналогій на развіццё рэгіянальных электронных СМІ", "круглы стол" "Прававое рэгуляванне дзейнасці кабельных аператараў".

Многія мерапрыемствы выстаўкі прайшлі з удзелам прадстаўнікоў беларускай дыяспары за мяжой. Адбыўся і "круглы стол" "Дыялог дыяспар: дыяспара і СМІ". Тэма маралі, рэлігіі таксама знайшла сваё адлюстраванне на форуме — прайшоў "круглы стол" "СМІ і царква".

У межах выстаўкі адбылося ўзнагароджанне пераможцаў творчага конкурсу сярод журналістаў і СМІ на лепшае асвятленне пытанняў міжнацыянальных і міжканфесійных адносін, міжкультурнага дыялога ў Беларусі і супрацоўніцтва з суайчыннікамі за мяжой. А 5 мая, у Дзень друку, прайшла цырымонія ўзнагароджання пераможцаў VI Нацыянальнага конкурсу друкаваных СМІ "Залатая ліцера".

На форуме ўпершыню была арганізавана праца спецыялізаванага салона "Кантэнт і тэлекамунікацыі", дзе прадстаўляліся новыя распрацоўкі ў галіне кабельнага, мабільнага і IP-тэлебачання.

Марына ВЕСЯЛУХА

На здымку: Алег Пралясоўскі, Алесь Савіцкі, Усевалад Янчэўскі падчас адкрыцця выстаўкі.

Фота Кастуся Дробава

## Конкурсы

# Лаўрэаты «Залатога пяра»

Напярэдадні Дня друку Беларускі саюз журналістаў падвёў вынікі рэспубліканскага конкурсу "Залатое пяро-2009", узнагароды якога прысуджаюцца за высокапрафесійныя працы,якія апублікаваныя ў рэспубліканскіх, абласных, гарадскіх і раённых СМІ, ці прагучалі ў тэле-і радыёперадачах.

Сярод лаўрэатаў конкурсу Ірына ТУЛУПАВА, рэдактар аддзела публіцыстыкі газеты "Літаратура і мастацтва" — за яркія мастацка-публіцыстычныя матэрыялы пра нацыянальныя святыні Беларусі.

Лаўрэатамі таксама сталі: Анатоль БАСАЎ, фотакарэспандэнт абласной газеты "Мінская праўда" — за серыю матэрыялаў у жанры фотажурналістыкі; Віктар КОТАЎ, дырэктар тэлерадыёстудыі "Гомель" — за высокапрафесійную працу ў жанры тэленарыса (дакументальны фільм "Творца дабра"); Людміла КАНАПЕЛЬКА, аглядальнік "Народнай газеты" — за распрацоўку сацыяльна-дэмаграфічных праблем; Валянціна КУРЫЛІК, рэдактар ваўкавыскай раённай газеты "Наш час" — за важкі ўклад у развіццё рэгіянальнай прэсы (прэмія імя Р. В. Булацкага).

"Залатым пяром" адзначана калектыўная праца Брэсцкай абласной журналісцкай арганізацыі (група аўтараў: Уладзімір ШПАРЛО, галоўны рэдактар газеты "Вечерний Брест", Аляксандр ЛАГВІНОВІЧ — першы намеснік галоўнага рэдактара абласной газеты "Заря", Таццяна ГАГАКОВА — намеснік старшыні Брэсцкай абласной журналісцкай арганізацыі) — за маштабны праект "Брэстчына, скіраваная ў будучыню") і калектыўная праца журналістаў газеты "Советская Белоруссия" (аўтары — Андрэй ДЗЯМЕНЦЬЕЎСКІ і Раман РУДЗЬ, рэдактары аддзелаў газеты) — за распрацоўку актуальных праблем грамадска-палітычнага жыцця ў арыгінальнай форме палемічнага дыялога).

Высокую ўзнагароду БСЖ атрымалі Марыя ЛЯШУК, рэдактар раённай газеты "Пінскі веснік" — за серыю матэрыялаў пра вядомых людзей Піншчыны ("Партрэты сучаснікаў"); Аляксандр МАКАРАЎ, начальнік аддзела ідэалагічнай работы ваеннага інфармацыйнага агенцтва "Ваяр" — за цыкл публіцыстычных матэрыялаў, прысвечаных 65-годдзю Вялікай Перамогі; Ларыса САЛОДКІНА, спецыяліст па сувязях са СМІ Беларускага дзяржаўнага музея народнай архітэктуры і побыту — за цыкл фотапартрэтаў герояў Вялікай Айчыннай вайны "Творцы Перамогі"; Анатоль ЦЫБУЛЬКА, рэдактар аддзела эканомікі газеты "Белорусская нива" — за даследаванне праблем аграрна-прамысловага комплексу.

Ул. інф.

## Літ-абсягі

23 красавіка — сімвалічная для сусветнай літаратуры дата: у гэты дзень у 1616 годзе пайшлі з жыцця Сервантэс, Шэкспір, Гарсіласа дэ ла Вега. У 1995 годзе ў Парыжы на Генеральнай канферэнцыі ЮНЕСКА вырашылі аддаць у гэты дзень даніну павагі кнігам і іх аўтарам, заклікаючы ўсіх, і асабліва моладзь, знаходзіць асалоду ў чытанні і паважаць незаменны ўнёсак тых, хто садзейнічаў сацыяльнаму і культурнаму прагрэсу чалавецтва. Такім чынам, гэты дзень быў абвешчаны Сусветным днём кніг і аўтарскага права. Падчас яго ў розных краінах свету праходзяць кніжныя выстаўкі і кірмашы, сустрэчы з пісьменнікамі.

Сапраўднае свята мастацкага слова падрыхтавала ў Сусветны дзень кніг і аўтарскага права для сваіх наведвальнікаў кнігарня "Кнігі энд кніжачкі". Тут адбылася сустрэча з вядомымі айчыннымі пісьменнікамі Навумам Гальпяровічам і Віктарам Шніпам, а таксама прэзентацыя іх кніг, што пабачылі свет у выдавецтве "Мастацкая літаратура": "Насцеж", "Гэта ўсё для цябе", "Там, дзе вежы Сафіі"; "Проза і паэзія агню", "Страла кахання, любові крыж", "Балада камянёў"...

# Кніжнае свята

**Кніга, несумненна, з'яўляецца культурнай спадчынай любога народа. Дзякуючы кнізе, мы атрымоўваем доступ да ведаў, ідэй, духоўных і маральных каштоўнасцей. Носьбіт інфармацыі, аснова адукацыі і творчасці, яна дае магчымасць кожнай культуры расказаць пра сябе, азнаёміць са звычаямі, побытам і традыцыямі розных народаў.**



Навум Гальпяровіч зазначыў, што свята кнігі і выдавецтва павінна быць не раз на год, а кожны дзень. Гэта свята тых, хто любіць кнігу, хто чытае. Навум Якаўлевіч распавёў пра сваё далучэнне да чытання, пра дзяцінства, родны Полацк, які абраны сёлета культурнай сталіцай Беларусі, пра свой шлях у журналістыку і літаратуру. Ён вельмі любіў чытаць, можа, з гэтага і нарадзілася памкненне самому нешта прыдумаць, напісаць, скласці вершы.

Віктар Шніп таксама расказаў пра сваё далучэнне да літаратуры, пра розныя кур'ёзныя выпадкі са свайго дзяцінства, студэнцтва, пра дзейнасць выдавецтва "Мастацкая літаратура", дзе ён працуе галоўным рэдактарам. Кніга, на думку Віктара Анатольевіча, — святло душы чалавека, які піша прозу ці паэзію, той храм, у які заўсёды адчынены дзверы.

Натуральна, што творцы чыталі прысутным шмат сваіх вершаў, адказвалі на разнастайныя пытанні, а пры канцы сустрэчы падпісалі ўсім жадаючым свае кнігі.

Віктар КАВАЛЁЎ

На здымку: выступае Віктар Шніп.

Фота аўтара

## Арт-лінія

**У чарадзе музычна-асветніцкіх праектаў, якія Нацыянальны канцэртны аркестр Беларусі пад кіраўніцтвам маэстра Міхаіла Фінберга ладзіць у невялікіх гарадах і мястэчках нашай краіны, "Чачэрскія сустрэчы" з'явіліся адносна нядаўна — тры гады таму, але ўжо ўспрымаюцца тамтэйшымі жыхарамі як свая адметная традыцыя. У мінулую нядзелю знаны творчы калектыў чацвёрты раз наведаў гэты старажытны і своеадметны куток Гомельшчыны, прысвяціўшы сёлетні візіт 65-годдзю Вялікай Перамогі.**

# Музычны салют Чачэрску!



"Чачэрскія сустрэчы-2010" сталіся сто шостым па ліку фэстам, праведзеным Нацыянальным канцэртным аркестрам Беларусі ў межах яго "фірмовага" фестывальна-асветніцкага руху, распачатага паўтара дзесяцігоддзі таму. Як і старэйшыя праекты гэтага руху — "Музы Нясвіжа", "Мірскі замак", "Заслаўе", "Мсціслаў", — імпрэза ў Чачэрску, правядзенне якой падтрымліваюць Гомельскі аблвыканкам і Чачэрскі райвыканкам, мае сваю адметнасць.

"У чым унікальнасць "Чачэрскіх сустрэч"? Адказ на гэтае пытанне далі тры папярэднія фэсты, — тлумачыць мастацкі кіраўнік праекта маэстра Міхаіл Фінберг. — Чачэрскія імпрэзы яднаюць розныя музычныя плыні, розныя эпохі, прадстаўляюць беларускую музычную культуру ва ўсёй яе шматфарбнай прыгажосці і значнасці — як культуру адкрытую, шматвектарную, духоўную. Прытым у асяроддзе разнажанравых канцэртных праграм, якія рыхтуе наш аркестр, арганічна ўпісваюцца і выступленні артыстаў-аматараў Гомельшчыны, і мастацкія выстаўкі ў фае кінаканцэртнай залы "Кастрычнік", што непадалёк ад ратушы — непаўторнай архітэктурнай адметнасці гэтага гасціннага гарадка".

Тры папярэднія гады ў Чачэрску (між іншым, і ў сценах яго унікальнай ратушы) адбываліся шчырыя і надзённыя дыялогі, калі мясцовыя жыхары атрымлівалі магчымасць сустрэцца з кіраўнікамі вобласці, з прадстаўнікамі беларускага парламента. Тыя дыялогі атуляла і гарманізавала чарадзейная аўра мастацтва. Сёлета, напярэдадні вялікага свята Перамогі, арганізатары "Чачэрскіх сустрэч" наладзілі дыялог паміж пакаленнямі — тымі, каму лёс наканаваў перажыць страшную вайну, каму давялося вызваляць родны край ад гітлераўскай нечысці, а потым адраджаць мірную Беларусь, і тымі, чыё самастойнае жыццё толькі пачынаецца, за кім — будучыня нашай краіны. А паспрыяў гэтай кранальнай душэўнай сустрэчы ветэранаў і моладзі, паяднаўшы самых розных людзей праз музыку, аркестр пад кіраўніцтвам Міхаіла Фінберга ды салісты-спевакі: на гарадской цэнтральнай плошчы адбыўся вялікі канцэрт пад назвай "Салют Чачэрску!".

Вядома, не толькі феерверкам папулярных песень мінулых гадоў і сённяшніх шлягераў запомніцца месцічам гэты фэст. Камерныя выканальніцкія калектывы, што працуюць у складзе вялікага аркестра, наладзілі сімвалічны дыялог часоў — праз унікальную асветніцкую праграму цыкла "Музыка Беларусі ў еўрапейскай прасторы". Яна прысвячалася 245-годдзю з дня нараджэння Міхала Клеафаса Агінскага. "Гэты выдатны грамадскі дзеяч і кампазітар, чые творы заўсёды былі і застаюцца папулярнымі ў краіне яго продкаў, менавіта у Беларусі пражыў свае самыя шчаслівыя і па-творчы плённыя дзесяцігоддзі, — кажа нязменная вядучая асветніцкіх фестывальных праграм аркестра, доктар мастацтвазнаўства прафесар Вольга Дадзіёмава. — Тут Міхал Клеафас цалкам аддаўся музыцы і напісаў лепшыя кампазіцыі. Гэты край ён апяваў у сваіх творах, за яго змагаўся ў ваенных і палітычных баталіях, пра яго марыў да канца свайго яркага, насычанага падзеямі, жыцця".

Музыка М. Кл. Агінскага, якая прагучала ў выкананні высакакласных камерных ансамбляў і струннага аркестра, кранула і ўразіла чачэрскую публіку, не спешчаную жывым гучаннем класікі.

Святлана БЕРАСЦЕНЬ

На здымку: чачэрская ратуша.

Фота Віктара Кавалёва

## Повязі

Традыцыі беларуска-татарскага літаратурнага ўзаемапранікнення даволі даўнія. Яшчэ ў 1929 годзе ў часопісе "Маладняк" з'явіўся артыкул пра татарскую літаратуру. А ў Вялікую Айчынную вайну братні народ прытуліў Янку Купалу. Народны пясняр Беларусі пісаў 20 красавіка 1942 года літаратуразнаўцу Яўгену Мазальковы: "...Я жыву тут пад самай Казанню, па другі бок Волгі... Адрас мой: Татарская АССР, Верхне-Услонскі раён, Печышчы, млын..." У 1968 годзе ў Казані пабачыла свет анталогія беларускай літаратуры на татарскай мове. У 1975 годзе па-беларуску загучаў "Маабіцкі сшытак" легендарнага Мусы Джаліля. Пераклалі яго Алякcей Пысін і Сцяпан Гаўрусёў.

А калі гаварыць пра сучасныя праявы стасункаў, то нельга не нагадаць выданне ў 2008 годзе ў Мінску кнігі Рэната Харыса "Сярэбраны прамень". Ініцыятар гэтага клопату — пісьменнік Сяргей Трахімёнак, які часта бывае і ў Казані. У кнізе змешчаны пераклады на беларускую і рускую мову вершаў аднаго з самых цікавых лірыкаў сучаснай татарскай паэзіі. Перакладчыкі — Віктар Шніп і Юрась Пацюпа. Народны паэт Татарстана Рэнат Харыс у мінулым годзе па запрашэнні Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь прымаў удзел у арганізаваным РВУ "Літаратура і Мастацтва" і часопісам "Нёман" "круглым стале" "Мастацкая літаратура як шлях адзін да аднаго", прымаў удзел у святкаванні Дня беларускага пісьменства. Вярнуўся на радзіму з публікацыямі беларускіх аўтараў, падрадкоўнікамі, а галоўнае — з новым веданнем пра сучасную беларускую літаратуру. Час паказвае, што стасункі развіваюцца і ўмацоўваюцца. Госцем леташняга верасня быў у Беларусі і народны паэт Татарстана Роберт Мінулін. Няма сумненняў, што сустрэчы, знаёмствы з беларускімі пісьменнікамі знойдуць працяг і ў арыгінальнай творчасці татарскіх літаратараў.

# На мове Мусы Джаліля

**Працягваюцца традыцыі беларуска-татарскага літаратурнага ўзаемазблíжэння. Пабачыў свет чарговы нумар татарскай штотыднёвай газеты "Мэдэни жомга", што ў перакладзе гучыць як "Культурная пятніца". На старонках выдання часта з'яўляюцца літаратурна-мастацкія публікацыі. Гэтым разам татарскія пісьменнікі падрыхтавалі для свайго чытача пераклады з паэзіі Міколы Чарняўскага, Міколы Мятліцкага, Леаніда Галубовіча, Змітрака Марозава, Юрыя Сапажкова, а таксама апавяданне Алеся Бадака. Ажыццявіца такому творчаму праекту дапамог народны паэт Татарстана Рэнат Харыс.**




Кастусь ЛАДУЦЬКА

## З-пад пяра

"Якімі маладымі мы былі... Сямейны альбом" — пад такой назвай адкрылася выстаўка ў Беларускім дзяржаўным музеі гісторыі Вялікай Айчыннай вайны. Экспазіцыя завяршае акцыю, якая праводзілася тут да 65-годдзя Вялікай Перамогі, паведамілі з музея. На працягу месяца з паловай жыхары розных рэгіёнаў Беларусі — унукі, дзеці, сваякі — прыносілі фотаздымкі даваеннага часу, сямейныя рэліквіі і талісманы, што передаваліся з пакалення ў пакаленне. Таму асноўная сюжэтна-тэматычная лінія выставы, а яна ўключае паўтысячы сапраўдных музейных прадметаў, прадстаўляе своеасаблівыя навелы пра жыццё і каханне людзей розных узростаў, нацыянальнасцей і прафесій, якія прайшлі праз цяжкія ваенныя выпрабаванні.

Бажэна СТРОК

У Мінскім дзяржаўным Палацы дзяцей і моладзі прайшла гарадская тэматычная канферэнцыя "Памяці паўшых", прысвечаная 65-годдзю Вялікай Перамогі. У пасяджэнні секцый прынялі ўдзел 84 старшакласнікі, якія прадставілі на суд журы 55 даследчых работ. Увага вучняў была скіравана на ваенныя рэаліі, тэхніку, яркіх асоб, дзейнасць партызанскіх атрадаў. Школьнікі паспрабавалі асэнсаваць уплыў ваенных падзей на лёсы сем'яў, вывучыць дзейнасць сваіх дзядоў і прадзедаў у час вайны, тым самым бліжэй пазнаёміцца не толькі з гісторыяй Вялікай Айчыннай вайны, але і з гісторыяй сваёй сям'і.

Марына ВЕСЯЛУХА

Брэсцкі дзяржаўны прафесіянальна-тэхнічны каледж сувязі адзначыў сваё 65-годдзе. Адметнасці юбілейнай вечарыне надаў той факт, што ўпершыню сцэнарый мерапрыемства быў цалкам пабудаваны на матэрыяле дакументальна-мастацкай аповесці Анатоля Крэйдзіча "Анатоль Клімец. Жыццё і лёс" — пра выпускніка гэтай навучальнай установы 1962 года. Галоўнага героя кнігі А. П. Клімца ўжо 9 год няма сярод жывых, ды за кароткі жыццёвы шлях ён паспеў шмат чаго дасягнуць і пакінуў пра сябе добрую памяць. Што ж да юбілею, дык арганізатары свята ўзялі за аснову сцэнарыя шмат якія звесткі з гісторыі ўстановы і з яе пасляваеннага жыцця, цытавалі шмат якія вытрымкі з твора, нават распавялі пра тое, як ствараласяя кніга і пра яе прэзентацыю ў гэтым жа каледжы чатыры гады таму. Выступіла на вечарыне і адна з гераінь аповесці Любоў Шаўчук, былы намеснік дырэктара ПТК сувязі, якія за часам яе работы называўся ПТВ-1.

Ул.інф.

У сталічнай сярэдняй школе № 94 святкаванне Дня Перамогі заўсёды набывае своеасаблівае адценне: у ёй, размешчанай ва Уручы, у большасці вучацца дзеці переважна вайскоўцаў, якія праходзяць тут службу. Тым больш, што ў многіх школьнікаў ваенныя не толькі бацькі — пагоны насілі іх дзяды, а то і прадзеды. Таму, відаць, невыпадкова з такой увагай слухалі вучні выступленне Анатоля Зэкава, які прэзентаваў выдадзены ім паэтычны буклет "Сны з вайны". У цэнтры твораў А. Зэкава — лёсы землякоў-вяскоўцаў, якія прайшлі суровымі дарогамі вайны, мацярок і ўдоў, якія не дачакаліся з фронту сваіх сыноў і мужоў. А яшчэ – яго равеснікаў, якія падрываліся на боепрыпасах, знойдзеных у мясцовым лесе, дзе некалі ішлі кровапралітныя баі...

Сяргей КРЫВІЧОЎ

Пісьменнік Уладзімір Федасеенка пра жыццёвыя шляхі-дарогі распавядае падрабязна, выпісвае кожную дэталь, быццам складае новую кнігу. Ён аўтар раманаў "Дубовая града", "Віхры на скрыжаваннях", "Пасля смерчу", "Мутныя росы", апавяданняў і п'есы "У нашы семнаццаць". Даецца яму расповед лёгка: жыццёвы досвед найбагацейшы. Уладзімір Канстанцінавіч і ў свае 84 лёгка пераадольвае кіламетры, што аддаляюць яго дом ад сяброў ці сваякоў. І на сустрэчу ў рэдакцыю прыехаў сам: "бо няцяжка".

## Уладзімір ФЕДАСЕЕНКА:

# «А больш за ўсё ненавіджу зайздрасць»

Пісьменнік-ветэран узнагароджаны ордэнамі Айчыннай вайны І ступені, Чырвонай Зоркі, медалямі "Партызану Айчыннай вайны" І, ІІ ступеняў. Нарадзіўся ў вёсцы Мормаль Жлобінскага раёна на Гомельшчыне. Прайшоў усю вайну. Узнагараваны медалём Францыска Скарыны ўжо ў наш час, калі размяняў свой восьмы дзесятак. А першы свой ордэн атрымаў у 16 гадоў.

— Уладзімір Канстанцінавіч, як так атрымалася, што вы, пятнаццацігадовы юнак, пачалі ваяваць?

— Я ж быў такі... — хадзіў у школу і са школы праз балота, па ходу ўсё назіраў, запамінаў. Я спадчынны паляўнічы, у 72 гады яшчэ хадзіў па снезе па некалькі кіламетраў. І з дзяцінства кожнай птушкі голас ведаў. У бацькавым доме ў мяне клетка для птушак была. Снегіры, сініцы жылі, зімавалі. А вясною я навешваў клетку на яблыню, адкрываў дзверцы. І яны ляцелі на волю... А тут вайна. І ў мяне іншая думка: як гэта, цяпер усё не наша? І лес цяпер — не наш, а ўжо чыйсьці? Адкуль толькі гэты патрыятызм у мяне браўся?

Уладзімір Канстанцінавіч нейкі час маўчыць. Пасля гутаркі я зазірну ў "Тлумачальны слоўнік беларускай мовы", яго чацвёрты том, дзе даецца азначэнне слову: "патрыятызм — любоў да радзімы, адданасць сваёй бацькаўшчыне, свайму народу". Нават лінгвістычны ўсявед слова "радзіма" ў гэтым выпадку піша з малой літары. І праўда, найблізкейшыя чалавеку — яго родная вёска, дом, родзічы.

— Думаў простае: буду ісці з прыгожай дзяўчынай, а ён, гэты немец, некуды мяне забярэ? Я так не магу!

Вось з гэтага простага: "так не магу", і выспела, напэўна, першая рашучасць, усведамленне, што нешта сваё ён зможа абараніць.

— А дзядзька ў мяне быў старшыня калгаса. Стары камуніст. Яго зямляк працаваў загадчыкам аддзела Жлобінскага райкама партыі. Паехалі ў Жлобін, у той райкам. А я восем класаў закончыў, толькі ў камсамол уступіў. У іх арганізоўвалі знішчальны батальён. І вучні нават былі разведчыкамі, два хлопчыкі. І я папрасіўся. У гэтым быў свой сэнс. У 1941-м салдаты нашы ўсе стрыжаныя былі. Лічу, няправільна гэта. Я і ў рамане сваім пісаў: шапку з чалавека зняў — і адразу відно, хто ён. Калі стрыжаны, значыць, салдат. А я — пятнаццацігадовы хлопец. Такія і патрэбны былі для разведкі. Немцы ў вёсцы, а я іду, босы, штонікі простыя. Пагляджу, дзе пушкі стаяць, і вярнуся назад. Балота, сцежкі — усё ведаў. Выйду ў Жлобін, і дакладваю. Адна начная разведка боем была, я тады ўпершыню з немцамі блізка сутыкнуўся. Толькі выйшаў на грэблю з балота, чую "Хальт!". Немец на мяне аўтамат навёў і камандуе падняць рукі. Ідзём па дарозе, бачу — вырыты магілы, немцы робяць крыжы. І ляжаць побач трупы пачарнелыя: некалькі немцаў. Мой праважаты вясёлы, заганяе ў вінтоўку патрон. Я разумею, што гэта значыць... А злева ад дарогі гліну, пэўна, капалі. Мне паказваюць: лезь. Я не слухаюся... Вось, учора ў "апошніх паведамленнях" перадалі: у Расіі, у Маскве зноў спрэчка ідзе, каб партрэты Сталіна да Дня Перамогі развесіць на вуліцах. А ветэраны супраць. Зноў пачынаюць гаварыць, нібыта ў вайну тыя, хто на смерць ішлі, крычалі: "За Сталіна", "За Радзіму". Глупства! Калі разумееш, што зараз цябе расстраляюць... "Мама..." "Мама!", "Мамачка!!!". І такая мітусня ў галаве... Балюча ад таго, што малады. Але ўсё роўна, і старэйшыя гаварылі, што абавязкова ўспамінаеш маму...

На вачах ветэрана — слёзы. І гэта хвалюе больш за першае, павярхоўнае вонкавае знаёмства, і завочнае — з ветэранам як з аўтарам літаратурных твораў. Тым часам Уладзімір Канстанцінавіч мяняе тэму і расказвае, як недарэчы жыццё падзяляе людзей на сваіх і несваіх. І чаму гісторыя бывае такою паблажліваю да зла.

— Адзін з нашага восьмага класа пайшоў у паліцыю. Мы ўдвух з ім сядзелі на лаўцы разам у восьмым класе. Партызаны яго забілі. Я, калі змагаўся ў знішчальным батальёне, і сам удзельнічаў у засадах, выратаваў двух камсамольцаў. Цяпер у Жлобіне жыве дачка аднаго з іх. А баец тады дайшоў да Венгрыі...

Цяпер усе франтавікі скажуць: атрымаць ордэн у 1942-м годзе фактычна было немагчыма. Адступалі, цярпелі паразу — ніякіх узнагарод амаль не было. А вось калі ўжо наступалі!.. Тады сыпалі і ўзнагароды. Я ж за столькі кіламетраў ад Масквы знаходзіўся, ды ў 16 гадоў атрымаў ордэн!

За што? Першы мой "подзвіг" — гэта сама па сабе разведка, калі я ў палон папаў і ў фашысцкім лагеры "ўглядаўся ў калючы дрот". Цудам вырваўся і стаў змагацца. І гэта шчасце. Як шчасце і тое, што быў паранены. Увесь мой знішчальны батальён пасля загінуў, калі немцы наступалі. І я там быў бы...

Але жыццё працягвалася. Калі арганізаваўся партызанскі рух, у 1942 годзе Уладзімір Канстанцінавіч стаў партызанам атрада "Смерць фашызму!" Увесну 1943-га — камандзірам дыверсійнай групы атрада імя Жукава брыгады імя Панамарэнкі. Але пра першы ордэн яшчэ не ўвесь сказ...

— Быў такі тып — па прозвішчы Ляоненка. Метры два ростам, наш, мясцовы. Калі савецкія салдаты адступалі ад Брэста, ішлі групкамі па лясах, ён ужо стаў служакам у немцаў, гэты Ляоненка. Ехалі немцы па лясной дарозе і напаткалі нашых байцоў. У перастрэлцы забілі некалькіх немцаў, афіцэра паранілі. А гэты здрадаванны Ляоненка нямецкага афіцэра ўзяў на плечы і раненага сем кіламетраў па балоцістым лесе прынёс на вакзал на станцыю "Чырвоны бераг". Першы гітлераўскі крыж для ўсходніх народаў начапілі яму. Вось, нямецкая форма ў яго, пісталет, ён ужо важна ездзіць. І кіраўніком гэтага краю стаў — начальнік чацвёртай часці гестапа на барацьбе з партызаншчынай Жлобінскага раёна. Фігура! Бургамістр у Мормалі. Ляоненка мясцовасць добра



ведаў, ноччу садзіўся ў куст з вінтоўкай ці аўтаматам ля дарогі, дзе могуць партызаны праязджаць, і чакаў. Расстрэльваў людзей, і нават запіску пакідаў: "Ляоненка". Літаральна ўся наша барацьба паралізавана была. Я прыходжу да камандзіра з адчайнай прапановаю: пайду Ляоненку заб'ю!

Бясспрэчна, не такія як я аб яго зубы паламалі. Але паспрабаваў. А Мормаль — вёска 260 двароў, тут чыгунка праходзіць, балота. Вышка, немцы, побач бальніца. Ён павінен к 9 гадзінам прыехаць на свой пункт. Чакаем гадзіну, дзве, тры — не едзе. Мяне заўважыла ўжо мясцовая жанчына. Думаю, свая — не прадасць. І гэта шчасце. Бачу, нарэшце бургаміструва жарабца вывелі. Толькі вершнік іншы. А ён — выходзіць з іншага боку. Я па школьным сваім дварэ з дзесяцізараднай вінтоўкай пабег. Мяне ўбачылі аднавяскоўцы, а нічога немцам не сказалі. Ды вось гляджу: — соцкі, брат той, што на градах жанчыны, цераз гароды мяне апярэдзіў. А там людзей шмат, бо зганялі працаваць: касіць, грэбці, нават падводы забіралі. Калі немцы — гэта ж не значыць сядзіце дома і ўсё! Выганялі ўсіх працаваць! Камандавалі: адкуль што вазіць, дзе якія ўмацаванні рабіць. І лес вазілі, і масты рабілі. Дык той соцкі пры людзях не гаварыў пра мяне, баяўся. Можна вас, кажа, гаспадзін бургамістр, на хвілінку. Яны выйшлі на ганак, гамоняць. Я прыцэліўся, стрэліў. Затым яшчэ чатыры разы, ён з парога і зваліўся. Так і забіў таго Ляоненку. А той, другі, што папяраджваў, трасецца. Я пашкадаваў яго, сказаў: не стой з брыдотай побач!

Першы мой забіты чалавек. Потым шмат мініраваў, эшалоны ўзрываў, стаў дыверсантам. Быў у нас дэсантнік, я вучыўся ў яго, як міны ставіць, якія патрэбны капсулі, дэтанатары і як іх закладваць. А закладваў я міны па-асобаму. Немцы, калі даведаліся, што партызаны мініруюць рэйкі, каб дэтанатары раздаўлівацца, пускалі перад саставам дзве платформы з пяском. Яны і ўзрываліся. Паравоз узлятаў, але заставаўся цэлым. Я прыдумаў прымацоўваць да дэтанатара сантыметры тры бікфордавага шнура, які запавольваў выбух. І атрымлівалася, што міна якраз узрывалася пад паравозам.

— А дзе Перамогу сустрэлі?

— Пад Гомелем, у эвакашпіталі. Мяне, смаркача, у афіцэрскую палату паклалі. Там адзін афіцэр хораша спяваў. Як зацягне: "тёмная ночь, только пули свистят по степи", я ў падушку плачу. Пасля ўжо мне званне далі, калі вучыўся. Я капітан. А тады проста быў камандзірам дыверсійнай групы: пасада афіцэрская, таму ў такую палату і трапіў.

А пасля вайны ў Гомельскі рачны тэхнікум пайшоў. Пасля працаваў у Гомельскім абкаме камсамола. Паступіў у Мінскі юрыдычны інстытут. Але дапамогі ад бацькоў не меў, хата была спалена, за ордэны даплату знялі, жыў толькі на 35 рублёў стыпендыі. Пайшоў у ЦК партыі і папрасіўся, каб накіравалі ў партыйную школу. Дапамог знаёмы па Гомелі загадчык аддзела прапаганды ЦК КПБ Мікалай Халіпаў. Так я апынуўся на вучобе ў Рэспубліканскай партыйнай школе.

— Можна сказаць, што ваш жыццёвы лёс склаўся шчасліва. Але як бы вы патлумачылі, чым абумоўлены ваш прыход у літаратуру?

— Вершы я пісаў яшчэ ў 8 класе. Нікому не паказваў. Але настаўніца аднекуль даведалася, у рэдкалегію сценгазеты мяне запісала. Калі б вучыўся далей — многага мог дабіцца. Памятаю, калі вучыўся ў партшколе, сябар з Пінска прывёз вершы Сяргея Ясеніна. А ў нас жа яго не было, не выдавалі. Дай, кажу, хоць на лекцыях пачытаю. Толькі сядзеў за маёй спінай другі сакратар райкама, ён заўважыў, чым я займаюся, і ў бюро запіску падаў. Мяне выклікаюць: як так можна: у партыйнай школе — Ясенін? А я ўжо на той час яго лірыку дзяўчатам чытаў. Праўда, вымовы ніякай не далі. Заступіўся навучэнец з маёй групы Палазаў.

А далей накіравалі мяне ў ЦК камсамола, у сектар друку. З Пятром Машэравым сустракаўся. Я тады некалькі апавяданняў напісаў, у "Піянеры Беларусі" надрукавалі. Пайшоў у гэтую газету адказным сакратаром. Але так атрымалася, што раманы мае ў часопісах не друкавалі. На "Дубовую граду" Іван Шамякін напісаў у выдавецтва добрую рэцэнзію. Далі пачытаць раман і "сур'ёзнаму крытыку" Нічыпару Пашкевічу, які таксама ўхваліў. Але, як ні дзіўна, твор некалькі гадоў праляжаў у выдавецтве. Пайшоў я ў ЦК партыі, да Машэрава. Ён мне раней гаварыў, каб я напісаў пра ваенную моладосць. Праз месяц-два раман мой быў у наборы.

— Напэўна, і ў сённяшнім жыцці бачыце нямала таго, чаго прыняць не можаце? І галоўны герой "Дубовай грады" працягвае жыць у наступным творы, у рамане "Віхры на скрыжаванні". Якія рысы характару вы хацелі паказаць у гэтым чалавеку?

— Мой герой — сумленны чалавек, баявы. І ўсякіх тых, каторыя былі збоку, я таксама ў раманах выкрываў. Паказваў наша жыццё — якое яно ёсць.

...А больш за ўсё ненавіджу зайздрасць. Яна з'ядае душу. Паглядзіце, як зайздроснікі калоцяцца, калі нешта не па-іхняму. І плачу за тых, каго парасстрэльвалі. Шмат наша літаратура страціла ў 1937-м.

— Да пісьменніцкай кагорты якога перыяду вы сябе далучаеце?

— Я пісьменнік пасляваеннага часу.

— А сустрэча з Якубам Коласам калі адбылася?

— Ён выступаў на сходзе маладых у Саюзе пісьменнікаў. Сабралі тады чалавек 120 з усёй Беларусі. А Колас выступае, і гаворыць: калі з вас будзе з дзесятак пісьменнікаў — гэта вельмі цудоўна! Многія тады шапталіся: гэта ж трэба, каб народны пісьменнік так гаварыў! А я ўсміхаўся: правільна сказаў!

Гутарыла Ірына ТУЛУПАВА

Фота Кастуся Дробава

## Памяць

# Музыка на фронце

Музыка і песні на вайне суправаджалі нас пастаянна. Спявалі ў вольную хвіліну перад тым, як ісці на баявое заданне, спявалі пасля яго.

Вясна 1943-га, Арлоўскі выступ Курскай дугі. Мы ў абароне. Яшчэ ў 1942 годзе, згубіўшы каля Тулы і Ельца свае танкі, 2-я танкавая армія Гудэрыяна адступіла сюды на пазіцыі па высокіх берагах рэк Неруч і Зуша.

Траскатня кулямётаў, разрывы мін. А ўвечары, калі ўсё заціхае, з траншэі над Неручу чуюцца гукі баяна. Відаць, вялікі аматар музыкі быў гэты салдат, калі не развітаўся са сваім музычным інструментам. Ён прыцягваў да сябе ўвагу, як і прыгожыя, мірныя мелодыі ў страшэнныя дні супрацьстаяння з ворагам.

Быў яркі той час, калі спявалі салаўі. Яны вярталіся на радзіму з цёплых краёў, нягледзячы ні на што. Няўжо не перашкаджалі ім разбурэнні, хаос, смерці сотні людзей?

Армейская гукаўзмацняльная агітацыйная ўстаноўка трансліравала на нямецкія пазіцыі музыку, а затым і тэкст звароту да салдат Вермахта. І мы, і немцы слухалі запісы незабыўных Вадзіма Козіна і Ізабэлы Юр'евай. Пад начным небам вельмі чыста і з вялікай сілай гучалі "Утомлённое солнце", "Моё последнее танго", "Осень".

Шмат праводзілася і агітацыйных канцэртаў. Такое дзіўнае супадзенне: пасля аднаго з канцэртаў, 5 жніўня, немцы пакінулі Арол, а ў верасьнёўскі вечар фашысты адступілі з берагоў Дзясны.

Якія песні мы спявалі? Помню, саслужывец Вася Наважылаў распачынаў "Мою любимую" Блантэра. І мы ўсе яе любілі за лірычнасць і ўспамін пра мірнае жыццё. А Мікалай Жэлтай спяваў пра свой родны горад" Эх, Одесса, жемчужина у моря...". Ніколі не надакучалі нам цудоўныя "Катюша" і "Синий платочек". Спявалі меладычныя і кранальныя "Вечер на рейде" Салаўёва-Сядога, "Заветный камень" Макраусава, песню "В землянке" Лістава. Пасля з'явілася шмат новых песень. Да прыкладу, прыгожая мелодыяй і цудоўнымі словамі, якія прыйшліся да душы, — "Сердце, молчи" Малчанава.

Але асаблівая наша ўвага была да песні на словы Ісакоўскага "Огонёк". Як толькі з'явілася магчымасць, мы спявалі менавіта яе. Чаму?

Як вядома, на пачатку вайны, напэўна, на трэцяй частцы нашай тэрыторыі было ўведзена так званае "зацямненне". Там, дзе было шмат святла — у гарадах, на заводах, у сёлах і нават на шахтах — усё згублівася ў цемры. Ідучь паязды — без адзінага агеньчыка, едучь аўтамабілі — са створкамі на фарах. Жах! Але варожыя самалёты не знойдуць гэтыя аб'екты. І на фронце таксама патрабавалася выключная маскіроўка. А тут з зацемненага свету да нас прыйшоў "Огонёк" — сімвал святла і жыцця, сімвал утульнага дому і вернасці каханай дзяўчыны. Расло пераканане: ніколі гэты агеньчык не згасне.

Тыражыраваліся і распаўсюджваліся песні ваеннага часу па-рознаму. Адны друкаваліся ў армейскіх, франтавых газетах. Іншыя мы знаходзілі нават на ўпакоўках прадуктаў харчавання — на пачках канцэнтратаў для салдацкіх пайкоў. Разгорнеш вокладку "Каша пярловая", а там — тэкст песні "Шумел сурово Брянский лес", альбо "Дорога на Берлин". Выдаваліся і распаўсюджваліся наборы паштовак, дзе на невялікіх, удвая складзеных лістках можна было знайсці і месца для пісьма, і ноты і тэкст франтавой песні ды яшчэ які-небудзь выразны малюнак.

Мы верылі, што мірнае жыццё яшчэ вернецца да нас. І бераглі гэтыя сціплыя публікацыі ваенай пары...

Барыс ПРАСВІРЫН,
былы сяржант, камандзір
аддзялення ўзвода разведкі Бабруйскай стралковай дывізіі.




Ушанаванне ўдзячнымі нашчадкамі памяці блізкіх родзічаў праз выданні, якія прысвечаны грамадскай і творчай дзейнасці апошніх, становіцца добрай традыцыяй айчыннай гістарыяграфіі. Мяркую, што гэтая тэндэнцыя заслугоўвае выключна станоўчай ацэнкі. Па-першае, ніхто, як нашчадкі, не зацікаўлены ў паўнаце прадстаўленай інфармацыі. Па-другое, ушаноўваючы памяць сваіх прашчураў, даследчыкі звычайна звяртаюцца да мікрагістарычнага аналізу, што дазваляе чытачу паглядзець на пэўныя гістарычныя з'явы або падзеі вачыма "маленькага чалавека", ацаніць іх з пазіцый штодзённасці. Апошнія гады былі даволі плённымі на такія выданні. Адным з самых змястоўных набыткаў айчыннай гістарыяграфіі гэтага кшталту за мінулы год можна назваць кнігу "108-й краснопартизанский: воспоминания командира Н. А. Труснова и хроника отряда".

# Нязгаснае рэха

Па сутнасці, названае выданне — гэта даволі поўны зборнік матэрыялаў па гісторыі 108-га партызанскага атрада, які вёў на беларускіх землях актыўную баявую дзейнасць супраць фашысцкіх захопнікаў у гады Вялікай Айчыннай вайны. Трэба адзначыць, што ўкладальнік зборніка полацкі міжгарнізонны ваенны пракурор, палкоўнік юстыцыі Сяргей Мікалаевіч Халянкоў, які па сціпласці нават не пазначыў сваё прозвішча на вокладцы кнігі, прадставіў усе дакументы ў поўным аб'ёме без скарачэнняў. Па словах укладальніка гэта зроблена для таго, каб кожны мог знайсці для сябе "тое, што яму цікава". Акрамя таго, Сяргей Мікалаевіч спадзяецца, што дадзеныя, якія ўтрымліваюцца ў апублікаваных ім крыніцах, дапамогуць каму-небудзь атрымаць інфармацыю пра сваіх родзічаў.

А вось адсутнасць навуковых каментарыяў аўтар ніяк не аргументуе. Улічваючы вялікую колькасць геаграфічных назваў і асабовых імёнаў, трэба адзначыць, што выданню бракуе геаграфічнага і іменнога паказальніка.

Кніга складаецца з чатырох частак: успаміны камандзіра атрада, данясенні аб выкананай рабоце, загады па пытаннях асноўнай дзейнасці атрада і па асабовым складзе, дзённік атрада.

Успаміны Мікалая Аляксандравіча Труснова пранізаны перажываннямі чалавека, які асабіста прайшоў праз тое, пра што піша. Даваенны перыяд біяграфіі аўтара прадстаўлены даволі коратка: нарадзіўся ў 1912 годзе; з 1934 года служыў у Чырвонай Арміі; прымаў удзел у савецка-фінскай вайне; на пачатку Вялікай Айчыннай вайны быў накіраваны на фронт. Выконваючы баявы загад, М. А. Труснаў трапіў у акружэнне. З гэтага пачалася яго партызанская барацьба.

Успаміны М. А. Труснова — гэта каштоўная гістарычная крыніца. Дзякуючы таму, што аўтар падрабязна і змястоўна апісвае падзеі, што адбываліся з ім у час вайны, мы сёння маем магчымасць зразумець, чым кіраваліся яе ўдзельнікі, калі прымалі адказныя рашэнні. Так усяго некалькімі сказамі аўтар паказвае, што для чалавека, які на пачатку вайны трапіў у акружэнне, вызначальным фактарам у вырашэнні пытання аб тым, ці можна давяраць чалавеку, з'яўлялася яго прыналежнасць да Камуністычнай партыі: "Прыкладна праз гадзіну за два кіламетры ад вёскі сустрэўся з такім жа, як і я, малодшым палітруком матацыклетнага батальёна Юркам. Селі пад куст і сталі адно аднаго распытваць: хто ды адкуль. Я паказаў пасведчанне асобы камандната саставу, а малодшы палітрук заявіў, што ў яго дакумента няма. Я сказаў, што немаведама з кім не пайду. Юрка зняў бот і дастаў са шчыліны паміж халявай і падкладкай свой партыйны білет. Тады нас стала двое…".

Мікалай Аляксандравіч здолеў паказаць вайну як аб'ектыўную рэальнасць, якую стварылі жывыя людзі, здольныя змагацца, баяцца і нават шкадаваць ворага: "Гадзіне а сёмай вечара пажылы немец з барадой правеў паблізу каня. Ён глядзеў проста на нас, а мы — на яго. Відаць, ён нас пашкадаваў і нікуды не паведаміў".

У дзённіку атрада прыведзена кароткае апісанне яго дзейнасці за кожны дзень з арганізацыі да расфарміравання. За сухімі кароткімі звесткамі ўважлівы чытач зможа ўбачыць, што жыццё партызан складалі не толькі ваенныя подзвігі, але і вырашэнне арганізацыйных, гаспадарчых пытанняў, і жорсткія, па мерках мірнага часу, учынкі, якіх вымагала ад людзей вайна. Для прыкладу прывядзём дзённікавы запіс за 6 сакавіка 1943 года: "Група адпачывала ў в. Залоззе, прыбыла група Камлёва ў колькасці 36 чалавек. […] Вечарам камісар Каспрук з 1 узводам быў на гаспадарчай аперацыі […]. За выдачу партызан, за здраду і шпіянаж расстралялі бацьку паліцэйскага Масюкова Рыгора Макаравіча".

Апублікаваныя ў кнізе загады камандзіра атрада і копіі яго данясенняў на адрас камандзіра гомельскага партызанскага злучэння генерал-маёра Кожара таксама ўтрымліваюць шэраг цікавай і карыснай інфармацыі, з якой большасць чытачоў сустрэнецца ўпершыню.

Рэхам вайны прынята называць знаходкі захаваных у зямлі 65 год таму боепрыпасаў. Але такія напаміны часта бываюць небяспечнымі для сучаснікаў. Хацелася б, каб у народнай памяці Вялікая Айчынная вайна заставалася дзякуючы навуковым і навукова-папулярным выданням, мастацкім творам, публікацыям успамінаў удзельнікаў і сведак ваенных падзей і інтэрв'ю з імі. І гэтае рэха няхай не згасае.

Сяргей НІКІЦЕНКА

# Жыве яго слова

На школьных вечарах і зборах, прысвечаных святу вызвалення Магілёва і Магілёўшчыны ад фашыстаў, прачула ўспаміналі Ваню Галярку, Люду Цімашэнку і іншых загінуўшых у барацьбе з акупантамі школьнікаў, пра якіх расказвала кніга "Юныя героі Магілёўшчыны" — апошняя кніга пісьменніка Аркадзя Кандрусевіча (1994). А першай была кніга "Чарпак Вялікай Мядзведзіцы" (1969).

Прыгадваецца з тае даўніны выпадак. У фае аднаго з магілёўскіх Дамоў культуры з нагоды літаратурнай вечарыны таўклася моладзь. Да мяне падышоў хлопец і, расхвальваючы маю, як ён сказаў, толькі што выдадзеную кніжку, папрасіў пакінуць на ёй аўтограф. Прызнаюся, я быў здзіўлены, бо мая кніга "Алёнчын сакрэт" разлічвалася на школьнікаў малодшага і сярэдняга ўзросту, а маладзёну было каля дваццаці. Не зважаючы на маю разгубленасць, ён проста выцягнуў са сваёй студэнцкай папачкі... "Чарпак Вялікай Мядзведзіцы" Аркадзя Кандрусевіча.

— Будзьце ласкавы, Аркадзь Лявонцьевіч...

Мусіў удакладніць, што я не Кандрусевіч, а Аношкін.

— А-а... — тады ўжо разгубіўся хлапчына. — То дзе ж Аркадзь Лявонцьевіч?

— На жаль, у камандзіроўцы...

— Дык перадайце яму, што ягоная кніжка вельмі спадабалася... І не мне аднаму...

Неўзабаве, жартуючы, расказаў Аркадзю пра тую сустрэчу.

— Вось такія мы, пісьменнікі, — іранічна ўсміхнуўся Кандрусевіч.

— Якія "такія"? — не зразумеў я.

— Каго іншага, скажам, Максіма Горкага, ні з кім не зблытаеш.

— Дык жа ў Максіма Горкага вунь якія былі вусы! — рассмяяўся я. Аркадзь тады таксама пачаў адрошчваць вусы і крыху сумеўся.

— Ці ж справа ў вусах.

— Вядома, не толькі ў вусах...

Як бы там ні было, зборнік "Чарпак Вялікай Мядзведзіцы" хутка разышоўся ў кнігарнях, не залежваўся ў бібліятэках, быў прыязна сустрэты крытыкай. Аўтар на фоне прыроды паказваў чалавека з ягонымі клопатамі і памкненнямі.

"Людзі жывуць, каб працаваць... Чалавечае жыццё, як лета, для таго і красуе, каб наступіў калі-небудзь жнівень. І горка, вельмі горка, калі жыццё праходзіць, а збіраць нечага".

Гэта з тае, першай кнігі.

А як жа наконт другой? Вядомы паэт Аляксей Суркоў неяк сказаў, што першую кнігу большасць выпускае цікавай і талковай, ды варта дачакацца другую кнігу, бо прафесіяналізацыя звычайна пачынаецца з яе.

Аркадзь не спяшаўся з выданнем другой кнігі. Толькі ў 1977 годзе мы пабачылі ягоныя "Кругі на Белай паляне", куды ўвайшлі аднайменная аповесць і апавяданні.

Праблемы, якія ўздымаліся і па-свойму вырашаліся ў першым зборніку, тут атрымалі развіццё і паглыбленне. Пісьменнік працягвае размову пра сваіх сучаснікаў, пра людзей пакалення, якому давялося перанесці цяжкія выпрабаванні вайны, якое аднаўляла разбураныя ворагам вёскі і гарады. Адчувалася, што героі яго твораў падказаны самім жыццём, палескімі абшарамі.

Так, А. Кандрусевіч нарадзіўся і вырас на Палессі, у вёсцы Ламачы Хойніцкага раёна Гомельскай вобласці. Неяк, калі мы ехалі з ім у Балгарыю, ў час доўгай дарогі ён расказваў пра свае палескія вытокі.

Бацька яго Лявонцій Фёдаравіч быў у свой час адзіным на ўсю вёску граматеем. Працаваў бакеншчыкам, затым рахункаводам мясцовага калгаса "Чырвоная Прыпяць". Вайну прайшоў салдатам, быў пасля старшынёй сельсавета. Маці Алена Данілаўна калгасная даярка, выйшла з сям'і, продкі якой былі заснавальнікамі вёскі Ламачы.

Аповесць "Кругі на Белай паляне" — пра лёс палешукоў, калгаснікаў, сельскай інтэлігенцыі. І не проста пра лёс, але пра вясковыя трагедыі.

Настаўніца Станіслава Мартынаўна са сваімі вучнямі даглядае магілу чырвонаармейца, родам з Ташкента, які тут загінуў у час вайны. Напісалі ташкенцы, землякі салдата, што прыедуць цэлай дэлегацыяй. Мартынаўна і давай каля магілы яшчэ большы марафет наводзіць, надумалася ад яе бярозавую алейку пасадзіць. Саджалі дрэўцы дзеці, натыкнуліся на міну, што засталася яшчэ з вайны. Двух дзетак зрашэціла. Пасля таго Мартынаўна сама не свая стала, у галаве яе памуцілася...

Гіне і яшчэ адзін з галоўных герояў аповесці — Косця Шурмель. Да свайго вяселля Косця наважыўся рыбы наглушыць, ды замест рыбы сябе і яшчэ траіх загубіў.

"Кругі... Сапраўды, раптам здалося Анатолю, быццам ёсць, існуе ў жыцці нейкая непазбежная замкнёнасць. Быццам невядомая сіла кіруе ўчынкамі людзей і, як наўмысна, вядзе яго туды, дзе чакае пагібель..."

Цікавая, вартая ўвагі, перавыдання і невялікая аповесць А. Кандрусевіча "Альфа і амега", якой адкрыўся раздзел прозы нашага магілёўскага калектыўнага зборніка "Галасы Прыдняпроўя" (1990).

Спалучаючы работу ў рэдакцыі з працай над сваімі мастацкімі творамі, Аркадзь Лявонцьевіч шмат год узначальваў літаратурнае аб'яднанне "Прыдняпроўе" пры газеце "Магілёўская праўда", дапамагаў пачаткоўцам пісаць, вучыў не спяшацца друкавацца. Лічыў, што лепшая яго кніга яшчэ наперадзе. Помніцца, на сустрэчы з чытачамі ў бібліятэчным тэхнікуме, адказваючы на пытанне — пра творчыя планы, задумкі, ён адказаў, што збірае матэрыялы для аповесці, а можа, рамана пра вядомага ўсяму свету магілёўскага святара-асветніка Георгія Каніскага. Але паспеў у другім нашым калектыўным зборніку "Дняпроўскія хвалі" (1993) змясціць пра Каніскага нарыс "Вялікі асветнік"...

Як і некаторыя героі ягонай аповесці "Кругі на Белай паляне", Аркадзь Кандрусевіч у 1995 годзе трагічна загінуў у росквіце творчых сіл. А слова яго — жыве.

Іван АНОШКІН

# Дакумент Вялікай Айчыннай

І ў дзяцінстве, і ў юнацтве, памятаю, зачытваўся кнігай успамінаў Героя Савецкага Саюза Г. Лінькова "Война в тылу врага". Уразіла яна мяне тым, што напісана праўдзіва, падзеі паказаны без пафасу, рэальна. Менавіта такія ж пачуцці выклікае і кніга ўспамінаў удзельніка Вялікай Айчыннай вайны Аляксандра Пыльцына "Страницы истории 8-го штрафного батальона Первого Белорусского фронта".

Як піша сам Аляксандр Пыльцын, сваю частку Вялікай Айчыннай вайны да самай Вялікай Перамогі ён прайшоў камандзірам узвода і роты ў 8-м афіцэрскім штрафным батальёне 1-га Беларускага фронту. І самыя першыя, незабыўныя ўражанні і пра афіцэрскія штрафбаты, і пра беларусаў, і пра Беларусь атрымаў у баях на гэтай зямлі, пачынаючы з канца 1943 года пад Жлобінам і ў баях за вызваленне Рагачова. А батальёнам, у якім ваяваў аўтар кнігі, камандаваў ураджэнец Рагачоўшчыны, чалавек рэдкага вайсковага майстэрства і камандзірскага таленту Аркадзь Осіпаў.

"Галоўная мая мэта, — падкрэслівае аўтар, — праз людзей, з якімі мяне сутыкалі абставіны, праз падзеі, якімі запаўнялася жыццё, паказаць не толькі штрафбат на вайне, але і той няпросты, сапраўды гераічны час. Тую эпоху, што засталася цяпер толькі ў памяці прадстаўнікоў пакалення, якое ўжо, на жаль, сыходзіць, пакалення пераможцаў".

Трэба адзначыць, што ў кнізе няма ні адной прыдуманай падзеі, ні аднаго нерэальнага прозвішча персанажа. Сапраўднасць падзей, якія адбываліся ў 8-м асобным штрафным (афіцэрскім) батальёне, падмацавана дакументамі Цэнтральнага архіва Міністэрства абароны Расійскай Федэрацыі (г. Падольск).

Аўтар — генерал-маёр у адстаўцы Аляксандр Васільевіч Пыльцын — пайшоў у Вялікую Айчынную вайну літаральна з выпускнога балю сярэдняй школы. Пасля заканчэння ваенна-пяхотнага вучылішча быў прызначаны камандзірам стралковага ўзвода, а затым роты аўтаматчыкаў афіцэрскага штрафнога батальёна 1-га Беларускага фронту. Нягледзячы на неадназразовыя раненні заставаўся са штрафнікамі да самай Перамогі. Пасля заканчэння вайны працягваў службу ва Узброеных Сілах, аддаў ёй сорак год. Узнагароджаны многімі ордэнамі і медалямі. Жыве ў Санкт-Пецярбургу.

Аляксандр Пыльцын акцэнтуе ўвагу на тым, што франтавыя афіцэрскія штрафбаты і армейскія штрафныя роты ў нейкай ступені аб'ядноўвае толькі паняцце "штрафныя", ды, магчыма, і ўскладаемыя^на тых і другіх асабліва складаныя баявыя задачы. Штрафбаты і штрафныя роты былі зусім рознымі воінскімі арганізацыямі. Яны не былі падобныя паміж сабой перш за ўсё па складзе. Штрафбаты складаліся толькі з афіцэраў, якія здзейснілі парушэнні дысцыпліны. Неафіцэрскіх штрафбатаў проста не было! Штрафныя ж роты камплектаваліся радавымі і сяржантамі, якія праявілі баязлівасць і панікёрства ў баі, сталі дэзерцірамі або здзейснілі іншыя злачынствы. Менавіта ў іх накіроўваліся і крымінальныя элементы — на фронт замест зняволення.

Аб асаблівасцях выкарыстання ў баях менавіта афіцэрскіх штрафных батальёнаў і аб тым, што давялося перажыць за час знаходжання ў такім штрафбаце, аўтар і расказвае ў сваёй кнізе. Падрабязна апісвае свой удзел у рагачоўска-жлобінскай наступальнай аперацыі, абароне Украінскага Палесся, у аперацыі "Баграціён", бітве за Брэст, у вызваленні Польшчы, фарсіраванні Одэра, узяцці Берліна.

Дысцыпліна ў батальёне была жалезная. Як і ўсе франтавыя часці, байцы былі добра ўзброеныя, выдатна абмундзіраваныя. Тых, хто атрымаў раненне, нават нязначнае, або здзейсніў гераічны ўчынак, без прамаруджвання адпраўлялі ў тыл. Тут жа з'яўлялася і загад аб рэабілітацыі штрафніка: ён узнаўляўся ў ранейшым званні, а калі вызначыўся ў баі, узнагароджваўся і пасля выздараўлення накіроўваўся на фронт у звычайную часць.

Лейтэнанцкія мемуары А. Пыльцына вызначаюцца сумленнасцю, праўдзівасцю, якія выяўляюцца ў дэталях, прыватнасцях, а не ў дэкларацыях і агульных разважаннях.

Міхась КАВАЛЁЎ

## З пошты пісьменніка

Змешчанае ў гэтай падборцы — кропля ў моры тых лістоў, што я атрымала ад аўтараў і чытачоў за час маёй працы ў выдавецтве "Беларусь" і часопісе "Полымя". Сярод іх — лісты ад Паўліны Мядзёлкі — першай выканаўцы ролі Паўлінкі ў п'есе Янкі Купалы, ад сучасніцы Цёткі паэтэсы Канстанцыі Буйла, ад пісьменнікаў В. Быкава, У. Калесніка, А. Русецкага, М. Лупсякова, В. Гарбука, ад маіх удзячных чытачоў. У гэтых лістах — адбітак часу, эпохі, якая так хутка і незваротна сыходзіць у нябыт, галасы людзей, якіх даўно няма з намі, але якія даходзяць да нас праз гады і адлегласць. Нашы суайчыннікі карыстаюцца найбольш тэлефонамі, камп'ютэрамі і наўрад ці захаваюць для наступных пакаленняў сведчанні нашай эпохі ў лістах, у перапісцы.

Лідзія АРАБЕЙ

# Адбітак часу і эпохі

Паважаная Лідзія Львоўна!

Што чуваць з маёй кнігай? Ці перадаў у выдавецтва П. Глебка 2-гі экземпляр рукапісу і ці напісаў рэцэнзію? Ці шмат скарацілі? А можа, зусім забракавалі і выкінулі з плана? У канцы красавіка паслала ў рэд. час. "Работніца і сялянка" адзін фрагмент з успамінаў, каб як выкруціцца з доўгу, які зрабіла ў Мінску, але да гэтага часу рэдакцыя часопісу не паведамляе, ці атрымалі рукапіс і ці змесцяць на сваіх старонках гэты ўрывак. Буду вельмі ўдзячная Вам, калі з ласкі Вашай паведаміце аб лёсе маёй кнігі.

З пашанай, Паўліна Мядзёлка. 26.5.64. Будслаў.

Паважаная Лідзія Львоўна!

Я прыйшла ў рэдакцыю "Нашай Нівы" і ўбачыла там Цётку. Яна горача аб нечым спрачалася з Ластоўскім. Потым Цётка звярнулася да мяне і сказала: "Я іду дахаты, у мяне ёсць пельмені, запрашаю вас у госці". Тады я разглядала Цётку з вялікай сімпатыяй, хоць і бянтэжылася яе ўвагі. Мы доўга ішлі рознымі вуліцамі, дайшлі да яе доміку, ён быў невялікі, і Цётка адразу пачала клеіць калдуны. Яна сказала мне, што ў Полацку павінна быць адкрыта беларуская кнігарня і што ёсць думка, каб пасляць мяне туды загадчыцай кнігарні, яна гаварыла, што там трэба згуртаваць моладзь, весці работу асветніцкую наогул, беларускую, каб моладзь чытала рэфераты на тэмы, якія ўздымае сучаснасць, і г.д. Я не магла адказаць адразу, мне трэба было напісаць бацькам, параіцца з Уладкай (будучай жонкай Янкі Купалы. — Л. А.). Мы елі калдуны, пілі чай, потым Цётка праводзіла мяне трошкі, і я пайшла да Уладкі. Праз нейкі час у рэдакцыі "Нашай Нівы" я зноў сустрэлася з Цёткай. Яна адразу звярнулася да мяне — што я надумала. Я сказала, што згодна ехаць у Полацк. Парывістая Цётка схапіла маю руку і пацалавала яе, быццам я выказала згоду на нейкі подзвіг. Я паехала ў Полацк і працавала ў кнігарні вельмі мала, памяшканне было ўзята пад гошпіталь — пачалася вайна.

Канстанцыя Буйла. Масква, 12.12.1973.

Тов. Арабей!

Перед отъездом из Минска со мной получился маленький казус. Но я, честное слово, ни в чем не виноват, просто ко мне за зря придрались на 2 этаже и сообщили затем Николаю Игнатьевичу Татуру. Я не прошу у Вас заступничества и ничего другого, так как все это, возможно, и не нужно. Но положение мое такое, что я не могу показаться и на съезде — денег нет. Быть может, из-за человеколюбия Вы попробуете поговорить с Николаем Игнатьевичем? Снова же — не очень и прошу об этом, т.к. понимаю, что это некрасиво, но... Если к слову придет, а?

Преданный Вам Н. Лупсяков. 12.11.1959 г.

P.S. Я живу очень плохо!

Лідзія Львоўна!

Я пераслаў Вам цераз В. Шніпа паэму, прысвечаную Цётцы. Вельмі трэба Ваша парада. Я яе нікуды не дасылаў, ужо год ляжыць мёртвым грузам. Ад усяго сэрца віншую Вас з Новым годам. Плёну Вам у працы, шчасця ў жыцці, і, самае галоўнае, жадаю Вам моцнага здароўя.

З павагай. Радавы Сыс. Палявая пошта 86675-Ж.

Паважаная Лідзія Львоўна!

Толькі што атрымалі кароценькае пісьмо, якое канчаецца словамі: "Никаких компрометирующих материалов не имеется".

Вельмі спачуваю Вам, што так доўга трэба было цярпець паклёп, нарэшце, хай на вас падзьме з мора цёплы спакойны вецер і прынясе Вам супакаенне і адпачынак.

Па-сяброўску раю Вам, як прыедзеце, не дзейнічаць па формуле — "Аз отомщение воздам". Вы зноў можаце змарнаваць шмат часу і здароўя. Цяпер усім будзе зразумела сутнасць паклёпніка. У рэдакцыі ўсё ідзе ходам. Здалі 12 нумар. Дзіўна, што да Вашага невясёлага настрою далучылася там дрэннае надвор'е. Звычайна ў Гаграх у гэты час цёпла і купаюцца аж да лістападаўскіх святаў. Хай вас суцешыць добрае заўтра! Да хуткай сустрэчы!

Ал. Русецкі. 13.10.1969 г.

Милая Лидия Львовна!

Душевно поздравляю Вас с появлением «Трех рассказов» в №10 нашей «Дружбы народов»! Не забывайте и помните, ради бога, что я давно жду Ваши последние издания, в том числе на белорусском, с автографами для нашего Нурека. Будьте так добры! Всех-всех благ Вам.

Искренне Ваш Сергей Борузддин.

14 декабря 1984 г. Переделкино.

Паважаная Лідзія Львоўна!

Я прачытаў Вашу аповесць "Халодны май". Я думаю, што не адну душу закранае Ваша аповесць сваім трагізмам. Асабліва калі ясна далей прадоўжыць аб жыцці Ніны ў Томску.

Я хацеў бы пазнаёміць Вас з некалькімі жанчынамі, якія зведалі вельмі цяжкае жыццё, але не зламаліся, не толькі духам, аднак і зараз не могуць знайсці свой вагон, каб даехаць на Бацькаўшчыну. Яны тут нікому не патрэбны, яны непатрэбны і там, на Калыме, Варкуце, у Казахстане і Нарыльску. Калі зацікавяць Вас падрабязнасці іх жыцця, я магу даць Вам іх адрасы. Некаторых з іх не толькі білі, але катавалі электрашокам, вялі допыт пад гіпнозам і г.д. Яны страцілі маладосць і здароўе



на лесапавале, у шахтах, на будоўлях. Зараз рэабілітаваныя, але жывуць не ў Беларусі. Прыязджалі на радзіму, атрымалі нібы ў вярнуліся "кампенсацыю" і вярнуліся зноў, а як жыць далей, не ведаюць. Вельмі хочацца мне, думаю, што і іншым чытачам, каб хаця ў аповесці быў шчаслівы канец і Ніна стала жыць спакойна і шчасліва.

З павагай Аляксандр Юшкевіч. г. Міёры 7.9.1994 г.

Добры дзень, Ліда!

Рады адказаць на Вашы пытанні, на якія маю адказ. На жаль, экспазіцыі Э. Ажэшкі ўжо няма ў яе доме. Дом гэты ў аварыйным стане (другі год) і з яго ўсё, што там было, некуды вывезлі. Побач будуецца новы будынак, але ён будзе не раней, чым праз год. Карціну з Цёткай і Ажэшкай напісаў Іван Васільевіч Пушкоў, я з ім гаварыў, і ён пацвердзіў аўтарства. Так што рады задаволіць хоць у гэтым пытанні. А наконт матэрыялаў, на жаль, не ведаю нават, што тут было раней і ці было што. Жадаю Вам новых твораў у новым годзе і добрага здароўя.

З павагай, Васіль Быкаў. 3.1.74 г. Першы ліст у новым годзе.

Уважаемая редакция!

Я прочла в вашем журнале "Неман" повесть Лидии Львовны Арабей "На скрещении дорог". И вот пишу вам. Вы можете передать мое письмо Лидии Львовне? Я очень хочу, чтобы она написала близкому мне человеку. Дело в том, что девять лет назад с Георгием случилось большое несчастье, поехали отдыхать, и когда он нырял, то повредил себе позвоночник. Ему 29 лет, девять лет он уже прикован к кровати. Раньше он еще занимался собой, а сейчас, как говорят, опустил руки. Я думаю, что повесть Лидии Львовны не придумана. В последнее время у нас все чаще стали возникать конфликты из-за того, что он не работает над собой. Может быть, совет автора встряхнет его. Он считает, что в жизни так не бывает. Помогите мне, пожалуйста, заставить его поверить, что не все потеряно. Нельзя жить без веры! Буду Вам очень признательна и благодарна.

До свидания, с уважением, Лиза. Караганда, 11.11.81 г.

Добры дзень, Лідачка!

Далёка, браце, зайшла ты ў даследаваннях, ажно да маёй нататкі ў "Зары". Віншую з уедлівасцю і зайздрошчу. Звесткі, якія я там прывёў пра паездкі Цёткі з Я. Коласам у Пецярбург, я вычытаў у нейкім заходнебеларускім часопісе, у якім, не памятаю дакладна, бо мяне гэтая справа спецыяльна не займала. Мажліва, рабіў тады нейкія выпіскі з той крыніцы, але, перагледзеўшы зборшага свае архівы, не знайшоў, прабач. Наколькі я памятаю, гэта былі ўспаміны "Аганька" — Фелікса Стацкевіча, быў такі віленскі адвакат, дзеяч ТБШ, а дзе гэта магло быць надрукавана? Або ў "Маладой Беларусі" — альманах 1935 г., або ў якімсьці з нумароў "Калосся" ці ў нейкім навуковым зборніку. Гэта было звязана з нейкаю круглай датаю ці то Цёткі, ці, хутчэй, Коласа. Вось усё, што магу прыпомніць. Жадаю поспехаў ва ўсіх тваіх справах і намерах, а яшчэ жадаю добрага веснавога кіпення крыві і можа нават рамансеры, калі гэта спрыяе твайму творчаму намаганню.

Цісну руку Ул. Калеснік. 16.4.74 г.

Паважаная Лідзія Львоўна!

Вялікі дзякуй за памяць, за ўвагу. Вашу кніжку атрымала. Імя Цёткі нагадвае мне дні маёй маладосці.Напярэдадні 1917 года ў Пецярбурзе, дзе я вучылася на Бястужаўскіх курсах, да мяне трапілі №№ часопіса "Лучынка", і верш Цёткі "Вясковым кабетам" мяне да глыбіні ўзрушыў. Зацікавіла мяне і асоба пісьменніцы, але ў той бурлівы час іншыя падзеі засланілі гэты прывабны вобраз жанчыны. Чытаючы вашу кнігу, я заўважыла, што Вы далікатна паставіліся да мовы Цёткі і пазбеглі "мадэрнізацый". Адчуваецца, што пісалі твор з любасцю і натхненнем. Жадаю Вам поспехаў у творчай працы.

З прывітаннем Ю. Бібіла. 21.1.1968 г.

Дарагая Лідзія Львоўна!

У лістападзе мяне чакае сумная дата — 60 год. З гэтай нагоды паслаў я ў "Полымя" 5 мініяцюр усяго на 12 стар. Па старой памяці аб нашых сустрэчах я вельмі прашу Вас прасачыць, каб яны не згубіліся ў вадаспадзе таўшчэзных рукапісаў. А калі што пойдзе, калі ласка, прашу найхутчэй паведаміць. Я тады паспею непрынятае адаслаць яшчэ куды. Зімой перанёс інфаркт. У жніўні збіраемся з жонкаю у Кактэбель. Мо сустрэнемся зноў? Ведаю, што Вы плённа працуеце. Рады за Вас. Найлешага.

Вісарыён Гарбук. 27.6.73 г.

Глыбокапаважаная Лідзія Львоўна!

Добрага здароўя, плённага новага 1984 года! Жадае Вам Ваш чытач, прапагандыст і кніганоша Валдас Банайціс. Дачакацца хачу Вас у нас, калі ў 1985 святкаваць будзем 80-годдзе дзейнасці Цёткі на нашай ніве. Не ўяўляю гэткай урачыстасці без Вас і чакаю. Запрошаны ёсць А. Мальдзіс з лекцыяй "Вільня і беларуская літаратура", каб падрыхтаваць далейшае развіццё нашых сувязяў, патрэбна нам бібліяграфія творцаў пра Цётку. Калі ласка, памажыце нам. У нашай бальніцы створаны куток Цёткі, стэнд. Гэты стэнд будзе экспанавацца і на выстаўцы беларускай кнігі, якая пачынаецца ў бібліятэцы Нова-Вілейскага палаца культуры.

Валдас Банайціс. 1983 год.

## Калонка Міхася ЮЖЫКА

# Слова – падсуднаму!



У літаратурным свеце здаўна практыкуюцца адказы на крытыку. Няцяжка зразумець, што яны носяць пераважна абаронны характар, г.зн. аўтар, не задаволены крытыкай яго тэкстаў, выступае ў ролі змагара за самога сябе. Яму патрэбны скандал, калі аўтар накідваецца "з кулакамі" на свайго крытыка. Ці хаця б невялічкі скандальчык у выглядзе таго, як аўтар свараліва бурчыць.

Адказы аўтараў на крытыку іхніх твораў, такім чынам, розняцца толькі нюансамі. Агульны пасыл жа ў цэлым не мяняецца цягам доўгіх стагоддзяў. Ад аўтараў не дачакаешся "пакаяння", яны не ўпадуць на калені і не падзякуюць крытыку, які ўшчэнт разнёс іх любімае тварэнне. Не! Аўтар будзе сябе бараніць. І вось тут паўстае маральнае пытанне: а ці мае ён права на гэта? Ці каштуюць хоць чаго-небудзь ягоныя словы ў сваю абарону? У судзе ж абарону падсуднага праводзяць адвакаты, напрактыкаваныя і вопытныя ў сваёй справе. Слова ж падсуднаму даецца збольшага для прыліку, і эфект на суддзяў робіць толькі яго шчырае раскаянне, а не самаапраўданне.

Экстрапалюючы судовы працэс на працэс суда над літаратурнымі творамі, можна ўбачыць тое, што адвакатаў аўтару літаратурны закон не гарантуе. Бывае, што нехта выпадкова заступіцца за дазвання разнесены твор. Здараецца, што аўтар сам папросіць знаёмага крытыка заступіцца. Але такое заступніцтва бывае даволі рэдкім, нерэгулярным і, паўтараю, не гарантаваным.

Таму, як ні круці, пакрыўджаным аўтарам варта браць ініцыятыву ў свае рукі. Як той казаў, сам сябе не пахваліш — ніхто і не падумае. Распалены прагай выказацца аўтар мае магутны патэнцыял, бо абараняе не толькі ўвасобленую ў творы ідэю, але і ўласную годнасць, і ўласны літаратурны статус. Таму цяжка яго стрымаць у гэтым парыве. Каб не набываць сабе лішніх праблемы, вопытныя рэдактары даюць аўтару "выпусціць пару". Звычай ланцужок мае ўсяго два звяны: крытычны артыкул і артыкул аўтара ў сваю абарону. Калі не спыніцца на гэтым, то палеміка непазбежна перарасце ў бясконцую дэструктыўную лаянку "да хрыпаты". Што, дарэчы, бачна па ЖЖ-блогах, што не абмежаваны папяроваю плошчай, якая на вагу золата. ЖЖ-палеміка паміж аўтарамі і крытыкамі, як правіла, спыняецца толькі натуральнай стомленасцю людзей, якія, зрэшты, ні да чаго не прыходзяць і застаюцца "пры сваім".

Аўтар, які рэагуе на крытыку сваіх твораў, мае заведама хісткую пазіцыю. Адыграць са страчанага ён тут можа не вельмі многа, а вось прайграць можа столькі, што сам затым пашкадуе. Многія, пэўна, памятаюць, як рэдакцыя "ЛіМа" друкавала адказы аўтараў, да "глыбіні душы" абураных тым, як разглядаліся іхнія творы ў рубрыцы "ЛеГАЛізацыя". Займальна было назіраць, як пажылыя дзядзькі з хлапчукоўскай запаленасцю і слязлівай крыўдлівасцю баранілі сябе. Многія аўтары не ведаюць аднаго: крытык сваімі творамі свядома ці падсвядома жадае вывесці аўтараў на эмоцыі; і калі аўтар гэтыя эмоцыі нястрымана праяўляе — ён прайграў, а крытык трыумфуе. І самая агрэсіўная рэакцыя будзе — на праўду. То бок аўтару паведамляюць горкую праўду пра яго твор. Часам гэта вынесці немагчыма.

9 мая 2010 года ўся Беларусь у 65 раз адсвяткуе Дзень Перамогі. Шмат хто з ветэранаў той, апошняй па часе для нашай краіны, вайны ўжо адышоў у вечнасць. Аднак памяць пра іх застанецца — яшчэ і таму, што ваенныя канфлікты ў свеце не спыняюцца: па-ранейшаму ў многіх краінах працягваюць гучаць аўтаматныя чэргі, льецца кроў мірных жыхароў. Свята Вялікай Перамогі над фашызмам сёння больш сімвалізуе доўгачаканае свята перамогі міру над вайной — здавалася б, такое натуральнае для чалавечага роду свята, якое, тым не менш, заўсёды застанецца недасяжнай марай, ледзь не утапічнай ідэяй. Ды ўсё-такі, пры самых песімістычных прагнозах, найноўшая беларуская гісторыя сведчыць — жыць без вайны цалкам магчыма і трэба. 65 год міру — таму пацвярджэнне.

Рэдакцыя штотыднёвіка «ЛіМ» віншуе ветэранаў Вялікай Айчыннай вайны і ўсіх сваіх чытачоў са святам Перамогі і зычыць ім моцнага здароўя і добрага настрою ў юбілейныя дні.

Уладзімір СКАРЫНКІН

## З уласнаю памяццю я на нажах

З уласнаю памяццю я на нажах.
Мне страшна быць з ёю сам-насам.
Распятае неба на чорных крыжах
Дагэтуль мне мроіцца часам.

Я помню, як з ганка штурхнулі, затым
На поезд пагналі ў калоне.
Схуднелы малеча, жыў духам святым
Я доўга ў нямецкім палоне.

За плотам — суніцы каля ручая,
А ў плоце калючым ні дзіркі.
Употай хрысцілася маці мая,
Дзяліла паёк на прасвіркі.

Ці ўбачыць сынок пераможны салют?
Надзея на лёс і на Бога.
Дзень светлы настаў.
Уваскрэшаны люд
Хрыстосаваўся: — Перамога!

Смяяўся і плакаў Вялікдзень, які
Павек не забудзецца мною.
Я хрышчаны з вамі, мае землякі,
Вайною і доляй адною.

## На Зэелаўскіх вышынях

Ляжыць і дагэтуль мой бацька на схіле
Узятага ўзвышша — у брацкай магіле.
Былы камунар з ім ляжыць у абнімку
І той, хто пісаў на яго ананімку.
Іх смерць напаткала раптоўна, знянацку.
Грузін з армянінам абняўся па-брацку.
Даверліва брат прытуліўся да брата,
За спадчыну больш не ваюють зацята.
Адзін абеліск над хлапцамі-арламі,
Што вёскай на вёску хадзілі з каламі.
Зазерцы, залесцы, загорцы, замошцы
Ляжаць як ахвяры і як пераможцы
Ў жарстве пераплаўленай, спечанай гліне
У брацкай магіле і ў брацкай краіне.
Расплыўся над поймаю ранішні водар.
Дзесь за гарызонтам туманіцца Одэр.
Калі б іх сябры не дайшлі да Берліна,
На варце ля іх не стаяла б яліна.
І з бронзы адліты савецкі салдат
Тут не прыціскаў да грудзей аўтамат
Цяжкая жахлівая форма вар'яцтва
Дарогай крывавай прыходзіць да брацтва.
Адзін аднаму перагрызці зубамі
Ў злабе і зрабіцца сябрамі.
Няўжо не навучацца людзі братацца
Без брацкіх магіл? У каго запытацца?
Амаль нічога не баюся я —
Ні смерці злой, ні старасці пахілай.
Я аднаго баюся, каб Зямля
Не стала раптам брацкаю магілай.

Дзмітрый ПЯТРОВІЧ

## Ветэранам

Ніколі мы не бачылі вайны...
Не зведалі пакутаў і няволі...
А колькі юнакоў тае вясны
Сустрэлі смерць
на ратным жытнім полі.

Крывава-залатыя каласы
Зіхцелі ў промнях сонца маладога...
І плакалі-спявалі верасы,
І ў шлях далёкі клікала дарога...

На той дарозе — зарыва баёў,
Сяброў магілы і —
скрозь спеў гарматы —
На адпачынку — пошчак салаўёў...
А потым зноў — атакі, медсанбаты...
І ля рэйхстага песні пад гармонь,
І сполахі салюта над Берлінам...
Каханай вочы... На плячы далонь...
І словы першыя дачкі і сына...

...Хоць пройдзе час, суцішацца гады, —
Спакою не даюць старыя раны...
Паклон вам, дарагія ветэраны, —
Цвітуць вясною мірныя сады!

Генадзь ПАШКОЎ

## Салют

Як помню — я ў сэрцы нашу
франтоў грамавыя дарогі,
таму азарае душу
Маёвы салют
Перамогі.

Баі не хрысцілі. Не чуў
уздыбленых смерч перуновых,
ды кожнаю тканкай хачу,
таго, каб не зведаў
свет новы,
што вынеслі бацька... радня...
Пакутнікаў мільёны,
атожылак іхні — я
на гэтай зямлі салёнай.

...Ударыць —
аж іскры з вакон! —
імклівым парывам і рэзкім
пад купалам неба, як звон,
магутны Салют,
усяленскі!

Маёвае ўспыхнуе цяпло
з абшараў далёкіх і блізкіх.
Напэўна,
у неба ўзышло
Сузор'е зямных абеліскаў!

Я Памяць,
я час варушу,
грымотныя чую дарогі.
І мне азарае душу
Маёвы салют
Перамогі.

Сяргей ДАВІДОВІЧ

## Вечная святыня

Раптоўна стала ціха на Зямлі,
Спыніліся і справы, і забавы.
Тэлеканалы працу пачалі
Не, як заўжды, а з экстраннай аб'явы.

Здавалася, што й сам тэлеэкран
За кожным словам плакаў непрыкметна:
"Пайшоў з жыцця апошні ветэран
Жахлівай той вайны — Другой сусветнай..."

Хто? Дзе? Калі? Якой дзяржавы сын? —
У кожным сэрцы трапяталі словы.
Як прозвішча? Няўжо ён быў адзін?..
А ў слове "быў" — заўсёды сэнс суровы.

Не стала пераможцы... І Зямля
Застыла ў нейкім сне зачараваным,
Як быццам жыць збіралася з нуля,
Расстаўшыся з апошнім ветэранам.

Свет аб'яднаўся гэтай навіной
І з болем зразумеў маштабы бедства —
Так, быў ён сынам, толькі не адной
Дзяржавы — сынам чалавецтва.

...Каб не патухла памяці святло,
У будучыню зазірнуць не шкодзіць.
Было гэта... у невядомым годзе,
Дакладней, будзе...
Лепш бы не было.

Галіна НІЧЫПАРОВІЧ

## Рэха вайны

Вясёлы і сонечны май
Заходзіць у нашыя хаты
І там, дзе грымелі гарматы,
Шапоча бярозавы гай.

Падзеі ваенных часін
У сэрцах жывуць ветэранаў
Нязгойнай крываваю ранай
Тых жорсткіх баёў напамін.

А сведкі — глухія бары
Маўкліва стаяць вартавымі
Між мёртвымі і жывымі
Яшчэ з той ваеннай пары.

Святочны і сонечны май
Плыве над маёю Радзімай
І той Перамогі адзінай
Салютам расквечаны край.

ЗЬНІЧ

## ...Менск, 1941 — 1944...

(адзін з маіх найпершых успамінаў з далёкае пары вайны Айчыннай)

...іду я — хлопчык, мусіць,
трохгадовы —
ад дабрадзеяў — Гусевых —
дадому...
...Мікола Йваныч Гусеў
быў мастак...
партрэты маляваў —
звышадмыслова...
(нямецкіх афіцэраў)...
адным словам,
пры ім ня быў галодны я, бядак...
...дарэчы, ў сваёй хаце,
пад страхою,
ён прытуляў і нашых партызан...
прытулку больш надзейнага,
чым там,
знайсці было няпроста —
той вайною...
...дык вось,
іду аднойчы я дахаты...
яшчэ далёка да сустрэчы
з татам —
прыгожым лейтэнантам,
што прынёс
ласункаў торбу,
да якой прырос
вечна галодны я
(часоў нямецкіх)...
а потым — сыты
(увесь час савецкі)...
...дык вось: іду...
садзіцца сонца ў хмары...
ў суквецці фарбаў —
сэрцайкам тану...
забыўся пра нягоды, пра вайну...
пра цельца крохкае сваё...
— і ў марах —
без успамінаў,
без Зямлі — йсную,
абняўшы ўвесь Сусвет
тугой салодкай...
анёлаў крылы —
цеплынёй дрыготкай —
бы атулілі немачнасць маю...
...нябачны Бацька
быццам пазіраў
на немаўлятку...
лёс ягоны важыў...
і, пэўна ж, ведаў, што калісь ён скажа й
пра гэты ўзлёт —
як выспее пара...

Вольга ШПАКЕВІЧ

* * *

Не сорам, што капаюць слёзы
На брэсцкі расплаўлены камень,
Нічога, што пройдзе марозам
Па целе Хатыні гучанне.

Было б толькі шчырасці болей,
Душэўнае шчодрасці трохі,
Каб здолець любіць аж да болю
Бяроз уцалелую тройку.

І простую матчыну песню
Навек захаваць першародной,
Быць здольным душу сваю песціць
Гаючаю моваю роднай.

Галоўнае — памятаць трэба,
Што ты гаспадар свайго лёсу:
Чакае зярнят тваіх глеба,
Ты спыніш і боль, і слёзы.



Фота Кастуся Дробава

З аповеда Аляксандра Ісакава, сына героіні апавядання

# Агонь крывёю не заліц



Іван СТАДОЛЬНІК

## Апавяданне

Ефрасіння Ісакава пайшла па ваду. Калодзеж быў далекавата, адразу не згледзіш. Толькі абмінула апошнюю хату перад калодзежам, як убачыла, што з яго бралі ваду немцы. Жанчына анямела і, крыху апамятаўшыся, хацела ўжо ціхенька-ціхенька вярнуцца назад, як яе заўважыў адзін з немцаў.

— Матка, ком гір, — выгукнуў ён, паківаўшы пальцам да сябе.

Ефрасіння зноў як акамянела, не магла не толькі ісці, але нават міргнуць вокам. Бо ўжо ўчора чула ад людзей, што прыйдуць немцы і будуць страляць партызанскія сем'і. А ў яе на руках аж пяцёра маленькіх дзяцей і муж у партызанах.

— Ком, ком гір. Не боятс. Бейрйт васер, вода. Ком. Не боятс, — зноў пальцам паклікаў да сябе даволі пажылы немец. Два другіх панеслі ваду і далі піць коням, якія стаялі непадалёк, запрэжаныя ў сані.

Убачыўшы гэта, Ефрасіння неяк неўпрыкметку, як не сваімі нагамі пайшла да калодзежа. Як падышла, немец моўчкі ўзяў у яе з рук вёдры і апусціў у калодзеж журавель, выцягнуўшы адно вядро, затым другое, наліў вады ў вёдры Ефрасінні. Памаўчаўшы, спытаў:

— У фраў кіндэр ест?

Ефрасіння маўчала. Немец, відаць, падумаў, што яна не зразумела яго, перапытаў:

— Дзеці, кіндер ест?

У Ефрасінні аж замерла сэрца, усё цела скаваў ледзяны холад: чаму немец пытае пра дзяцей? Але тут жа немец вывеў яе з анямення.

— У меня драй кіндэр. Не знайт, где вони. Я не фашыст. Я мэнш. Чэловек. Мне кріг, война не нужна. У тебе кіндер ест?
— зноў перапытаў немец.

Як пад некім гіпнозам, ці што немец размаўляў неяк па-чалавечы, Ефрасіння сама таго не жадаючы, ледзь не шэптам сказала:

— Ёсць. Дачушка, Маруська і чатыры хлопчыкі. І з мальбой у вачах паглядзела ў немцавы вочы.

— Матка убегайт. Будет пуф-пуф, стреляйт бандыт-партызант. Наш зольдат оні пуф-пуф. Стреляйт фраў, кіндэр, кто фатер, сын. Ацец ці муж партызан.

Усё ў Ефрасінні затрымцела нейкай халоднай млявасцю. Муж-то яе, Карп, быў у партызанах. Два немцы паехалі на сваіх санях, напаіўшы коней. А конь гэтага немца стаяў на сваім месцы. І толькі як бы злуючыся час ад часу гыркаў, аздабляючы навокал сябе прастору густой парай, бо быў даволі вялікі мароз таго дзевятага лютага тысяча дзевяцьсот сорак трэцяга года.

— Матка, убегайт і кіндер брайт. В лес, сарай. Убегайт.

Чамусьці Ефрасіння паверыла немцу. Ён здаўся ёй нават нейкім звычайным чалавекам. Схапіўшы вёдры, яна, расплёскваючы ваду, пашыбавала дадому. Паставіўшы вёдры ў сенцах, хутка запрагла ў сані каня, які дастаўся ад разбеглага калгаса і, узяўшы дзетак, Сашу, Маруську, Мішу, Лёню і груднога Колечку, паехала да дзядулі ў вёску Глоты, дзе не было немцаў. Але дзядуля параіў вярнуцца дамоў у сваю вёску Двор-Чарапіта, што на Расоншчыне, бо невядома, што яшчэ будзе тут, у Глотах.

Конь, як і заўсёды, відаць, адчуваючы, што накіроўваецца дамоў, вельмі ахвотна цягнуў свае сані, час ад часу пераходзячы на бег. Ледзь не перад самай вёскай Двор-Чарапіта аднекуль з кустоў выскачыў чалавек на адной лыжы з вінтоўкай за плячыма. Ефрасіння зразумела, што гэта партызан. Немцы спрабавалі гнацца за ім, але толькі паўзлі па глыбокім снезе і стралялі.

І сані якраз спыніліся паміж тым партызанам і немцамі. Немцы замахалі рукамі, закрычалі:

— Вэк, вэк, шнэль.

Ефрасіння ў першы раз сцебанула каня лейцамі і той ледзь не галопам паімчаўся па заснежанай дарозе, а чалавек-адналыжнік ужо схаваўся ў лесе.

У Двор-Чарапіта Ефрасіння накарміла карову і адразу паехала разам з дзецьмі ў вёску Ушчаленкі да Рамана Курагі, каб параіцца, што рабіць, бо муж яго дачкі Ніны таксама быў у партызанах, расказала пра чуткі і паведамленне немца, што фашысты будуць расстрэльваць партызанскія сем'і і сем'і франтавікоў, што трэба ехаць хавацца ў лес. Але Ніна адмовілася. Пасля гэтага Ефрасіння прыехала ў закінуты былы панскі дом, пасадзіла дзяцей на халодную печ, распрагла каня, адвяла яго ў канюшню і пабегла да Тамары Казлоўскай, каб паведаміць аб пачутым, што трэба ўцякаць у лес, ці хавацца дзе ў пуні, бо муж быў у адным атрадзе з яе Карпам. Але Тамара таксама здрэйфіла.

Назаўтра раніцай дзесятага лютага немцы пачалі зганяць жыхароў на допыт. У закінуты панскі дом былы сусед Ефрасінні Ігнат Корабаў прывёў немца і яны ўдвух пачалі зганяць дзяцей з печы.

— Не чапайце дзяцей, яны хворыя на тыф! — не памятаючы сябе, закрычала Ефрасіння. Немец тут жа як апараны выскачыў з хаты, а Корабаў, добра ведаючы, што ніякага тыфу няма, штурхануў Ефрасінню з грудным Колечкам на вуліцу і пачаў палкай біць-выганяць дзяцей, цэдзячы скрозь зубы:

— Бач. Жыць хочуць. А я — што — не? Мяне з-за сына-партызана расстраляюць, а вы ж таксама партызанскія, дык, нябось, жыць захацелі!

…Допыт вёўся ў двух хатах. У той, куды загналі Ефрасінню і Корабава, допыт вёў паліцай Ігнат Шчарбакоў. Ефрасіння адказала на ўсе яго пытанні даволі хітра. Мусіць паверыў ёй, што ў яе не партызанская сям'я, і адпусціў з дзецьмі на волю. Не паспела Ефрасіння пераступіць парог хаты, як з пакоя смяротнікаў, дзе быў і Корабаў, закрычала жанчына:

— Не вер ёй, яе муж, як і мой таксама партызан!

— Назад! — крыкнуў паліцай.

— Давай да яе ў напарніцы! — кіўнуў галавой у бок другой паловы хаты, адкуль данёсся голас. Ефрасіння заўпарцілася, але некалькі паліцаяў кінулі яе з дзецьмі ў кампанію да смяротнікаў.

— Усе. На выхад! — скамандаваў паліцай. Пара і ў партызанскі рай ужо.

Лютаўскае сонца не па-зімоваму свяціла ярка, нават крыху грэла. Ефрасіння ішла ледзь не апошняй, несучы на руках паўгадавалага Колечку. Глыбокі снег стрымліваў хаду, нібы стараўся смяротнікам падоўжыць жыццё, іскрыўся і нібыта дыхаў не холадам, а цяплом. Сын Сашка трымаўся за спадніцу, Маруська ледзь паўзла па снезе, а Мішу і Лявона немцы і паліцаі падкідвалі нагамі як футбольныя мячыкі.

І вось старэнькая хата на ўскраіне Двора-Чарапіта. Ефрасіння старалася ўспомніць, чыя гэта была хата, хаця і даўно пуставала. Але яе як стрэл аглушыў крык:

— Раздевайтесь!

Ефрасіння ўстрапанулася: няўжо гэта загад ёй?

Але не. Паліцэйскія і немцы загадвалі распранацца маладым і тым, хто меў прыстойную вопратку. Іх і першымі пагналі ў расчыненыя дзверы хаты-гнілушкі, з якой адразу ж пачуліся стрэлы.

Ефрасіння стала як каменная, не рэагавала ні на што, не чула, як крычалі недзе далекавата Міша і Лёня: "Мама!.. Мама!.. Мамачка!.."

Перад Ефрасінняй стаяла, можа, трынаццацігадовая дзяўчынка. Калі паліцай з немцамі ўпіхнулі яе ў дзверы для расстрэлу, яна маланкай выскачыла. Убачыўшы гару трупаў і мора крыві, дзяўчынка з нечалавечым крыкам кінулася назад і пусцілася наўцёкі. Пакуль немцы пачалі даганяць яе, Ефрасіння пералезла цераз кучу застрэленых людзей, а за ёй, учапіўшыся за спадніцу, кульнуўся і Сашка. Трупы яшчэ падалі, абліваючы Ефрасінню гарачай крывёю. Ефрасіння паспрабавала варухнуцца, каб неяк даць дыхнуць Колечку, хоць адчувала, што ён ужо задыхнуўся, мёртвы. Але на ёй ляжала шмат чалавечых цел і першым было цела той выратавальніцы-дзяўчынкі.

Пачуўся трэск агню і хату пачаў запаўняць горкі дым. Ефрасіння пачула, як крычалі Міша і Лёня: "Мама!.. Мама!.." І ў момант іх галасы змоўклі. Гэта нелюдзі кінулі іх жывымі ў полымя і яны захлынуліся ў саламяным агні.

Ефрасіння раптам адчула, што каля ее з боку нешта варухнулася. Напружылася, працягнула руку і натрапіла на дзіцячую ручку.

— Сашка! Сашка! Сынок! Ты?!

Імгненна скінула зверху некалькі забітых. І о, цуд! Сашка! Ён і цяпер трымаўся за маміну спадніцу. Але было не да радасці. Горла забіваў страшэнны дым, пачалі ўжо гарэць і сцены.

Ефрасіння ў роспачы схапіла валёнак і зачарпнуўшы ў яго крыві, якой было ледзь не па калена, пачала заліваць агонь, які ад гэтага станавіўся ўсё большым і большым. У правым вуглу нехта паварушыўся. Няўжо і яшчэ ёсць нехта жывы, падумала Ефрасіння.

— Памажыце!.. — пачуўся голас мужчыны, Ефрасіння пазнала ў ім голас аднавяскоўца, дзядулі Сідоркі, які быў паранены ў ключыцу.

Разам яны вылезлі на волю. Нелюдзі нават не зачынялі дзвярэй, былі ўпэўнены, што жывых не засталося. Але смерць не ўсясільная перад жыццём.

Браніслаў ЗУБКОЎСКІ

# Вусцянскія гваздзікі

Баравічок быў невялікі. Адна назва, што баравічок. Грыбнік не падрэзаў яго. Пашкадаваў. Прысеў на кукішкі, падушачкай пальцаў злёгку дакрануўся да крамянага парасончыка.

"Ды, брат, вільготны ўвесь, — падумаў ён. — Зямля-парадзіха выштурхнула цябе на сонца, на свет".

— Жыві, малеча, — сказаў грыбнік і выпрастаўся.

Цяпер увагу Канстанціна Міхайлавіча прыцягнула кветка... Бухматая, быццам адліта з лёгкага металу, яна ўпрыгожвала лапік зямлі.

Колас заплюшчыў вочы. Прывід! Няўжо гваздзік? Тут, у лесе? Неверагодна...

Грыбоў больш не збіраў. Шукаў гваздзікі. Радуючыся знаходцы, ступіў на нізкі масток (Балачанка ўпадае тут у Свіслач), прысеў, апусціў руку з кветкамі ў рачную ваду. Каб жа не завялі дачасна. Будзе ў хаце свята, будзе.

Ужо за ракой ён патрапіў на пянёк і на хвіліну прысеў, каб крыху адпачыць. І каля пянька рос гваздзік. Але ён не далучыў яго да букета. Не крануў кветку. Адшукае жонка. Ён прывядзе яе сюды і скажа:

— Ты знойдзеш тут тое, што любіш...

— Холадна, холадна, — будзе казаць Марыі Дзмітрыеўне, калі яна пачне аддаляцца ад пянька. Ён абавязкова прывядзе яе сюды, і лес закружыць іх.

Колас падняўся, пайшоў берагам Свіслачы да вёсачкі з пяці хат, атуленай лясамі. Хораша на хутары. І працуецца добра. За кароткі час ён пераклаў на беларускую мову шмат вершаў Тараса Шаўчэнкі. Падахвоціла да гэтай справы жонка.

І з гаспадарамі пасябравала сям'я Коласа.

— Мы адвялі ім палову хаты. Няхай адпачываюць. Хаця, бачу, няма калі Марусі прысесці. Дзень каля прымуса круціцца. Мужчынам паесці трэба, абсціраць. Не гарадская яна. З нашых будзе, — расказвала на вёсцы Аўдоля Рымашэўская.

Марыя Дзмітрыеўна раскрыла жонцы Язэпа кулінарныя сакрэты, звязала яе мужу світэр на зіму. Ніткі з Мінска прывезла. Часам садзіла Аўдолю каля сябе, вучыла вязаць. Колас паджартоўваў:

— Колькі на грабёнку набралі, жанчыны, пяцёлак, покуль я грыбы збіраў?

У сям'і Язэпа Рымашэўскага Марыю Дзмітрыеўну палюбілі. Неяк жонка папрасіла, каб Аўдоля прынесла яблыкаў з садка. Тая прынесла. Марыя Дзмітрыеўна парабіла ў яблыках адтулінкі, засыпала цукрам, паставіла ў печ.

— Смакацішча, — хваліў Язэп.

Сам жа бег у варыўню за бярозавікам. Колас бярозавік любіў.

— Толькі ячменю сушанага трэба даць яшчэ з вясны, — раіў гаспадару.

Гаспадар навучыў сыноў паэта лавіць рыбу. А то, бывала, прасціну возьме і на раку з Данілкам, Міхасём, Юркам. Міхася з Юркам па баках паставіць на адлегласці, каб заганялі рыбу, а сам — з Данілам, трымаючы з абодвух канцоў прасціну ў вадзе.

Марыя Дзмітрыеўна такі спосаб лоўлі не прызнавала. Ёсць вуды, кручкі бацька ў Мінску ў краме падабраў. Ніткі гаспадар навашчыў. Што трэба? Сядзь на муражок і лаві з берага.

— Будзе табе плотка, будзе і пячкур, — казала сынам.

Колас у душы пагаджаўся з жонкай, якая баялася, каб у дзяцей не ўзнікла прага лёгкай нажывы.

У чэрвені прыехаў Купала. Ён адразу звярнуў увагу на кветкі ў шклянцы на стале.

— Каласічкова работа, — усміхнуўся Іван Дамінікавіч. — Шануе ён цябе, калі кветкі дорыць, — сказаў Купала Марыі Дзмітрыеўне. — Але адкуль тут белыя гваздзікі, пані? — узяў паэт гуллівы тон.

— Гэта, Яначка, тайна мужа, — адказала яна, прыбіраючы посуд са стала.

Госць аб нечым шаптаўся са сваім сябрам. Марыя Дзмітрыеўна не перашкаджала размове. Ведала: Канстанцін Міхайлавіч у Вусці працуе над п'есай "У пушчах Палесся". Аддаць яе ў тэатр трэба першага жніўня. Відаць, у мужа была неабходнасць параіцца з Купалам адносна зместу твора.

Ацаніў Купала і пераклады сябра вершаў Шаўчэнкі на беларускую мову. Колас падахвоціў:

— Зрабі і ты пераклады з паэзіі Кабзара. А тады нашу сумесную працу перададзім у выдавецтва.

Купала, пагасцяваўшы ў Вусці, паехаў у Ляўкі на дачу. Сказаў на развітанне Марыі Дзмітрыеўне: "Ён падарыў табе ўсё наваколле з кветкамі, лясамі, сонцам. Я ў Ляўках адшукаю для сваёй Уладкі гваздзікі. Усе распадкі абыду, а кветкі знайду".

Пасля праводаў госця Колас з жонкай падаліся да ракі слухаць салоўку, які шчыраваў у вербалозах да рання.

А потым была вайна. Нялёгка складвалася жыццё ў Ташкенце. Колас пакутаваў ад таго, што фашыст топча Беларусь. Ад таго, што не піша сын Юрка з фронту (апошняе пісьмо бацькам было датавана 20-м верасня 1941 года).

У 1945 годзе Канстанціна Міхайлавіча зноў пацягнула ў Вусце. Да тых даваенных сцяжынак.

— Паедзеш са мной, Даніла, — сказаў сыну.

Па дарозе маўчаў, гледзячы праз акно легкавушкі на знявечаныя лясы, груды жалезнага лому. Машыну загадаў спыніць насупраць грудка.

— Я хутка. За мной не ідзіце, — папрасіў вадзіцеля і сына…

— Маруся! — страсянуў раптам лес водгалас адчаю і болю.

— Я-я-я, — адазвалася рэха.

— Бацьку, відаць, нядобрыцца, — выказаў непакой Федзя. — Ідзём хутчэй да яго.

Вадзіцель палапаў па баках пінжака — шукаў папяросы. Пачак быў у легкавіку. Дацягнуўся праз вакенца легкавушкі да "Беламора". Нервова чыркнуў сярнічкай, прышпіліў папяросу да агеньчыка.

— Не трэба, Федзя, — папрасіў Даніла, — не смалі.

І адвярнуўся ўбок, каб вадзіцель не бачыў яго вільготных вачэй.

Фёдар засунуў папяросу ў карабок.

— Бацька ехаў сюды, каб дагукацца маці, — ціха сказаў Даніла.

А на грудку, прыхінуўшыся да бярозы, плакаў паэт.

І толькі мне адно сягоння горка:
Няма таго, з кім думкі я дзяліў,
З кім тут стаяў, з кім я шчасліва быў.
Пагасла ты, яснюсенькая зорка.
("На руінах прошласці").

Да легкавушкі вярнуўся Колас праз гадзіну, трымаючы ў руцэ букецік летніх гваздзікоў. Даніла ўсё паглядаў на бацьку, на твары якога ляжала пячатка смутку і болю. У гэты ж дзень кветкі паклалі на пліту на вайсковых могілках у Мінску. Вусцянскія гваздзікі на пліце. Як сімвал чысціні іх кахання.

**Да Вялікай Айчыннай вайны імя Аляксандра Міхайлава не сыходзіла з расійскіх афіш. Нарадзіўся Аляксандр Міхайлавіч 29 сакавіка 1904 года ў сям'і варонежскага шаўца. Скончыў тэатральны тэхнікум, працаваў у тэатры, у цырку. Пачаў складаць паэтычныя тэксты для клаунадных рэпрыз і куплетаў. У 30-я гады шмат гастраляваў па Беларусі. Паступіў на завочнае аддзяленне Літаратурнага інстытута, але… Вялікая Айчынная вайна крута змяніла не толькі планы, але і лёс яго пакалення.**



# Артыст, змагар, паэт

У даваеннай публікі асаблівай папулярнасцю карысталіся нумары, у якіх Аляксандр Міхайлаў выступаў разам з жонкай Вольгай Мікалаеўнай — "Акрабаты-эксцэнтрыкі". А калі іх дуэт, вядомы пад назвай "Діхі", прадстаўляў нумар "Стралкі-снайперы", у цырку быў аншлаг! Не верылі гледачы, што артыст можа гэтак трапна страляць. Нават сябры патрабавалі доказаў. Якія іспыты толькі не прыдумвалі! І Аляксандр заўсёды згаджаўся. Аднойчы нехта склаў удвая ігральную карту і паставіў рубам. Міхайлаў перабіў яе напалам.

Неяк Аляксандра і Вольгу накіравалі на гарадскія спаборніцтвы па кулявой стральбе, і яны "забралі" там усе прызы. Але назаўтра да артыстаў наведаліся прадстаўнікі спартыўнага камітэта і папрасілі вярнуць узнагароды: нельга, маўляў, спаборнічаць прафесіяналам з аматарамі.

А яшчэ Аляксандр Міхайлаў мог стаць прафесійным паэтам. Вершы ён пачаў пісаць у маладым узросце, друкаваў іх у маскоўскіх выданнях. У 1938 годзе атрымаў нават літаратурную прэмію ІІ ступені сярод яраслаўскіх пісьменнікаў, а ў 1941-м да экранізацыі на "Мосфильме" была падрыхтавана п'еса А. Міхайлава для дзяцей "Смышлёный опёнок"…

5 ліпеня 1941 года Аляксандр Міхайлаў добраахвотна з'явіўся ў ваенкамат і ў складзе 5-й дывізіі апалчэння г. Масквы пакінуў сталіцу. А позняй восенню дывізія трапіла ў акружэнне. Параненым баец А. Міхайлаў быў узяты ў палон. Немцы прыгналі захопленых у Маладзечна. Паўтара года ён, малодшы лейтэнант, прабыў у фашысцкім лагеры для ваеннапалонных "Шталаг-342", куды былі сагнаны тысячы вязняў. У нечалавечых умовах трэба было выжыць. Ад невыцерпна цяжкіх думак ратавалі Аляксандра Міхайлава вершы. У партыйным архіве г. Мінска захоўваецца нататнічак памерам са скрынку для запалак, дробна спісаны вершамі паэта-вязня, які хаваў яго ў невялікім спраце, выдзеўбаным у нарах. Трымаць пры сабе такія рэчы было вельмі небяспечна, асабліва пасля выпадка, сведкамі якога былі вязні. Пры абшукванні ў аднаго з палонных знайшлі сшытак з вершамі.

— Што гэта? – тыцнуў грозны наглядчык у твар вязня.

— Усяго толькі вершы… Я пішу вершы, — пачаў тлумачыць небарака. — Гэта, ну… як ваш Гейнэ…

— Што?!. Гейнэ?!. Юдэ?!.

Раз'ятраны фашыст выхапіў парабелум і застрэліў паэта на месцы. Як пазней высветлілася, гэта быў Павел Власаў. У той жа дзень, 8 лістапада 1941 года, А. Міхайлаў, узрушаны да глыбіні душы, напісаў верш "На смерть поэта". У ім — боль, гнеў, а між радкамі — сціснутыя мужчынскія кулакі і скупыя слёзы.

Смотрит
оловянностию впадин
На врагов расстрелянный поэт.
Рядом —
втоптанные в грязь тетради…
В них — стихи,
которым смерти нет.

Калі аднойчы ноччу ад голаду і дыстрафіі памёр яго сябар, Аляксандр Міхайлавіч зразумеў, што цярпець больш нельга, трэба дзейнічаць. Ён пачаў ствараць… хор і, па заданні падпольнага цэнтра, падбіраў у яго склад надзейных людзей. Прымалі нават безгалосых. Хор быў выйсцем і адзінай магчымасцю перадаваць інфармацыю і рыхтаваць уцёкі. Але за неаднаразовыя спробы ўцячы лагерные гестапа забараніла Міхайлаву выхад за межы лагера, прызначыўшы яго санітарам у лазарэт. Пасля Сталінградскай бітвы ў лагеры памянялася начальства, і гэтая забарона была знята.

І вось 15 чэрвеня 1943 года Аляксандр Міхайлаў і яшчэ дзесяць вязняў, знішчыўшы траіх канваіраў, уцяклі з палону. Усе яны ўліліся ў шэрагі партызан брыгады "Народныя мсціўцы" імя В. Варанянскага, якая была створана на тэрыторыі Мінскай вобласці адной з першых. Любілі і паважалі партызаны свайго камандзіра Васіля Трафімавіча Варанянска-



га (дзядзьку Васю) за асабістую адвагу, розум, уменне ў самых складаных абставінах захоўваць вытрымку і спакой, за тое, што не рызыкаваў без патрэбы людзьмі, а выхоўваў і загартоўваў у баях з фашыстамі адважных народных мсціўцаў, якія дастойна выконвалі свой грамадзянскі доўг перад любай Радзімай.

Міхайлава прызначылі камандзірам аддзялення 3-й роты атрада імя Р. Катоўскага. Разам са сваімі новымі сябрамі-партызанамі біў ён ворага ў Сервічах, Альковічах, Вілейцы. У баі за чыгуначную станцыю Куранец кіраваў групай падрыўнікоў. За гэтую баявую аперацыю быў прадстаўлены да медаля "За баявыя заслугі" і ордэна Чырвонай Зоркі.

На рахунку адважнага байца — "рэйкавая вайна", разведка, засады, шматлікія баі з праціўнікам. А ў гадзіны нядоўгага зацішша і трывожнага сну думаў пра родных — трох сясцёр і трох братоў, з удзячнасцю ўспамінаў бацьку: шавец, а даў усім дзецям добрую адукацыю, у асноўным, музычную; перачытваў цёплыя лісты жонкі, Вольгі Мікалаеўны, якая паведамляла пра дзяцей — дачку і сына, пра свае бясконцыя вандроўкі з брыгадай артыстаў і выступленні на розных франтах.

17 лістапада 1943 года атрад Міхайлава выйшаў на засаду ў раён шашэйнай дарогі Пушчанка — Хатаевічы. Захапілі вялікі абоз праціўніка, знішчылі дзесяткі гітлераўскіх салдат і афіцэраў. Партызаны страцілі ў гэтым баі двух таварышаў, трое былі паранены. Цяжкапаранены Аляксандр Міхайлавіч працягваў ваяваць. Акрамя кулямёта, яго зброяй сталі вершы. У брыгадзе рабілася сатырычная "Кніжка-малышка, фашыстам — крышка". Яна засылалася ў варожыя падраздзяленні, заклікала салдат пераходзіць да партызан, узмацняла ўпэўненасць у хуткай перамозе над ворагам. Паэт-партызан спрычыніўся да яе выпуску.

У красавіку 1944-га загадам па атрадзе была назначана рэдкалегія ў складзе сямі чалавек па падрыхтоўцы літаратурна-мастацкага зборніка. Сярод іх невыпадкова значылася прозвішча Міхайлава. Тады ж камандаваннем брыгады было вырашана выпускаць брыгадны літаратурны часопіс, і Міхайлаў на падставе загада быў уключаны ў рэдкалегію гэтага часопіса і пераведзены з атрада ў штаб брыгады. Цікавай і плённай была яго праца ў якасці рэдактара часопіса, аўтарам шматлікіх матэрыялаў якога з'яўляўся ён сам. Прыблізна ў той жа час у партызанскай падпольнай друкарні на Случчыне быў выдадзены зборнік Аляксандра Міхайлава "Паэзія вайны", у які ўвайшлі вершы, напісаныя ім за 1943-1944 гады. На жаль, ніводнага экземпляра гэтай кнігі не захавалася, ды й сам паэт не паспеў яе пабачыць, бо ў чэрвені распачалася буйная ваенная аперацыя "Баграціён".

Напярэдадні адбыўся вялікі сход кіраўнікоў партызанскіх брыгад, на які быў запрошаны ў якасці артыста і А. Міхайлаў. Баец захапіў з сабою тэкст "Гімна героям", які ён прысвяціў слаўным кіраўнікам партызанскага руху, Героям Савецкага Саюза — Мачульскаму, Цітковy і Луніну. Менавіта на гэтым сходзе быў абнародаваны Указ аб іх узнагароджанні. Пасля сур'ёзнай размовы і невялікага канцэрта, на якім выступаў Міхайлаў, адбылася сустрэча таленавітага самадзейнага паэта з вядомым музыкантам Ісідарам Бары, які да вайны працаваў дацэнтам Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі, кіраваў хорам Беларускага радыё. Бары зацікавіўся тэкстам і хутка паклаў яго на музыку. Потым гэты "Гімн" загадкавым чынам трапіў у рукі Бергеру — прафесару кансерваторыі, піяністу, які ў час вайны кіраваў канцэртнай брыгадай у прыфрантавой паласе і на вызваленых тэрыторыях, у асноўным, Гомельшчыны. Гімн быў уключаны ім у праграму выступленняў брыгады. Пазней вядомая музыказнаўца Лідзія Мухарынская апісала гэты факт вельмі дакладна ў часопісе "Музыкальная жизнь" № 5 за 1975 год.

Першага ліпеня 1944-га брыгада "Народныя мсціўцы" злучылася з наступаючымі часцямі Чырвонай Арміі. Партызаны ўдзельнічалі ў вызваленні Вілейкі, Маладзечна, Смаргоні, у ліквідацыі пасобных падраздзяленняў ворага, аднаўлялі аэрадромы, масты, шашэйныя дарогі. У вялікай беларускай аперацыі тэрыторыя рэспублікі была вызвалена ад гітлераўцаў. У Мінску на парадзе партызан сталічнай вобласці побач з баявымі паплечнікамі крочыў і Аляксандр Міхайлаў. А вораг пад магутнымі ўдарамі Чырвонай Арміі каціўся далей на захад…

Пасля вайны паэт-партызан застаўся ў Беларусі, прызнаў яе родным домам, прысвячаў ёй пранікнёныя радкі. У Мінск пераехала яго сям'я. Аляксандр Міхайлавіч вярнуўся да творчай дзейнасці. Працаваў выконваючым абавязкі дырэктара Беларускай дзяржаўнай філармоніі, начальнікам гастрольна-канцэртнага аддзела Белдзяржэстрады, сам удзельнічаў у канцэртных выступленнях. А яго новыя вершы публікаваліся ў альманаху "Советская Отчизна" — цяпер гэта часопіс "Нёман", у газеце "Советская Белоруссия", іншых выданнях. У Гомельскім тэатры лялек была пастаўлена п'еса для дзяцей "Чырвоныя шкельцы". На ІІІ з'ездзе пісьменнікаў Беларусі (пасля смерці паэта) было прынята рашэнне пра выданне зборніка паэзіі Аляксандра Міхайлава. Кніга вершаў для дзяцей "Чудесный ящик" пабачыла свет у 1953-м і прысвячалася выпуску новай радыёлы "Мінск-2". Былы рэдактар свіслацкай раённай газеты Язэп Зазека, які падчас вайны партызаніў у гэтым раёне, уклаў зборнік вершаў партызанскіх паэтаў "Лясныя песні", уключыўшы і творы А. Міхайлава. Дарэчы, зборнік вытрымаў два перавыданні: у 1963 і ў 1965 — 67 гадах.

Здольны, апантаны творчасцю артыст, музыкант, паэт хутка і лёгка ўвайшоў у мастацкае асяроддзе сталіцы. Яго ведалі, з ім сябравалі многія, знакамітыя ў той час і легендарныя ў наш, асобы. Міхайлавы жылі ў цэнтры Мінска, за Домам урада. Янка Маўр, Вера Лютава, Ілья Клаз, Анатоль Астрэйка, Пятро Прыходзька… проста забягалі да іх на каву. На месцы таго дома цяпер Беларускі дзяржаўны акадэмічны музычны тэатр. Ці ж не сімвалічна?!

А што азначае блізкае знаёмства з вядомым беларускім кампазітарам Генрыхам Вагнерам! Справа ў тым, што ў біяграфіі А. Міхайлава быў такі перыяд, калі ён пакінуў працу ў філармоніі, з'ехаў у Баранавічы і арганізаваў там джаз-аркестр. Пасля вайны менавіта ў Баранавічах засталося шмат таленавітых польскіх музыкантаў, у тым ліку Аляксандр Жыгоцкі, які стаў музычным кіраўніком аркестра. А вось на пасаду канцэртмайстра ўзялі Г. Вагнера. Праз некалькі гадоў Генрых Матусавіч апрацаваў многія песні Міхайлава, напісаў музыку на яго вершы, створаныя ў партызанскім атрадзе, сярод якіх — "Ревность", "Ей, маленькой" ды іншыя.

Артыст, змагар, паэт-партызан дажыў да светлага дня перамогі і вызвалення Радзімы. Але раны яго былі незагойныя. 3 лютага 1949 года жыццё Аляксандра Міхайлавіча абарвалася. Яго пахавалі на Вайсковых могілках у Мінску. Рукапісныя часопісы, газеты, "баявыя лісткі", кніжкі-малышкі, надрукаваныя творы і іншыя выданні данеслі і захавалі для нас іскрынкі мастацкага таленту адважнага байца, малодшага лейтэнанта Аляксандра Міхайлава.

Добра было б, каб і ў наш час знайшліся сродкі ( і зацікаўленыя асобы) для выдання кнігі вершаў паэта-партызана, для якога Беларусь стала сапраўднай другой Радзімай. Дарэчы, я, дачка ветэрана Вялікай Айчыннай вайны, добра разумею пачуцці сына героя гэтага нарыса, Ігара Аляксандравіча Міхайлава, які так ашчадна зберагае памяць і дакументальныя матэрыялы пра свайго бацьку; разумею і горыч усіх ветэранаў, якім часам балюча і крыўдна за тую абыякавасць, што ўрэшце спараджае неаб'ектыўнае бачанне гістарычных працэсаў пакаленнямі людзей, якія не бачылі вайны. І вельмі хочацца, каб такі гуманны, хаця і "здаўнены" лозунг: "Ніхто не забыты, нішто не забыта" запрацаваў напоўніцу.

Людміла КЕБІЧ

На здымках: Аляксандр Міхайлаў — у канцэртным строі і ў вайсковай форме.

## Радуемся разам

Творчыя калектывы Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Беларусі падрыхтавалі праграму пад назвай "Героям Вялікай Перамогі". Гэты канцэрт адбудзецца тут заўтра, 8 мая. У першым аддзяленні ўвазе гледачоў будзе прадстаўлена святочная праграма артыстаў балета. А пасля антракта прагучыць кантата Сяргея Пракоф'ева "Аляксандр Неўскі" для мецца-сапрана, хору і аркестра. Канцэрт пройдзе пад кіраўніцтвам галоўнага дырыжора тэатра, заслужанага артыста Украіны Віктара Пласкіны.

Народны мастак Беларусі прафесар Май Данцыг адзначыў сваё 80-годдзе. У яскравай творчасці майстра вылучаюцца дзве тэмы, дзе ён сказаў важкае і непаўторнае, натхнёнае слова: родны Мінск і — мінулая вайна... Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка павіншаваў Мая Данцыга з юбілеем, зазначыўшы: "Вашы работы — сапраўдны мастацкі летапіс Айчыны. Яны ўражваюць сваім гуманістычным зместам, вернасцю вы-



сокім мастацкім ідэалам і выдатным майстэрствам". Як сказана ў віншаванні Кіраўніка дзяржавы, вялікай павагі заслугоўвае нястомная педагагічная дзейнасць мастака, дзякуючы якой Беларусь можа ганарыцца ўласнай жывапіснай школай.

Дні беларускага кіно, прымеркаваныя да святкавання Вялікай Перамогі, адбыліся ў Малдове. Кінасеансы, на якіх дэманстраваліся стужкі "У жніўні 44-га...", "Снайпер. Зброя помсты" і "Дняпроўскі рубеж", выклікалі цікавасць не толькі ў прадстаўнікоў беларускай дыяспары, але і ў малдаўскага гледача.

"Не мой" — прэм'ера Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы, прысвечаная святу Перамогі. Пастаноўка ажыццёўлена Аляксандрам Гарцуевым паводле аповесці Алеся Адамовіча "Нямко" (дарэчы, увасобленай у мастацкім фільме "Франц і Паліна"). Інсцэніроўка зробленая Алёнай Калюновай у сааўтарстве з рэжысёрам. Мастак-пастаноўшчык Барыс Герлаван, кампазітар Алег Хадоска, пластычнае вырашэнне распрацавала Яўгенія Кульбачная. Сярод выканаўцаў — зоркі Купалаўскай сцэны Генадзь Аўсяннікаў, Марыя Захарэвіч, Генадзь Гарбук, Тамара Міронава, Зінаіда Зубкова, Зоя Белахвосцік, маладыя артысты-купалаўцы. "Гэта спектакль пра каханне. Пра тое, як людзі ідуць насустрач адно аднаму, ідуць да ўзаемнасці, да спагады, да літасці — праз жахлівыя абставіны вайны. Спектакль пра тое, як узнікаюць тыя першыя парасткі паразумення між людзьмі, што пазней ператворацца ў магутныя дрэвы супольнага будавання свету, свету не без праблем, але без нянавісці і вайны. Мне вельмі хочацца верыць, што гэтыя парасткі не знікнуць і што свет пераможа вайну — найвялікшую бязглуздзіцу ў свеце, пераможа верай, любоўю і каханнем", — такімі развагамі падзяліўся з журналістамі перад прэм'ерай Аляксандр Гарцуеў.

Лана ІВАНОВА

На здымку: Май Данцыг "Мінск. Нядзельная раніца";

Фота аўтара

Чэрвень 1941 года. Артысты Дзяржаўнага тэатра оперы і балета БССР у адпачынку: адны накіраваліся ў Крым, Прыбалтыку, другія — на лецішча, а нехта застаўся ў Мінску… 22 чэрвеня, выхадны дзень. Ужо абвешчаная вайна, усе адчуваюць, што няўмольна насоўваецца нешта страшнае, але нікому не хочацца ў гэта верыць: людзі псіхалагічна не былі гатовыя да вайны. 24-га раніцай у Мінску пачалася першая масіраваная бамбардзіроўка, у якой удзельнічала 47 гітлераўскіх самалётаў. На працягу дня былі тры наймацнейшыя атакі. Мінск гарэў, і яго ніхто не тушыў, ды і горада, можна сказаць, ужо не было. Вайна перапыніла дзейнасць тэатра і накіравала жыццё яго артыстаў па іншым, ваенным шляху.







# Не змаўкала музыка!

## З ваеннай гісторыі Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Беларусі.

На пачатку ліпеня ў Маскве сабралася шмат артыстаў-"адпускнікоў", якія ў адно імгненне сталі беспрацоўнымі. Ім дапамагалі: адны былі накіраваныя ў Свярдлоўск, другія — ва Уфу і Саратаў, а значная частка оперна-балетнай трупы на чале з Ларысай Александроўскай — у Алма-Ату. Гэты горад на доўгі ваенны год даў прытулак беларускім артыстам. На жаль, у нас няма дакументальных звестак пра іх працу ў Казахстане, але такія звесткі захоўваюцца ў Алма-Аце, і іх выявіла музыказнаўца Арыядна Ладыгіна, пляменніца Л. Александроўскай, якая напісала выдатную кнігу "Ларыса Пампееўна Александроўская", па сутнасці — гісторыю нашага тэатра оперы і балета.

Такім чынам, артысты балета А. Нікалаева, С. Дрэчын, Т. Узунава, Г. Шчолкіна, Р. Савіцкая, Н. Гімпелева, Т. Новікава, дырыжор М. Шнейдэрман, артыст хору Н. Гульман, хормайстар А. Бельскі, музыканты аркестра К. Бянеўскі, С. Мадатаў, А. Бродскі, Б. Токараў, канцэртмайстар А. Жэзмер ды іншыя, якія разам з Л. Александроўскай апынуліся ў эвакуацыі ў Алма-Аце, былі забяспечаныя працай і ўсім неабходным для нармальнага жыцця. Ужо 31 жніўня 1941 года беларускія артысты ўдзельнічалі ў адкрыцці чарговага сезона Казахскага тэатра оперы і балета. Была прэм'ера оперы І. Дзяржынскага "Ціхі Дон". Партыю Аксінні з вялікім поспехам выконвала Л. Александроўская, яе партнёрам быў У. Ульянаў. У "Лебядзіным возеры" Адэту-Адылію танцавала А. Нікалаева, у партыі Трубадура ў "Раймондзе" ў ансамблі з казахскімі танцоўшчыкамі бліскуча выступаў малады С. Дрэчын. Маэстра М. Шнейдэрман дырыжыраваў спектаклямі "Мазепа", "Дуброўскі" ды інш. Асаблівым поспехам у публікі карыстаўся міжнацыянальны дуэт К. Байсеітавай (казахская спявачка) і Л. Александроўскай, якіх звязала шчырая дружба.

Вайна параскідала артыстаў нашага тэатра па многіх гарадах Савецкага Саюза: у Саратаве жылі і працавалі М. Бергер, С. Друкер, Д. Кроз; у Ташкенце — В. Валчанецкая, А. Клумаў, М. Вайнберг; у Свярдлоўску — І. Балоцін, Ю. Хіраска, В. Барысенка, В. Фурс, І. Фёдарава; у Ерэване — М. Дзянісаў. Некаторыя іх калегі апынуліся ў Фрунзе, Уфе.

Пры канцы кастрычніка 1941-га дырэктар тэатра Аскар Гантман піша ліст Ларысе Александроўскай з Ашхабада з просьбай даслаць яму спісы тых, хто азваўся, каб ён мог звярнуцца да кіраўніцтва БССР з прапановай наконт збору трупы тэатра оперы і балета ў адным месцы. У выніку гэтага звароту на пачатку лютага 1942 г. беларускім урадам было прынята рашэнне пра збор трупы тэатра оперы і балета ў горадзе Горкім. 22 лютага Л. Александроўскую выклікалі ў Маскву з Алма-Аты і даручылі ёй гэты збор.

Але самай надзённай і неадкладнай задачай была падрыхтоўка вялікага канцэрта беларускіх артыстаў у Канцэртнай зале імя П. Чайкоўскага ў Маскве. Такое было мудрае ўрадавае рашэнне. Канцэрт адбыўся 18 мая 1942 года пад дэвізам "Чакай нас, Радзіма, ідзём!". Гэты канцэрт стаўся сімвалам будучай, але не блізкай перамогі, нязломная ўпэўненасць у якой ярка прагучала ў песні М. Шнейдэрмана "Мы ідзём, Беларусь!" (словы Тураўскага), якую спявала Л. Александроўская. Праявай патрыятычнай садружнасці дзвюх брацкіх культур было выкананне беларускімі артыстамі ўрыўкаў з нацыянальных спектакляў ды класічных арый, а харавых і балетных сцэн з опер беларускіх кампазітараў А. Туранкова, Я. Цікоцкага, А. Багатырова, балета М. Крошнера "Салавей" — калектывамі Дзяржаўнага музычнага тэатра імя К. Станіслаўскага і У. Неміровіча-Данчанкі.



"Другой дэкадай беларускага мастацтва" назвалі масквічы той канцэрт у зале імя П. Чайкоўскага. І адразу пачалася праца па зборы трупы, з розных куткоў СССР трэба было выклікаць каля сотні чалавек, размясціць іх, забяспечыць харчаваннем, уладкаваць на працу. Але ўжо ў тым жа маі 1942 г. дырэкцыя Горкаўскага дзяржаўнага тэатра оперы і балета імя А. Пушкіна абвясціла гараджанам, што з ліпеня ў склад выканаўцаў спектакляў уваходзяць артысты тэатра з Беларусі. Пачалася напружаная праца. Сіламі нашага тэатра пры ўдзеле горкаўскіх артыстаў былі пастаўленыя "Севільскі цырульнік" Дж. Расіні (рэжысёр У. Шахрай, хормайстар М. Бельскі) з удзелам Л. Аляксеевай, І. Балоціна, Д. Кроз, А. Арсенкі, І. Мурамцава, У. Таланкіна; "Яўгеній Анегін" П. Чайкоўскага (рэжысёр П. Златагораў, дырыжор М. Шнейдэрман, хормайстар М. Бельскі) з удзелам Р. Млодак, В. Мальковай, Г. Цэпавай, І. Балоціна, А. Арсенкі, І. Мурамцава, У. Таланкіна, М. Пігулеўскага; "Купальская ноч" Я. Цікоцкага (рэжысёр У. Шахрай, дырыжор М. Шнейдэрман, хормайстар М. Бельскі) з удзелам Л. Александроўскай, Р. Млодак, Г. Цэпавай, А. Нікалаевай, І. Балоціна, А. Арсенкі, І. Мурамцава, В. Мальковай, і іншых. 18 артыстаў бралі ўдзел у спектаклях Горкаўскага тэатра — "Кармэн", "Травіата", "Рыгалета", "Русалка", "Князь Ігар". У Горкім было паказана 55 сумесных спектакляў, артыстамі нашага тэатра дадзена 43 канцэрты.

У сакавіку 1943-га сфарміравалася пастаянная франтавая канцэртная брыгада па абслугоўванні Паўночна-заходняга фронту, у склад якой уваходзілі Л. Александроўская, І. Балоцін (брыгадзір), М. Дзянісаў, С. Друкер, Д. Кроз, М. Пігулеўскі, Т. Узунава, Ю. Хіраска, С. Навіцкі, Х. Шмелькін. Усяго брыгада дала 138 шэфскіх канцэртаў. Выступалі ў горадзе Дзяржынску і Багародску Горкаўскай вобласці, у армейскіх клубах і шпіталях, непасрэдна на перадавых пазіцыях. Спявалі на пляцоўках толькі што вызваленых гарадоў і вёсак, на лясных палянах, з бартоў грузавых машын, з чыгуначных платформаў, з брані танкаў.

Неверагодных намаганняў, вытрымкі вымагалі ад артыстаў выступленні з песнямі перад паранены ў шпіталях, калі адзін з байцоў апладзіраваў кульцяпкай замест рукі аб калена, а другі без абедзвюх ног туліўся на краі ложка, у трэцяга ўся галава ў бінтах — бачныя толькі вочы, а яго сусед па палаце — з абвугленым тварам і выпаленымі вачыма... Але вусны ўсміхаліся і прасілі спяваць яшчэ і яшчэ. У такіх абставінах спяваць, пераадольваючы спазмы галасавых звязак, усміхацца, прымушаючы голас падпарадкоўвацца, — неймаверна цяжка, але неабходна.

У маі 1943 г. тэатр пераязджае ў горад Каўроў Уладзімірскай вобласці і праца працягваецца на сцэне "Клуба металістаў". Адразу пасля прыезду былі паказаныя оперы "Чыо-Чыо-сан" Дж. Пучыні, "Севільскі цырульнік" Дж. Расіні і балет "Марная перасцярога" П. Гертэля. А франтавая брыгада на чале з І. Балоціным толькі з 4 па 22 мая 1943 года дала 30 канцэртаў у часцях Калінінскага фронту.

Набліжалася Перамога! 2-га ліпеня, у апошні дзень знаходжання фашыстаў у Мінску, быў падпалены Дом афіцэраў, які воіны Чырвонай Арміі патушылі з вялікай цяжкасцю. З будынка опернага тэатра фашысты вывезлі сцэнічную апаратуру, мэблю, дэкарацыі, абутак, парыкі, нотную бібліятэку, музычныя інструменты, касцюмы, экспанаты тэатральнага музея, кнігі па мастацтве. Пазней пад горадам Інстэрбургам частка касцюмаў і дэкарацый была знойдзеная вайскоўцамі і вернута тэатру. У адной са справаздач дырэктара тэатра за 1945 год гаворыцца, што з тэатра было вывезена і разрабавана маёмасці на 25 063 500 рублёў. Памяшканне самога тэатра моцна пацярпела ад разбурэнняў; абсталяванне сцэны і глядзельнай залы, закулісных кабінетаў, грымёрных, фае вывезлі немцы.



3 ліпеня 1944 года: доўгачаканае вызваленне Мінска. 17 верасня тэатр вярнуўся з эвакуацыі і адразу распачаў працу над толькі што закончанай Я. Цікоцкім операй "Алеся", якая апавядае пра гераічную барацьбу беларускіх партызан. Але гэта ўжо тэма для іншага расповеда — пра жыццё тэатра ў першы пасляваенны час, дзейнасць па аднаўленні разбуранага, разрабаванага, беззваротна страчанага.

Сярод супрацоўнікаў тэатра было нямала і тых, хто ўдзельнічаў у баях, прайшоў вайну ў дзеючай арміі. У Дзень Перамогі не ўсе вярнуліся ў свой родны горад, у тэатр, да любімай працы. Загінулі на фронце С. Архіпаў — саліст оперы; Е. Ажаеў, Г. Буданіцкі, І. Гуляеў, А. Іваноў, Г. Ліўшыц, П. Стафановіч — артысты аркестра; І. Бухаўцоў, А. Вітальберг, А. Петрашкевіч, М. Сердзюкоў — артысты балета; Ф. Піно — рэпетытар; В. Анціпаў, І. Бязменаў — асвятляльнікі. Загінуў партызан В. Хачэўскі — артыст хору. Салісты оперы П. Жэзмер, Ф. Левіна, Р. Шапіра, артысты балета Б. Басінкевіч, Б. Кантаровіч, С. Кантаровіч, харысты Г. Бернштэйн, М. Броцкі, Сазыр, электрык Л. Хазановіч — загінулі ў гета.

Фашысты ў Мінску расстралялі дырыжора Н. Балазоўскага, саліста оперы С. Трахановіча. Загінулі пад бамбёжкай у Мінску саліст оперы М. Каліноўскі, кампазітар М. Крошнер, у Маскве — саліст оперы П. Засецкі.

Прайшло 65 год з дня Перамогі над ворагам. Адноўлена наша прыгожая Беларусь, Мінск; рэканструяваны тэатр — сёння адзін з самых сучасных і прыгожых на еўрапейскай прасторы. І наш святы абавязак памятаць тых, хто заплаціў сваім жыццём, каб наблізіць Перамогу, хто не задумваўся пра небяспеку, выступаючы на перадавой з канцэртамі.

Тэатр па сваёй сутнасці — жывы арганізм, ён заўсёды ў руху, адно творчае пакаленне змяняецца другім, але кожны артыст — асоба непаўторная. Адразу пасля вайны ў верасні 1944 года прыйшла працаваць у тэатр салісткай балета Бася Карпілава, якая з 1941 па 1944 год была салісткай ансамбля Каспійскай вайсковай флатыліі, удзельнічала ў многіх канцэртах, што праходзілі на ваенных караблях, у клубах. За удзел у шэфскай рабоце па абслугоўванні часцей Ваенна-марскога флоту і Чырвонай Арміі падчас абароны Каўказа ўзнагароджаная медалём "За абарону Каўказа". У 1956-м па запрашэнні самой Л. Александроўскай прыйшоў у оперны калектыў Міхаіл Дружына. Міхаіл Афанасьевіч з 1941 па 1956 год служыў у Савецкай Арміі. За баявыя заслугі ўзнагароджаны ордэнам Чырвонай зоркі, ордэнам "Знак пашаны", двума ордэнамі Польскай Народнай Рэспублікі (срэбны Крыж за заслугі), медалямі і граматамі. Акурат сёння, 7 мая, Міхаіл Афанасьевіч святкуе свой 88 дзень нараджэння. Яго славуты бас яшчэ гучыць! Артыст часта бывае ў тэатры і ўдзельнічае ў канцэртах.

Шчыра віншуем Басю Залманаўну Карпілаву, Міхаіла Афанасьевіча Дружыну і ўсіх ветэранаў Вялікай Айчыннай вайны з 65-годдзем Перамогі. Вялікі ім дзякуй і нізкі паклон за плённы ўнёсак у беларускае музычна-сцэнічнае мастацтва і ўдзел у набліжэнні светлага дня вызвалення ад фашызму!

Ганна ЖУКАВА,
старшы захавальнік экспанатаў
музея НАВТ оперы і балета
Рэспублікі Беларусь

На здымках: Л. Александроўская, У. Ульянаў у оперы "Ціхі Дон"; А. Нікалаева — Адэта-Адылія ў балеце "Лебядзінае возера"; А. Нікалаева, Л. Александроўская, С. Дрэчын — 18 мая 1942 г., Канцэртная зала імя П. Чайкоўскага; разбураны Мінск, ліпень 1941 г., удалечыні — будынак тэатра.

Пры падрыхтоўцы публікацыі выкарыстаныя архіўныя матэрыялы музея НАВТ оперы і балета Беларусі, звесткі з кнігі А. Ладыгінай "Ларыса Пампееўна Александроўская" (Мінск, 2002), а таксама фота з Бундесархіва.

# Патрыёт, франтавік, гісторык

## Моцны каранямі

Невялікая, семдзесят двароў, вёска Бахаравічы Пухавіцкага раёна — радзіма ветэрана Вялікай Айчыннай вайны, гісторыка і краязнаўцы Міхаіла Шэлехава. Раней Міхаіл Уладзіміравіч насіў крыху іншае прозвішча — Шэлег, а Шэлехавым "запісаўся", калі трапіў у нямецкі палон.

Бахуры — так завуць тубыльцаў роднай вёскі, — тлумачыць краязнаўца, — гэта старажытнарускія прафесійныя казачнікі. Некалі бахуры жылі сярод нашых дзядоў, і хадзілі ад Кіева да Турава, весялілі народ... А з цягам часу засталіся толькі ў назве невялікай вёскі на Міншчыне". І вось у гэтай вёсцы ў 1926 годзе ў сям'і мясцовага актывіста Уладзіміра Шэлега і нарадзіўся першы сын Міхаіл.

Чалавек моцны каранямі. Патрыятызм, мужнасць, трывушчасць характару і цвёрдасць волі, самаадданасць і працалюбства — усе лепшыя якасці выхоўваюцца ў сям'і, часцей за ўсё прывіваюцца жывым прыкладам продкаў.

Сваіх продкаў Міхаіл Уладзіміравіч ведае да чацвёртага калена і па праве ганарыцца імі. Прапрадзед Мацвей (па бацькавай лініі) быў прыгонным графа Чапскага, — піша ён у аўтабіяграфічным нарысе, — яго сын Ігнась адслужыў у царскім войску 24 гады, пасля службы атрымаў вольную і дзесяціну зямлі. Дзед Іван меў уласную кузню і быў знаным кавалём. Бацька (адзіны член ВКП (б) у вёсцы) — арганізатар і старшыня калгаса "Новыя Бахаравічы", перад вайной працаваў старшынёй Дудзіцкага сельсавета. Па лініі маці — таксама не менш знакаміты род: прадзед Платон Шэлег — удзельнік руска-турэцкай вайны 1877—78 гадоў, хадзіў на туркаў у штыкавыя атакі, удзельнік бітвы пад Шыпкай, узнагароджаны двума Георгіеўскімі крыжамі і медалямі Расіі, Балгарыі і Румыніі за вызваленне Балкан.

## Няздзейсненае

Міхаілу Уладзіміравічу змалку шанцавала на знакамітых і добрых людзей. Яшчэ ў дзяцінстве давялося ўбачыць Аляксандра Чарвякова — тагачаснага старшыню беларускага ўрада. Да яго настаўніка Марка Рамізевіча прыходзіў у госці Уладзімір Хадыка (працаваў у школе вёскі Асака, за два кіламетры ад Бахаравіч), а з паэтам Міхасём Чаротам іх лучылі далёкія родныя сувязі.

Перад вайной скончыў восем класаў Дудзіцкай сярэдняй школы. Лета 1941 года выдалася спякотным, а канікулы ўяўляліся вечнымі, хоць і надалі клопатаў двум цёзкам-аднагодкам: Шэлегу і Сароку. Ад раніцы да вечара прападалі на беразе Пціны, прыемныя клопаты закруцілі яшчэ і таму, што сябры адважыліся адправіцца ў падарожжа ў казачную краіну — Палессе. Прычынай паслужыла аповесць Янкі Маўра "Палескія Рабінзоны", вось і яны вырашылі прайсці шляхам любімых герояў. З настаўнікам геаграфіі Паўлам Верабʼёвым па карце вывучылі і распрацавалі маршрут, склалі распарадак дня, падрыхтавалі патрэбныя рэчы, экіпіроўку... Венрук школы выдзеліў палатку. Бацькі абяцалі забяспечыць сякімі-такімі грашыма, каб набыць лодку ў знаёмага рыбака. Капітанам "шхуны" станавіўся Мішка Сарока, а яго памочнікам, "летапісцам" вандроўкі — Мішка Шэлег. Але гэтаму падарожжу так і не наканавана было ажыццявіцца: вайна ўнесла свае жорсткія карэктывы.

## Выпрабаванне

У нядзелю 22 чэрвеня калгас выдзеліў калгаснікам машыну для паездкі на Суражскі рынак Мінска, але пад абед вяскоўцы раптам вярнуліся і прывезлі жудасную навіну: над Мінскам лятаюць нямецкія самалёты з крыжамі.

Праз колькі дзён прыйшло распараджэнне пра эвакуацыю "сем'яў партыйцаў". І вось Шэлегі і Сарокі пакуюць самае неабходнае. Чацвёра дзяцей, самаму малодшаму — год: маці не ведае, што ўзяць і што пакінуць? Куды едуць і на які час? Слёзы, роспач і галашэнне...

Нарэшце павозка, крануўшыся з месца, выехала на дарогу. Абапал дарогі цягнуцца адступаючыя войскі: панічныя і бязладныя ўцёкі. Ніякага парадку, ніхто нічога не ведае. Ад'ехалі кіламетраў 15 ад вёскі і даведаліся: немцы ўжо наперадзе. Бацька развітаўся з сям'ёй і пайшоў шукаць вайсковую часць, а сям'я вярнулася ў вёску. Болей яны бацьку не бачылі, пазней даведаліся: загінуў у 1944 годзе, вызваляючы Беларусь.



Праз колькі тыдняў у вёсцы з'явіліся немцы. Спачатку сям'я хавалася, баючыся, што выдадуць новым уладам, але ў Бахаравічах такіх не знайшлося.

Хадзілі з Мішкам Сарокам па месцах баёў і збіралі зброю. Разжыліся арсеналам з вінтовак, гранат і наганаў, сотнямі патронаў. Знайшлі і схавалі свінцовы шрыфт ваеннай друкарні, які пазней перадалі падпольнаму райкаму партыі. Гэта і стала іх "візітоўкай" для залічэння ў атрад народных мсціўцаў імя Суворава 2-й Мінскай партызанскай брыгады.

У кастрычніку, калі споўнілася 16 гадоў, Міхаіл пайшоў у партызаны са сваёй зброяй: вінтоўка, карабін і наган. Маці адгаворвала, плакала і баялася, каб партызанства не адбілася на сям'і.

Спачатку быў разведчыкам, а затым увайшоў у склад падрыўной групы: 6 — 7 чалавек, якія праводзілі дыверсіі на чыгунцы. Прымаў удзел у падрыве шасці эшалонаў, апошні спусцілі пад адхон у дзень вызвалення Кіева, 6 лістапада 1943 года.

## Палон

У снежні 1943 года ў адным з баёў атрымаў два раненні: у руку і нагу. Страціў многа крыві. Цяжкапараненага, беспрытомнага немцы ўзялі ў палон. "Абышлося неяк, што не дабілі, не дастрэлілі", — успамінае ветэран. Калі везлі на павозцы, паліцаі бунтавалі і хацелі дабіць. Але немец, які быў з імі, не дазволіў. Спачатку прывезлі ў Асіповіцкі шпіталь, пасля таго, як акрыяў крыху, адправілі ў Бабруйскую крэпасць. Пасля адступлення немцаў з Бабруйска маладога партызана вывезлі ва Усходнюю Прусію, трапіў у лагер ваеннапалонных "Унтэрдэрліндэр" — там вязняў трымалі ў асобных пакоях за кратамі. Пагаворвалі, што нібыта планавалася абмен ваеннапалонныя, але гэтага так і не адбылося.

З "Унтэрдэрліндэра" перавялі бліжэй да Берліна. Ужо было чуваць франтавую кананаду. Чатыром вязням, у тым ліку і Шэлехаву, удалося ўцячы з лагера. У пачатку студзеня 1945 года перайшлі лінію фронту. Пасля неабходнай праверкі адправілі на фронт. У якасці камандзіра аддзялення старшы сяржант Міхаіл Шэлехаў у складзе 9-га стралковага корпуса 5-й Ударнай арміі Першага Беларускага фронту ўдзельнічаў у штурме Берліна і фарсіраванні Одэра, затым іх часць была перакінута на Эльбу, дзе і сустрэліся з амерыканцамі. На гэтым і скончылася вайна.

Звычайныя словы, быццам бы просты шлях, але як няпроста было ўсё гэта перажыць. Колькі партызан палегла, двойчы штурмуючы паліцэйскі гарнізон вёскі Дражна. Колькі іх, маладых, так і не вярнулася дахаты з вогненнага пекла. Міхаіл Шэлехаў лічыць, што яму проста пашанцавала. У 17-гадовым узросце ўзнагароджаны медалямі "Партызан Айчыннай вайны" 1-й і 2-й ступеняў, ордэнамі Айчыннай вайны 1-й ступені і Чырвонай Зоркі.

Дэмабілізаваўся вясною 1947 года, вярнуўся ў родныя Бахаравічы, экстэрнам здаў экзамены за сярэднюю школу і стаў студэнтам гістарычнага факультэта Мінскага дзяржаўнага інстытута імя А. М. Горкага.

## Казачная краіна

А сябар-паплечнік Міхаіл Сарока загінуў у 1944-м пры вызваленні Беларусі. Лодка дзяцінства бахаравіцкіх летуценнікаў-"рабінзонаў" па прызначэнні выкарыстоўвалася акружэнцамі і партызанамі. Вандроўку на Палессе Міхаіл Шэлехаў усё-такі здзейсніў праз дзесяць гадоў: трапіў туды па размеркаванні і ўлюбіўся ў гэтую зямлю, у яе людзей і гісторыю. Усё жыццё працаваў настаўнікам, педагагічная дзейнасць адзначана медалём "За доблесную працу", ганаровымі граматамі Вярхоўнага Савета БССР і Савета Міністраў, нагрудными знакамі выдатніка народнай асветы БССР і СССР.

Ініцыіраваў стварэнне памятнага знака на Замкавай гары і будаўніцтва помніка заснавальніку Давыд-Гарадка князю Давыду Ігаравічу, стварэнне краязнаўчага музея і штогадовага правядзення свята горада над Гарынню. Ганаровы грамадзянін Давыд-Гарадка. Міхаіл Шэлехаў і цяпер не пакінуў строй: узначальвае ветэранскую гарадскую арганізацыю.

Калі наведаў яго ў бальніцы (старыя раны не даюць спакою) і спытаўся, ці змагло б сённяшняе пакаленне, гэтак жа як і яны, былыя франтавікі, ахвяраваць жыццё за свабоду і незалежнасць Айчыны, то пачуў упэўнены і станоўчы адказ: "Усё пачынаецца з Радзімы".

Анатоль КУДЛАСЕВІЧ

# Шануйма класікаў!

Выстаўка, разгорнутая ў самай прасторнай зале сталічнага Палаца мастацтва, прадстаўляе рэтраспектыву творчасці, з уключэннем дакументальных матэрыялаў і фота, трох беларускіх мастакоў — ветэранаў Вялікай Айчыннай: Фёдара Бараноўскага, Івана Дмухайлы, Іосіфа Белановіча. Іх зямны шлях завяршыўся, але талент, Богам дадзены, працягвае жыць у творах, выклікаючы захапленне ў маладзейшых калег і ў які ўжо раз пераконваючы: класіка — неўміручая...



Фёдар БАРАНОЎСКІ (1924 — 2000), паводле ўспамінаў яго сакурсніка і сябра, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі Барыса Аракчэева, быў сапраўдным творчым лідэрам, самым яркім студэнтам аддзялення жывапісу Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута. Карэнны мінчук, Ф. Бараноўскі вярнуўся ў родны горад пасля вайны, на якой амаль страціў слых, сціплым салдатам з медалём "За адвагу". Скончыўшы мастацкае вучылішча, паступіў у БДТМІ, дзе выключны талент Ф. Бараноўскага заўважыў яго вялікі настаўнік В. Цвірка. Фёдар Міхайлавіч быў фенаменальным майстрам: ствараў ва ўсіх жанрах жывапісу, віртуозна валодаў малюнкам, займаўся скульптурай. Працаваў надзвычай хутка, экспрэсіўна, ва ўласнай адметнай манеры (хрэстаматыйныя "Брыгада", "Лазня"). Як ні дзіўна, такая маштабная персанальная выстаўка Ф. Бараноўскага ладзіцца ўпершыню. Дзякуючы яе куратару, мастачцы Аксане Аракчэевай, тут можна ўбачыць некалькі прыцягальных сваім зіхоткім каларытам і кампазіцыйнай пластычнасцю г. зв. сюжэтна-тэматычных палотнаў з фондаў Беларускага саюза мастакоў і Нацыянальнага мастацкага музея краіны, а таксама работы з прыватных калекцый (напрыклад, серыю "ню" — шэдэўры, выкананыя алоўкам, партрэты вугалем). Цікава, што з днём нараджэння мастака — 3 ліпеня — супаў дзень вызвалення яго роднага горада, але толькі ў 1989 годзе Ф. Бараноўскі прысвяціў гэтай даце палатно, сюжэт якога ўзнавіў па памяці.



Для Івана ДМУХАЙЛЫ (1914 — 2007), карэннага ўкраінца, Беларусь стала другой радзімай. Да вайны ён скончыў Днепрапятроўскае мастацкае вучылішча. Яго настаўнікамі былі вучні І. Рэпіна — М. Паніна, В. Коранева. Удзельнічаць у выстаўках Іван Сямёнавіч пачаў з 1949 г., і амаль да апошніх сваіх дзён (а дажыць давялося да 93-х!) мудры і натхнёны мастак працягваў здзіўляць наведвальнікаў выставак новымі творамі. Яго лірычныя пейзажы і нацюрморты знаходзяцца ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі, у сталічным Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва, Гродзенскім гісторыка-археалагічным музеі, у фондах БСМ, у замежных калекцыянераў. Сваім палотнам І. Дмухайла даваў някідкія, часам падобныя назвы: "Песня восені", "Подых вясны", "Пасля дажджу", "Змярканне", "Перад навальніцай", "Снег у горадзе", "Рамонкі", "Бэз"... Але якія няспынная зменлівасць нюансаў, ігра фантазіі, тонкасць пачуццяў і назіральнасць! Так жывапісаць можа толькі светлая, улюбёная ў жыццё, душа. Але ж яго душа прайшла праз пекла вайны... Жонка І. Дмухайлы Наталля Вінер успамінае: "Калі Іван Сямёнавіч гаварыў пра вайну, ён плакаў, і гаварыў пра гэта радка. Ён не проста прайшоў фронт: яму давялося ваяваць у штрафбаце. Мне зразумелыя жахі вайны, бо сама я нарадзілася ў акопе і была там пакінутая на цэлыя суткі... Вайна не зламала яго дух, але Дмухайла не пісаў вайну. Ён застаўся добрым, любіў людзей, прыроду, заклікаў аднасіцца да яе чула. І на яго надмагільным помніку — жыццёвы дэвіз Івана Сямёнавіча: "Найкрашча справа на зямлі — тварыць дабро!".



Іосіфу БЕЛАНОВІЧУ (1920 — 1998), ураджэнцу Мінска, давялося перад самым пачаткам вайны скончыць Пермскае мастацкае вучылішча. Потым — фронт... З 1949 г. ён пачаў удзельнічаць у выстаўках. А праз дзесяць гадоў атрымаў адукацыю ў Беларускім дзяржаўным тэатральна-мастацкім інстытуце, дзе яго настаўнікамі былі В. Волкаў, А. Мазалёў, В. Цвірка. Жывапісец-станкавіст Іосіф Белановіч вылучыўся сваімі работамі ў жанры партрэта, фігуратыўнай карціны; займаўся ён і графікай. Што да тэматыкі — менавіта вобразы мінулай вайны лейтматывам прайшлі праз творчасць І. Белановіча. "Брэсцкая крэпасць", "Салдаты", "Поле памяці", "Агрэсія", "Хлеб партызанам", "Зямля мужнасці", "Эшалоны", "Памяць"... Яго творы захоўваюцца ў Нацыянальным мастацкім музеі і ў Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва, у Беларускім дзяржаўным музеі гісторыі Вялікай Айчыннай вайны, у краязнаўчых музеях Брэста, Пінска, Мар'іной Горкі, у фондах БСМ... Палотны, прысвечаныя мужнасці блакаднікаў Ленінграда, баям у Берліне, вызваленню роднага Мінска, прадстаўлены на выстаўцы побач з партрэтамі, пейзажамі... Асаблівую ўвагу звяртаеш на серыю карцін, прысвечаных абароне Брэсцкай крэпасці і архітэктурным пейзажам, зробленым у легендарнай цытадэлі ў 1957— 1958 гг., калі там яшчэ засталіся некранутыя сляды вайны... Дарэчы, нарадзіўся Іосіф Іосіфавіч 9 мая, і праз два дні, у светлае свята Перамогі, яму споўнілася б 90... Жонку мастака, Марыю Белановіч, расчуліла выстаўка: "Калі пра чалавека гавораць, пра чалавека пішуць і памятаюць, значыць, ён з намі, жывыя яго справы, творчыя памкненні".

Святлана БЕРАСЦЕНЬ

На здымках: Ф. Бараноўскі "Вызваленне Мінска"; І. Дмухайла "Від на Гродна"; І. Белановіч "Абаронцы Брэсцкай крэпасці".

Фота Віктара Кавалёва

## Гусіным пяром



Тамара КАШАВАЯ. Нарадзілася ў 1954 годзе ў горадзе Пяціхаткі ва Украіне. У пяцігадовым узросце пераехала ў Беларусь. Скончыла Гродзенскае музычнае вучылішча па класе фартэпіяна і рэжысёрскі факультэт Разанскага філіяла Маскоўскага дзяржаўнага інстытута культуры. Рэжысёр узорнага дзіцяча-юнацкага тэатра "Балаганчык" Ваўкавыскага РДК. Аўтар зборніка песень і вершаў "Ваўкавыск — радзімка Беларусі". Паэма "Каханне ваўкалака" выйшла асобнай кнігай у гродзенскім выдавецтве "ЛА-МАРК" (2009, 300 асобнікаў). Рэдактар С. Лаўроў. Прадмова Генрыха Далідовіча.



# «Страшнавата непакоіць цені даўняга, былога»

Калі аўтар працягнула мне гэты гожа выдадзены томік з прапановай пачытаць яго і даць напісанаму прафесійную ацэнку, сумненняў — браць-не браць — не ўзнікла. Па-першае, падумалася, ну, не будзе ж яўна не багатая, але прафесійна вопытная жанчына з правінцыі траціць немалыя грошы на выданне вершаванай бязглуздзіцы. Па-другое, сам жанр і тэматыка схілялі мяне, улюбёнага ў Беларусь, да аўтарскіх пазіцый. Чытаў ужо дома. І, як нярэдка бывае, не загарнуў праз некалькі старонак і не адсунуў кніжку ўбок. Дачытаў за раз. А пасля — яшчэ, ужо зрабіўшы алоўкам на палях суб'ектыўныя заўвагі і паметкі аўтару на роздум. Аднак, трохі адстароніўшыся ад тэксту, пачаў міжволі лавіць свае ўражанні ад прачытанага на блізкіх асацыяцыях з купалаўскімі (ды іншымі) гістарычнымі паэмамі, заснаванымі на даўніх беларускіх легендах. Найперш, з вядомай паэмай нашага песняра "Магіла льва" (1913). Для пэўнасці дастаў кніжку паэм класіка з паліцы і тут жа перачытаў. Што сказаць? Калі б Тамара Кашавая напісала сваю паэму 100 гадоў таму, то яе твор, бадай, мала ў чым саступаў бы Купалаваму. Але так як паэтэса напісала сваю паэму амаль на 100 гадоў пазней, то, па вялікім рахунку, яна саступае паэме Купалы ва ўсім, апроч нязменнасці патрыятычных поглядаў на беларускую гісторыю.

Як вядома, усе творы аднаго жанру маюць сюжэтнае і стылёвае падабенства. Гэтага ад іх вымагае змест, расчынены на дражджах ідэйнага пасылу, ды і сам фальклор з'яўляецца адной з мастацкіх праяў народнай традыцыі.

У зачыне Купалавай паэмы чытаем:

Няхай той час, што згінуць мусіў
У беспрасветнай векаў мгле,
Для беспрыпыннай Беларусі
Хоць толькі ў песні ажыве.

Кашавая піша амаль тое ж, толькі з меншым патрыятычным напалам:

Задуменна грайце дудкі
Пра даўнішныя часіны,
І аб тым, як нашы продкі
Абжывалі край радзінны.

Сюжэт паэмы ў Кашавой вядзецца ад аўтарскага імя. Паэтэса сама скіроўвае і карэкціруе тыя ці іншыя дзеі вершаванага аповеда. У абедзвюх згаданых паэмах аднародная тэма: даць апраўданне гістарычным найменням гарадоў — Магілёву і Ваўкавыску. Сюжэт: вялікае каханне; змушаная ўціскам і знешняй сілай здрада аднаго з каханкаў; пераўтварэнне чалавека ў ваўкалака (абодва губяць людзей, праўда, з розных прычын: адзін — з бязглуздай і безразборлівай помсты, другі — абараняючы каханне); трагічная смерць...

У Купалы каханак гіне ад рук каханай, у Кашавой — каханая ад рук уласнага бацькі... У паэме класіка героі маюць свае імёны (Наталка і Машэка), у Тамары Кашавой яны безыменныя (панна-князёўна і лоўчы-хлопец).

Цікава, што вобраз хлопца (лоўчага) пададзены вельмі характэрным да беларускай мужчынскай ментальнасці (ён даволі цнатлівы і нерашучы ў стасунках з маладой дзяўчынай, мяккі, абачлівы, дабрадушны і працавіты, і толькі пры вялікай пагрозе паўстае ва ўсёй сваёй мужнасці і сіле).

Галоўнай жа гераіняй і змагаркай за сваё каханне з'яўляецца менавіта жанчына, а не мужчына, які па сваёй ролі другасны ў галоўным...

Вось колькі радкоў да яго партрэта:

Не па ўзросту мужны, ладны,
Уваходзіць ён у дзверы,
Паглядаючы прывабным
Позіркам блакітна-шэрым.

Князёўна ж (дванаццацігадовае дзяўчо) даволі рашучая, баявая і, што выклікае недаўменне, бессаромная ў дамаганні кахання (гэткая сучасная акселератка)...

На пачатку паэмы ў вачах князя-бацькі партрэт яе малюецца беззаганным і па-дзіцячы нявінным:

Што праменьчык той гарачы —
Не злавіці, не ўтрымаці.
Эх, магла б яе пабачыць
Бедная княгіня-маці!

Але чым далей рухаецца сюжэт паэмы, тым выразней мяняецца партрэт князёўны. Я асабіста, да прыкладу, з вялікай цяжкасцю магу пагадзіцца вось з гэтай вобразнай характарыстыкай юнай панны, выпісанай Т. Кашавой. Нешта тут выклікае пярэчанне. У падлеткадзяўчынкі нават па тым часе не магло быць такой ваяўнічасці. Яна просіць бацьку навучыць яе скакаць на кані і валодаць зброяй:

Я б з дружынаю б скакала
На вайну ці то на ловы.
Я мячом бы адсякала
Розным ворагам галовы.

І князь адклікаецца на яе просьбу, бо ў яго няма сына і няма каму працягваць слаўны род. А даручае ён гэтую навуку свайму маладому лоўчаму, з якім у панны і завязваюцца неадназначныя адносіны. Вельмі тонка, дакладна выпісаны сцэны закаханасці і яшчэ нязведанага маладзёнамі таемнага наплыву пачуццяў. Вядома, калі забыцца на ўзрост князёўны, то рамантычнасць і ўзнёсласць моманту захоплівае чытача да нястрымнага суперажывання:

Пачуцця салодкі водар
Тоілі абдымкі тыя,
І хіліліся паводдаль
Коні іх, да шыі – шыя.
Цяжкія плылі аблокі
Цераз бераг супрацьлеглы...
І крадком яе далонькі
Па плячах яго пабеглі.
.......................................
Ад абуджаных пачуццяў
Ён хіснуўся, нібы п'яны,
Ад падатлівасці вуснаў
Раптам пасталелай панны.

Вось так, амаль эфірным выдыхам, не кажучы ўжо пра некіраванасць і бескантрольнасць любоўных жарсцяў і высокіх фізічных ўзнясенняў, якія спасцігаюцца інстынктыўна і ўпершыню. Тое, што сёння ў жыцці моладзі спрошчана і дапушчальна, па тым часе было не толькі грэшным, але і небяспечным праз натуральнае пакаранне, ажно да пагрозы страты жыцця (найперш мужчыну, хоць у нашым выпадку правакатарам і найбольш віннай у страце ўласнай нявіннасці з'яўляецца якраз дзяўчына):

Навакольны свет знікае...
Што ёй бацька, што радзіна!
Гіне птушка трапяткая —
Нараджаецца жанчына.
Мёдам дыхае паляна,
Шэптам поўніцца да краю:
— Мая зорка... мая панна...
— О, жаданы мой... кахаю!..

Чытаючы аўтарскія словы, разумееш, што недзе падсвядома вобраз князёўны спісваецца і з некаторых старонак уласнага лёсу паэтэсы, настолькі ён жывы, шчыры і суперажывальны сюжэтным дзеям паэмы:

О, таемная прылука
Да часінаў старажытных!
Колькі мела пацалункаў,
Але першы — незабыўны.
Колькі зведала пачуццяў!
Утрапёных. Крывадушных.
Колькі мела слоў пачуці
Злых, салодкіх, горкіх, скрушных...
Ганаруся сваім лёсам,
У нягодах гартаваным,
Але... Божа, дай нябёсаў
Гэтым дзецям закаханым!

Як вы ўжо зразумелі з прыведзеных мной цытат, многія дзеі і карціны паэмы выпісаны не так ілюзорна, як пачуццёва, настолькі, што многія з іх візуальна праглядныя чытачу праз глыбокі туман часу. Мастацтва тут неад'емнае і аўтарскі талент бясспрэчны. Працытую колькі строф з раздзелу палявання князя з гасцямі:

Гук рагоў ды брэх сабачы,
Цені вершнікаў мільгаюць —
Гэта князь з гасцямі скача
На звяроў спусціўшы зграю.
Гоняць выжлы з разуменнем
Спуджаных аленяў статак,
Сакалы ляцяць каменнем
На зайцоў і курапатак.
Улюлюкае аблава,
Узнімае дзіка з лежні,
Абкружае злева, справа,
Як і быць таму належна.

Альбо вось сцэна блізкая да фіналу пра барацьбу лоўчага і воўка, які напаў на князёўну:

Так па колу, вочы ў вочы
Лёс паводзіць іх са здзекам.
Чалавек за воўкам сочыць.
Сочыць воўк за чалавекам.
Шэры вопытны драпежнік
Кінуўся хлапцу на плечы,
Вопратку клыкамі рэжа,
Прагне плоці чалавечай.
У змаганні гэтым грозным
За жыццё князёўны мілай
Сходзяцца інстынкт і розум,
Сіла дужаецца з сілай.

І хоць наўпрост патрыятычная тэма ў паэме не дамінуе, але праз вобразы герояў праводзіцца ідэя беларускай нацыі як жаночай — і па форме (роду) і па сутнасці (духу).

На паляну йшоў мужчына,
Пранізаны прамянямі,
На руках трымаў дзяўчыну
Са стралою між грудзямі...

Як на маё разуменне, гэтая дзяўчына і ёсць (ці павінна быць) вобразам Беларусі. (Аўтарскае выдзяленне ў цытаце таксама на гэта намякае.)

Што тычыцца мовы, то ў паэме Янкі Купалы яна больш класічная, блізкая да сучаснай. У Т. Кашавой мова народная (сям-там набліжаная да вясковай трасянкі). Вось што яна наконт гэтага піша ў пралогу да паэмы:

Мне патрэбны слоўнік новы
Так абрыдлі ўсе парады!
Я дагматыкам ад мовы
Дагадзіць не маю рады.
А каб перайшла на словы
Старажытнай тое глебы,
То маёй, напэўна мовы
Тут ніхто не зразумеў бы.

І поруч літаральна на дзвюх старонках падае для чытачоў дыялектызмы "Ваўкавыскай мясцовасці, малаўжывальныя словы і ўласныя словаўтварэнні", хоць чытаючы яе тлумачальнік, не разумееш, для якога невука гэта зроблена, так як бальшыня слоў усім, абазнаным у мове, добра вядомая. Іншая справа, што ў самім творы Т. Кашавая дазваляе сабе рабіць з беларускім словам што заўгодна, не зважаючы на граматыку (ранейшую і сучасную): малалетняя, каняшка, нявелькі, позірк чэлядзь аглядае, хватае, прыдаві, пінае, вепр, рэзва, клюне, матаеш галавою, пазгаляцца, адвараціла, зларадства, снег пад крокам хруснуў, раставае, ён да панначкі ўзывае, адсябяціна...

Аднак усе гэтыя русізмы, хібы і недахопы аўтару нескладана выправіць. А вось тое, што сам тэкст паэмы можа стацца адмысловым спектаклем, драматургічнай п'есай, операй і нават балетам, для мяне відавочна. І хоць я недастаткова кампетэнтны ў драматургіі і тэатральным мастацтве і раблю свае высновы чыста на мастацкіх вычуваннях, усё ж заўважу, што інтуіцыя мяне рэдка калі падводзіла...

Нельга так, апаўдарогі,
Каб спынілася паэма!
Часе, ты мой крытык строгі,
Ці ж пісала я дарэмна?

Што праўда, героі Т. Кашавой усё ж гінуць (панна прымае стралу ад бацькі, засланяючы сабой каханка-лоўчага, які пераўтварыўся ў ваўкалака)... Таму паэма канчаецца на мінорнай ноце. Але вялікае каханне князёўны і лоўчага засталося жыць у народнай памяці. Пакуль нарэшце праз легенду не займела мастацкага ўвасаблення ў паэзіі.

Вядома, сёння гэтая рэч Тамары Кашавой амаль не мае шанцу стаць заўважанай, а тым больш уважанай літаратурным бамондам, які вырашае свае часовыя віртуальныя задачы, але сцэнічны працяг свайго жыцця паэма абавязкова павінна займець, калі не на сталічных падмостках, дык на мясцовых адназначна. Галоўнае, каб таленавіты рэжысёр своечасова звярнуў увагу на гэты арыгінальны твор адоранай паэткі і драматурга.

ЛеГАЛ

## Не абмініце

### Ад сэрца

Першы зборнік паэзіі і прозы "Моя пора" брэсцкай журналісткі Русланы Гусевай ("Альтэрнатыва", 2009). З хваляваннем чакаў хуткага выдання ў тым жа выдавецтве яе другога паэтычнага зборніка "Третья попытка", які адразу ж прачытаў.

Кнігі адна адну дапаўняюць, абедзве напоўненыя і аб'яднаныя тэмамі любові, мацярынства, радзімы і глыбокім філасофскім роздумам. З аўтарскай прадмовы даведваешся, што вершы Руслана Мікалаеўна пісала ўсё свядомае жыццё. Рэдка друкавала іх у перыёдыцы, у асноўным складвала ў … стол. Адносіны з паэзіяй у яе былі вельмі асабістыя. Але прыйшоў час, і кнігі аўтара ўбачылі свет. У зборнікі ўвайшло ўсё самае важнае з напісанага, у тым ліку празаічныя ўстаўкі. Бо "нельзя прожить всю жизнь одной поэзией. Проза жизни — неотъемлемая её часть".

Хочацца працытаваць тры заключныя страфы з верша "Советские эмигранты":

Их были миллионы —
В гимнастёрках защитных
Вставших на оборону
Единой тогда Отчизны.

Они добились Победы,
Но их Победу похитили
Не послевоенные беды,
А выхоленные политики.

И, внукам оставив награды,
Полученные на войне,
Умирают они эмигрантами
В бывшей родной стране.

"Мой голос тих, да и слова тихи// (бесшумна мысль, неслышно чувство дышит). // И я пишу вам тихие стихи — //не всякий, кто прочтёт, меня услышит" — гаворыць пра сябе аўтар. Я пачуў. І таму, хоць паэтэса і называе свае "не вершы" "празаічнымі ўстаўкамі", скажу пра высокую якасць прозы.

Добрай мовай распавядаецца аб прафесійным станаўленні аўтаркі пасля журфака БДУ, пра авалоданне сакрэтамі тэлевізійнага майстэрства, пра журналісцкую працу на Брэсцкай студыі тэлебачання.

Аляксандр ЮДЗІЦКІ

### Сюжэты часу

У савецкі час творы Міхаіла Герчыка карысталіся вялікім поспехам у чытачоў. Яны неаднаразова перавыдаваліся, таму што былі актуальнымі, адгукаліся на найважнейшыя падзеі свайго часу. Цяпер іх нялёгка сустрэць у букіністыцы, не з'яўляюцца і новыя перавыданні. Не хацелася б, каб такая каштоўная пісьменніцкая спадчына забывалася нашчадкамі.

З творчасцю Міхаіла Герчыка я пазнаёмілася яшчэ падлеткам, калі прачытала яго аповесць "Ветер рвет паутину". Для нас, піянераў 1960-х, у гэтым творы ўсё было блізкім і зразумелым. А наступны яго твор – "Портрет Фиделя" – мне падаравала сяброўка. Словы "Куба, востраў Свабоды, Фідэль Кастра" былі тады ва ўсіх на вуснах.

Асаблівую папулярнасць і прэстыжную ўзнагароду – прэмію Усесаюзнага літаратурнага конкурсу імя Мікалая Астроўскага – прынёс аўтару раман "Отдаешь навсегда". У савецкі час твор вытрымаў некалькі выданняў і атрымаў высокія ацэнкі крытыкаў і чытачоў. А вось аб тым, як ствараўся раман "Обретение надежды", я даведалася не з газетных артыкулаў, а ад непасрэдных сведак. Справа ў тым, што аўтарамі ў выдавецтве, дзе я працавала, бывалі і медыкі, у тым ліку, і супрацоўнікі НДІ анкалогіі. Неяк яны прынеслі навіну: чарговую кнігу Міхаіл Герчык прысвячае анколагам. Кніга выйшла ў 1979 годзе, атрымалася актуальнай і карысталася вялікім поспехам. Зрэшты, аўтарская задача ўскладнялася тым, што М. Герчык узяўся за тэму, якую пакуль што абміналі яго калегі-пісьменнікі.

Лепшыя творы пісьменніка, сярод якіх "Вяртанне да сябе", "Час гаспадароў", "Дзе жывуць чараўнікі" і іншыя, не страцілі актуальнасці і сёння, а таму вартыя таго, каб на іх звярнулі ўвагу сучасныя выдаўцы.

Святлана РУСАКОВІЧ

Старэйшы беларускі паэт і перакладчык з Польшчы Віктар Швед адзначыў сёлета свой 85-гадовы юбілей. Ён з'яўляецца аўтарам шматлікіх кніг паэзіі і перакладаў. Быў сузаснавальнікам Беларускага літаратурнага аб'яднання "Белавежа" ў Польшчы, сябра Саюза польскіх літаратараў і Саюза беларускіх пісьменнікаў. Выхаваны на традыцыях беларускай класічнай літаратуры, Віктар Швед працягвае іх на Беласточчыне. Сваёй творчай і грамадскай актыўнасцю ён па-ранейшаму ўносіць істотны ўклад ва ўмацаванне культурных і літаратурных сувязяў Польшчы і Беларусі. Напярэдадні юбілею з Віктарам Шведам пагутарыў наш карэспандэнт.

# Беларускі грунт на Беласточчыне

— Спадар Віктар, дазвольце вас павіншаваць з гэтым шаноўным юбілеем і пажадаць здароўя, творчага натхнення і новых кніг. Скажыце, калі ласка, што часцей за ўсё з вышыні вашага ўзросту прыгадваецца ў гэтыя дні, у гэтыя гады?

— Заглыбляючыся ва ўспаміны, прыгадваю свой шлях у літаратуру. Пачатак майго існавання быў вельмі складаны. Вымушаны быў сядзець з хворымі на трахому вачыма ў цемры дзедавай хаціны са шчыльна завешанымі дзяружкамі малымі акенцамі. І толькі ў чатырохгадовым узросце ўпершыню змог убачыць белы свет, які зачараваў мяне да такой ступені, што я не мог не ўсхваляць яго. Таму яшчэ ў дашкольным узросце, пасвячы з вясковымі жэўжыкамі каровы, паўтараў па памяці рыфмаваныя куплеты ў мясцовай гаворцы роднай вёскі Мора, што пад Белавежскай пушчай на Беласточчыне, чым здзіўляў сваіх сяброў.

Будучы вучнем пятага класа польскай пачатковай школы ў мястэчку Орля, пачаў пісаць вершы на польскай мове. Пазнаёмілася з імі настаўніца Галена Цікзова і ўпершыню назвала мяне "паэтам".

За савецкай уладай, у школьных 1939-1941 гадах, быў у мястэчку Орля вучнем беларускай дзесяцігодкі, у якой усе прадметы выкладаліся на беларускай мове, на якой і я стаў пісаць вершы, а неўзабаве быў накіраваны школай са сшыткам сваіх вершаў на алімпіяду дзіцячай творчасці ў Бельску-Падляшскім. У пасляваенны перыяд паглыбляў свае моўныя і літаратурныя веды ў беларускіх школах у Гайнаўцы і Бельску-Падляшскім, а пазней на кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта. Але калі працаваў рэдактарам у кніжным выдавецтве "Książka i Wiedza" ў Варшаве, я зрэдку друкаваў вершы ў сваім перакладзе на польскую мову ў адрыўных календарах, якія тады выдаваліся мільённымі тыражамі. На жаль, да 1956 года не было ў Польшчы магчымасці друкавацца на беларускай мове, тым больш, мы не мелі ў той час аніякіх кантактаў з Беларуссю.

— Ведаю, што вы дэбютавалі на старонках беларускага тыднёвіка "Ніва", што выходзіць у Беластоку, ажно ў 1957 годзе. Як гэта адбылося, што і хто вас натхніў на літаратурную творчасць?

— Пасля польскай "адлігі", у 1956 годзе, было заўважана польскімі ўладамі існаванне ў Польшчы нацыянальных меншасцей. Актыўна сталі дзейнічаць меншасныя арганізацыі, у іх ліку — Беларускае грамадска-культурнае таварыства і яго друкаваны орган — тыднёвік "Ніва" ў Беластоку. Я ўключыўся ў арганізацыю беларускага культурнага жыцця, наладзіў кантакты з нашым беларускім тыднёвікам, і ў 1957 годзе стаў яго штатным рэдактарам. Таму нядзіўна, што менавіта на той час прыпадае мой спознены творчы дэбют. Трэба было неяк наверстаць страчаны час. Што я і зрабіў. Таму за гэтыя гады апублікаваў у "Ніве" звыш 2500 сваіх вершаў, сотні артыкулаў і ўспамінаў.



— Сёння на Беласточчыне вы самы старэйшы беларускі літаратар. З друку выйшлі ў Польшчы і ў Беларусі вельмі шмат вашых кніг на нашай роднай мове. Ці цяжка пісалася і пішацца беларускаму літаратару ў іншай краіне? Хаця Польшча для вас была і застаецца Радзімай.

— У нашым беларускім літаратурным асяроддзі найстарэйшым з'яўляецца былы галоўны рэдактар "Нівы" Георгі Валкавыцкі, я займаю другое месца. Выдаў я дагэтуль 15 паэтычных зборнікаў, пяць з іх — у маім перакладзе на польскую мову. Жыў і працаваў у Варшаве сорак гадоў, і за гэты перыяд выйшлі з друку толькі тры мае паэтычныя кніжкі. Ніхто мяне не здолеў вырваць з беларускага грунту на Беласточчыне, так глыбока запусціў я тут свае карані. Таму жывучы ў Варшаве, я пастаянна ўслаўляў сваю малую айчыну — Беласточчыну, а варшаўскай тэматыцы прысвяціў толькі невялікую частку сваіх твораў. Каб не адчуваць сябе адзінокім у польскім асяроддзі, працаваў у Варшаўскім аддзеле Беларускага грамадска-культурнага таварыства (БГКТ). Аддзел налічваў каля 300 сяброў, большасць з іх былі студэнтамі вышэйшых навучальных устаноў Варшавы. Мы арганізоўвалі клубную культурна-асветную працу, праводзілі лекцыйную дзейнасць з беларускай тэматыкай. Наладжвалі аўтарскія сустрэчы з беларускімі і польскімі пісьменнікамі, якія жылі ў Варшаве, і пісьменнікамі з Беларусі, якія наведвалі Варшаву. Адбыліся сустрэчы з Максімам Танкам, Пятром Глебкам, Уладзімірам Караткевічам, Адамам Мальдзісам, Алегам Лойкам, а таксама з многімі навуковымі супрацоўнікамі з Беларусі.

У сваім зборніку "Мае айчыны" сцвярджаю, што я надта багаты, маю аж тры айчыны: Польшчу, якая мяне ўзгадавала, адукавала і дала працу, Беларусь, якая мяне натхняе да творчай дзейнасці, і малую айчыну — Беласточчыну, якую я ўслаўляю ў сваіх вершах, якая з'яўляецца маёй калыскай і будзе неўзабаве маім спачынам. Толькі ў пенсійны перыяд я пераехаў на Беласточчыну, але і тут разгарнуў свае крылы — выдаў аж дванаццаць паэтычных кніг!

— Ведаю, што для дзяцей пісаць няпроста. Але вы заўсёды сваімі творамі радавалі юных чытачоў. Нядаўна я зноў перачытаў вашы светлыя, арыгінальныя зборнікі для дзяцей "Вясёлка", "Вершы Натальцы", "Смяшынкі". Няўжо і праўда, як пісала Тэрэза Занеўская, вашы вершы для дзяцей "уваскрашаюць мінулы час маладосці"?

— Нягледзячы на тое, што ў мяне было цяжкое дзяцінства, — люблю вяртацца ў сваіх успамінах у перыяд дзяцінства і маладосці, і надта люблю не толькі сваю дачушку Наталку, але ўсіх мілых дзетак, якім адрасаваў шэсць сваіх кніжак. Беручы пад увагу першыя два зборнікі, у якіх знайшліся таксама раздзелы вершаў для дзяцей, магу з упэўненасцю сцвердзіць, што палова маёй паэтычнай творчасці належыць маладому пакаленню. Сотні праведзеных мною ў беларускім асяроддзі на Беласточчыне сустрэч — гэта ў большасці сустрэчы са школьнай моладдзю. Мая паэзія для дзяцей вядомая таксама і ў Беларусі, дзе быў надрукаваны ў выдавецтве "Мастацкая літаратура" ў 1976 годзе ў Мінску мой зборнік для дзяцей "Дружба" з прыгожымі каляровымі малюнкамі неймаверным тыражом — 50 тысяч экземпляраў! Надта цешуся, што мае вершы для дзяцей уключаюцца і ў Беларусі ў дзіцячыя анталогіі і падручнікі.

— Ці часта вы бываеце на Беларусі? З кім сябруеце, кантактуеце?

— Да болю патрэбныя мне кантакты з Беларуссю, з яе творчым асяроддзем. Патрэбныя размовы з людзьмі, літаратурныя і культурныя навіны. Першы раз пабываў у Мінску ў 1957 годзе, калі вяртаўся з Масквы з сёмага Міжнароднага фестывалю моладзі і студэнтаў. Вельмі папулярная ў той час у Беларусі цёця Уладзя, жонка Янкі Купалы, прыняла мяне вельмі сардэчна і пазнаёміла з Купалаўскім музеем у Мінску. Быў я знаёмы з таленавітымі беларускімі пісьменнікамі, якія ўжо адышлі ў вечнасць: Ларысай Геніюш, Канстанцыяй Буйла, Максімам Танкам, Уладзімірам Караткевічам, Пятром Глебкам, Піліпам Пестракам, Алесем Адамовічам, Янкам Брылём, Алегам Лойкам, Аляксеем Карпюком, Барысам Сачанкам і Аляксеем Гардзіцкім. Вельмі добра ўспрымаю кантакты з Вольгай Іпатавай, Нілам Гілевічам, Рыгорам Барадуліным, Генадзем Бураўкіным, Васілём Зуёнкам, Уладзімірам Казберуком, Уладзімірам Някляевым, Янкам Саламевічам, Сяргеем Панізнікам, Іванам Пташнікавым, Сяргеем Законнікавым, Анатолем Вярцінскім. У сардэчных адносінах знаходжуся з выхадцам з Беласточчыны Яўгенам Міклашэўскім, які быў рэдактарам трох маіх зборнікаў. Адам Мальдзіс напісаў сцэнарый да тэлефільма аб маёй творчасці, апрацаванага Мінскім тэлебачаннем у 1990 годзе. Знаёмы я таксама з многімі пісьменнікамі Гродна. Паэт Юрка Голуб апублікаваў інтэрв'ю са мною ў "Гродзенскай праўдзе", Марыя Шаўчонак апрацавала тэлефільм з нагоды майго сямідзесяцігоддзя і прысвяціла верш. Цешуся, што ў апошнія гады бываю ў Беларусі даволі частым госцем.

— На вашу думку, у якім сённяшняй стане знаходзіцца беларуская творчая плынь у Польшчы?

— Наша творчая арганізацыя — Беларускае літаратурнае аб'яднанне "Белавежа" адсвяткавала ўжо пяцідзесяцігоддзе сваёй дзейнасці. Актуальна дзейсных літаратараў у арганізацыі дваццаць асоб, якія маюць свае ўласныя кнігі. З друку выйшлі звыш 200 кніжак, 7 альманахаў і 12 гадавікоў "Тэрмапілаў". "Белавежа" — гэта адзіная па-за межамі Беларусі творчая арганізацыя са знакам шматгадовай нацыянальнай духоўнай культуры. Сучасная Польшча — краіна дзвюх літаратур: польскай і беларускай. Таму беларуская літаратура Польшчы належыць як польскаму, так і беларускаму кантэксту. Польскія літаратурныя крытыкі сцвярджаюць, што "Белавежа" з'яўляецца найстарэйшай, і з найбольшымі творчымі дасягненнямі, літаратурнай групай у краіне.

— Што чытаеце? Якія кнігі і творы хочацца чытаць і перачытваць?

— Нягледзячы на слабыя вочы, прачытаў у жыцці вельмі многа кніг з мастацкай літаратуры. Будучы студэнтам кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта перачытаў усе беларускія кніжкі, якія знаходзіліся ў бібліятэцы Варшаўскага аддзела БГКТ і ў арыгінале асноўную рускую класіку. Знаёмлюся з польскай мастацкай літаратурай, асабліва з паэзіяй, якую выбарачна перакладаю на беларускую мову. Вельмі шкадую, што апошнім часам малавата атрымліваю літаратурных навінак з Беларусі.

— Неяк нетактоўна ў 85-гадовага чалавека пытацца пра яго мару. Тым не менш, я веру, што вы сустрэнеце і новыя юбілеі, таму смела пытаюся: ці ёсць у беларускага паэта з Польшчы мара?

— Пачаў я ўжо пакрысе падсумоўваць у сваё 85-годдзе. Нягледзячы на сталы ўзрост, яшчэ маю, аднак, мару. Хочацца напісаць крыху новых вершаў, бо, сапраўды, ёсць аб чым пісаць. Мару яшчэ працягнуць завяршэння на нашай польскай "адлізе" ўспаміны з даволі доўгага і складанага, але цікавага жыцця, бо ніхто гэтага за мяне не зробіць.

— Вы шмат пражылі і на сваім жыцці, відаць, сустракаліся з таленавітымі людзьмі. Згадайце іх.

— Сапраўды, сустракаўся я ў сваім жыцці з цікавымі і таленавітымі беларусамі. Прывозіў з чэхаславацкай Прагі на гастролі на Беласточчыну славутага спевака Міхася Забэйду-Суміцкага. Ездзіў у Вільню да вядомага беларускага мастака Пятра Сергіевіча і апублікаваў у тыднёвіку "Ніва" ў Беластоку вялікую працу аб яго карцінах. Знаходзячыся ў Маскве, адведаў таленавітую паэтэсу Канстанцыю Буйла, з якою запісаў размову для "Нівы". Падпісала яна мне свой паэтычны зборнік "Май" з прысвячэннем: "Віктару Мікітавічу Шведу на добры ўспамін. Масква, 10 студзеня 1984 г.". Цешуся, што яшчэ ўбачыўся з паэтэсай перад яе адыходам у вечнасць. Хачу прыгадаць, што яе верш "Люблю наш край" стаў беларусам Беласточчыны народным гімнам, які спяваецца на ўсіх нашых культурных урачыстасцях. Пазнаёміўся таксама з вядомым беларускім пісьменнікам Васілём Быкавым, які знаходзіўся ў складзе беларускай урадавай дэлегацыі, што наведала Беласток у 1993 годзе. Паразмаўлялі мы сардэчна, і я падпісаў пісьменніку свой паэтычны зборнік "Родны сход".

— І, нарэшце, традыцыйнае пытанне: што на рабочым стале ў паэта Віктара Шведа?

— Рыхтую да друку чарговы, можа, ужо апошні свой паэтычны зборнік вершаў. Памяняў загаловак, таму што агарнуў мяне сум. Знікае ў маёй вёсцы Мора на Беласточчыне род Шведаў. Адышлі ў вечнасць мае бацькі, сястра Ніна і брат Пётр. Застаўся толькі я — як апошні з магікан. У зборніку многа вершаў аб тым, што мінула. Таму выбраў сімвалічны загаловак — "Адплываем з Мора".

Сяргей ЧЫГРЫН

На здымку: Віктар Швед з міністрам культуры Рэспублікі Беларусь Паўлам Латушкам.

Фота Міры Лукшы

Паласу падрыхтавалі доктар філалагічных навук, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь Адам Мальдзіс і кандыдат філалагічных навук Жанна Запартыка.










# Адна ты на ўсіх, Перамога!

(Пачатак на стар. 1)

У сховішчах НББ налічваецца каля 200 плакатных лістоў 1941 — 1945 гадоў выдання, больш як 500 адзінак плакатаў захоўваецца ў фондах музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны. На выстаўцы дэманструюцца плакаты першага тыдня, месяца вайны. Усе яны прысвечаны і адлюстроўваюць першыя падзеі Вялікай Айчыннай. Тут напачатку пакуль сімвалічныя, метафарычныя выявы ворага: тарантул, скарпіён. А далей дамініруючым становіцца геранічны плакат.

Прадстаўлены знакамітая серыя плакатаў "Боевой карандаш", якая нарадзілася на другі дзень вайны і існавала ў дні блакаднага Ленінграда (усяго выйшлі 102 нумары), вядомая серыя "Окна ТАСС", якую рабілі маскоўскія мастакі (у 1970 годзе два плакаты ў музей перадалі непасрэдна мастакі Кукрыніксы), а таксама серыя "Вялікая Айчынная вайна", якая акрамя выяў нясе вялікі інфармацыйны матэрыял. У экспазіцыі — класічныя плакаты з калекцый ваенных гадоў бібліятэкі і музея, якія прызнаны лепшымі мастацтвазнаўцамі Савецкага Саюза. Сярод іх аўтараў — І. Таідзе, А. Какарэкін, Л. Галаванаў, М. Купрыянаў, В. Дэні, В. Карэцкі, В. Іваноў, Н. Ватоліна, М. Сакалоў... У наведвальнікаў выстаўкі ёсць магчымасць убачыць плакаты беларускіх мастакоў С. Раманава, М. Гуціева, якія выдатна працавалі ў тэме адналення Мінска і праслаўлення беларускіх партызан.

Унёсак плакатыстаў у перамогу над ворагам быў заўважаны кіраўніцтвам савецкай дзяржавай невыпадкова: яны былі ўдастоены Дзяржаўнай прэміі СССР за ваенны плакат.

У рамках адкрыцця выстаўкі адбылася прэзентацыя мультымедыйнага выдання Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі "Паклонімся вялікім тым гадам: 65-годдзю Вялікай Перамогі прысвячаецца". Адзін з яго складальнікаў загадчык сектара рэтраспектыўнай нацыянальнай бібліяграфіі НББ Людміла Дранец зазначыла, што выданне адлюстроўвае ўклад беларускага народа ў барацьбу з нямецка-фашысцкімі акупантамі і складзена з наступных раздзелаў: бібліяграфічныя дапаможнікі, падпольны і партызанскі друк, плакаты і песні пра вайну. Першы раздзел заслугоўвае асобнай увагі. Ён змяшчае звесткі пра дакументы, якія выйшлі ў свет з 1941 года па сённяшні дзень, і ўключае шмат бібліяграфічных запісаў. У гэтым раздзеле прадстаўлены чатыры бібліяграфічныя паказальнікі, якія выдадзены НББ з 1980 па 1996 год. Істотным дадаткам да яго стаў падрыхтаваны бібліяграфічны спіс літаратуры, апублікаванай у 1995 — 2009 гадах. У ім прадстаўлены звесткі пра манаграфіі, аўтарэфераты дысертацый, дысертацыі, нотныя і аўдыёдакументы, картаграфічныя выданні, электронныя рэсурсы на беларускай, рускай і замежных мовах. Другі раздзел кампакт-дыска — падпольны і партызанскі друк, у які ўключаны падраздзелы: газеты, лістоўкі, рукапісныя матэрыялы і насценгазеты. Гэты друк адыграў вялікую ролю ў арганізацыі і дзейнасці партызанскага руху і мае вялікае значэнне для вывучэння гісторыі Вялікай Айчыннай. Першымі падпольнымі выданнямі былі лістоўкі, звароты да насельніцтва, машынапісныя газеты і бюлетэні. На іх старонках змешчаны заклікі ўступаць у партызанскія атрады, весці актыўную барацьбу ў тыле ворага, не выконваць загады і распараджэнні акупацыйных улад. У гэтым раздзеле адлюстраваны электронныя копіі 98 лістовак, 50 назваў газет і газет-плакатаў, а таксама копіі насценгазет і рукапісных матэрыялаў, якія захоўваюцца ў адзіным экземпляры і прадстаўляюць адмысловую каштоўнасць для сучаснікаў і будучых пакаленняў.







У раздзеле плакаты ўключаны электронныя копіі плакатных выданняў перыяду Вялікай Айчыннай з фондаў НББ: франтавой, партызанскай, тылавой і акупацыйнай тэматыкі. Завяршае выданне раздзел песень пра вайну: 17 гуказапісаў ваеннай тэматыкі, сярод якіх песні беларускіх кампазітараў І. Лучанка, Л. Захлеўнага. Гэта выданне дапаможа ў вывучэнні гісторыі Вялікай Айчыннай, адыграе вялікую ролю ў патрыятычным выхаванні маладога пакалення і будзе карысным усім, хто захапляецца гераічным мінулым нашай краіны.

2010 год у Беларусі, як і ў іншых краінах постсавецкай прасторы, праходзіць пад знакам значнай даты — 65-годдзя Вялікай Перамогі. Напярэдадзе шмат сустрэч, цікавых акцый, добрых спраў, прысвечаных гэтай слаўнай даце. І іх галоўная мэта — атуліць нашай пашанай і ўвагай кожнага ўдзельніка Вялікай Айчыннай вайны, прыгадаць тых, каго, на жаль, ужо няма з намі, запаліць свечку памяці ў сэрцы кожнага нашага сучасніка. Не затуманьваецца слава подзвігу народнага, жыве сёння, і з пакалення ў пакаленне ідзе ў заўтра эстафета памяці. А памяць — гэта наша сумленне.

Віктар КАВАЛЁЎ

Фота Кастуся Дробава

## У наступным нумары

У "ЛіМе" (№ 14, 2010) было надрукавана апытанне студэнтаў-выпускнікоў філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага універсітэта адносна будучыні айчыннай літаратуры. Зразумела, што меркаванні студэнтаў — суб'ектыўныя. У іх, як і ў кожнага чытача, — свае густы, погляд і прыярытэты. Таму зусім не дзіўна, што ў ацэнках творчасці адных пісьменнікаў яны кардынальна разышліся, а наконт іншых — аднадушна пагадзіліся.

У наступным нумары тыднёвіка чытачы змогуць пазнаёміцца з меркаваннямі навучэнцаў філалагічнага факультэта Гомельскага дзяржаўнага універсітэта імя Ф. Скарыны.

З глыбінкі

# Лёс, апалены вайною

**Багата розных мерапрыемстваў праходзіць у бібліятэках Мядзельшчыны да 65-годдзя Перамогі над нямецка-фашысцкімі захопнікамі. Адметным стаўся, у прыватнасці, конкурс на стварэнне лепшай базы даных "Іх лёс вайной апалены". Па яго выніках у цэнтральнай раённай бібліятэцы імя Максіма Танка аформілі выставу-прэзентацыю.**

Адной з лепшых падобная база атрымалася ў супрацоўнікаў Крывіцкай пасялковай бібліятэкі.

— У нас вядзецца вялікая пошукавая работа па збіранні матэрыялаў па гісторыі Вялікай Айчыннай вайны, — расказвае загадчык Крывіцкай бібліятэкі Даната Савіцкая. — Прычым, распачалася яна даўно. Да мяне ў гэтым кірунку дзейнічала Ганна Несцерава, а мы разам з бібліятэкарам Алай Гурло яе справу прадоўжылі. Збіраем фотаздымкі, успаміны ветэранаў вайны. Усё гэта афармляецца ў тэматычныя папкі — ужо іх больш як дваццаць. Ёсць матэрыялы пра тых ветэранаў, хто сёння жыве, і тых, хто памёр, пра крывічан, якія ў вайну былі дзецьмі. У базе даных таксама маюцца раздзелы "Жаночы твар вайны", "Юнацтва, апаленае вайной". Дадам, што ў гэтай рабоце супрацоўнічаем з Крывіцкай сярэдняй школай. Матэрыялы знаходзяцца ў нашай бібліятэцы, і ўсе ахвотныя могуць з імі пазнаёміцца.

Такім чынам, жыхары пасёлка могуць падрабязна даведацца пра жыццё мясцовых ветэранаў і падзеі Вялікай Айчыннай вайны ў сваім рэгіёне. А найбольш кранаюць за сэрца, прызнаецца Даната Савіцкая, успаміны пра зверствы фашыстаў на крывіцкай зямлі. Пра гэта немагчыма забываць...

Алесь ВЫСОЦКІ

Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь
ГА "Саюз пісьменнікаў Беларусі"
РВУ "Літаратура і Мастацтва"

ГАЛОЎНЫ РЭДАКТАР
Алесь КАРЛЮКЕВІЧ





Адрас рэдакцыі:
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 284-84-61
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
Аддзелы:
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-82-04, 284-66-71
бухгалтэрыя — 284-66-72
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнеце: www.lim.by



Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра РВУ "Літаратура і Мастацтва".
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
Выдавец:
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і Мастацтва".
Друкарня Рэспубліканскага унітарнага прадпрыемства "Выдавецтва "Беларускі Дом друку" г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 63856
Наклад 3068
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 06.05.2010 у 11.00
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7
Заказ — 2095
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 0024-6686